МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Установа адукацыі
"МАГІЛЁЎСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ
імя А.А. КУЛЯШОВА"

В.І. Еўмянькоў

# ЛІТАРАТУРНАЕ РЭДАГАВАННЕ І КНІГАВЫДАННЕ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ (XI – першая палова XVII стст.)

Вучэбна-метадычныя матэрыялы

У ??? частках
Частка першая

Магілёў 2012

УДК 655.5 (075.8)
ББК 76.1 (4 Беи)
Е19

*Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета*
*УА "МДУ імя А.А. Куляшова"*

Р э ц э н з е н т ы:
Начальнік кафедры сацыяльна-гуманітарных дысцыплін
УА "Магілёўскі вышэйшы каледж МУС Рэспублікі Беларусь",
кандыдат філалагічных навук, дацэнт *С.І. Даніленка*;

Дацэнт кафедры беларускай літаратуры
УА "Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.А. Куляшова",
кандыдат філалагічных навук, дацэнт *М.І. Чмарава*

**Еўмянькоў, В.І.**
Е19 Літаратурнае рэдагаванне і кнігавыданне на тэрыторыі Беларусі (XI – першая палова XVII стст.): вучэ.-метад. мат-лы. – У 3 ч. Ч. 1 / В.І. Еўмянькоў. – Магілёў: УА "МДУ імя А.А. Куляшова", 2012. – 156 с.: іл.

Прапанаваныя вучэбна-метадычныя матэрыялы па курсе "Літаратурнае рэдагаванне" прызначаны для студэнтаў спецыяльнасці "Журналістыка". Работа мае на мэце ўвесці ў навуковы ўжытак звесткі па гісторыі рэдагавання і кнігавыдання на тэрыторыі Беларусі, пазнаёміць са спецыфікай падрыхтоўкі рукапісаў у перыяд Сярэднявечча, Рэнесансу і ранняга Барока. Вучэбна-метадычныя матэрыялы складаюцца з тэкстаў лекцый, заданняў для самастойнай працы студэнтаў, а таксама з тэставых заданняў.

**УДК 655.5 (075.8)**
**ББК 76.1 (4 Беи)**

# ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Літаратурнае рэдагаванне – дысцыпліна, якая займае важнае месца ў працэсе падрыхтоўкі будучага журналіста, бо мае на мэце азнаямленне з метадалагічнымі навуковымі асновамі рэдактарскага аналізу і праўкі тэксту. У курсе лекцыйных і практычных заняткаў фарміруюцца прафесійныя навыкі ўдасканальвання тэксту, прызначанага да друку, тэлерадыёэфіру. Прадугледжана вывучэнне гісторыі рэдагавання як своеасаблівай школы, творчага і прафесійнага арыенціру для сучаснага рэдактара. Асэнсоўваецца рэдактарская дзейнасць як беларускіх (Ф. Скарына, С. Будны, С. Полацкі, Я. Купала, П. Броўка і інш.), так і расійскіх (М.В. Ламаносаў, А.С. Пушкін, В.Р. Бялінскі, М.А. Някрасаў, Л.М. Талстой, А.П. Чэхаў і інш.) дзеячоў.

Асноўны акцэнт выкладчыкамі робіцца на рэдактарскім набытку нашых усходніх суседзяў. Гэта абумоўлена аб'ектыўнымі прычынамі – у Расіі гістарычныя аспекты рэдагавання ўсебакова даследаваны і выкладзены ў шэрагу вучэбных дапаможнікаў (Накорякова, К.М. "Редакторское мастерство в России XVI – XIX вв." (1973), Накорякова, К.М. "Очерки по истории редактирования в России XVI – XIX вв: Опыт и проблемы" (2004) і інш.). Што да гісторыі рэдагавання на тэрыторыі Беларусі, то спецыяльных, грунтоўных даследаванняў гэтай праблемы, наколькі нам вядома, не існуе.

Ёсць яшчэ адна прычына, якая перашкаджае сістэматызацыі і аналізу назапашанага беларускімі рэдактарамі вопыту – большасць крыніц, неабходных для навуковага даследавання матэрыялу XIV – XIX стст., знаходзіцца ў аддзелах рэдкай кнігі бібліятэк Расіі, Літвы, Польшчы, Украіны і ЗША. Доступ да іх, на жаль, абмежаваны, таму цэласнай карціны гісторыі беларускага рэдагавання да гэтага часу не існуе. Разам з тым, той матэрыял, які ўсё ж выяўлены і асэнсаваны беларускімі навукоўцамі (М. Нікалаеў, В. Чамярыцкі, Я. Карскі, Н. Бярозкіна, І. Саверчанка, А. Мальдзіс і інш.), дазваляе канстатаваць багацце і разнастайнасць традыцый беларускага рэдагавання як у перыяд Сярэднявечча, Рэнесансу, так і ў перыяд Барока, Асветніцтва.

Складаючы матэрыялы па гісторыі рэдагавання, мы зыходзілі з пазітыўнай перспектывы даследавання і арыентаваліся на спадчыну шматкультурнай / шматмоўнай Беларусі. Метадалагічнай базай для першага этапу навуковага пошуку паслужылі работы Я. Карскага, М. Нікалаева,

В. Чамярыцкага, Н. Бярозкінай і інш. Пры гэтым **аб'ектам даследавання** зрабіліся ўжо апрацаваныя звесткі аб манускрыптах і старадруках. Прадметам даследавання сталі, па-першае, спецыфіка падрыхтоўкі рукапісаў у перыяд з XI па XVII стст. і, па-другое, кнігавыданне як гістарычны і культурны феномен Беларусі акрэсленага перыяду.

Храналагічныя межы ўсталёўваліся не выпадкова: адштурхоўваючыся ад фактычнага пачатку кніжнай культуры на тэрыторыі Беларусі (XI ст.), мы спыніліся на гістарычным моманце "апакаліптычнай вайны" Рэчы Паспалітай з Маскоўскім княствам і Шведскім каралеўствам у сярэдзіне XVII ст. Разгляд гісторыі рэдагавання на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў другой палове XVII – першай палове XVIII стст., а таксама ў перыяд Асветніцтва і Рамантызму плануецца ў наступнай частцы работы.

У працэсе асэнсавання матэрыялаў, якія маюць дачыненне да гісторыі рэдагавання пачатку XV – першай паловы XVII стст., навуковай базай для даследавання паслужылі, па-першае, бібліяграфічныя апісанні расійскіх бібліятэк пачатку XIX ст. (напрыклад, "Обстоятельное описаніе старопечатныхъ книгъ славянскихъ россійскихъ, хранящихся въ библіотекэ графа Фёдора Андреевича Толстова"), па-другое, даследаванні беларускіх (Т. Нарбут, Л. Кандратовіч) і польскіх (М. Балiньскі, Ю. Беліньскі, Ю. Кжыжаноўскі, М. Вішнеўскі і інш.) аўтараў.

Навукова-метадычнае асэнсаванне матэрыялаў XV – XVII стст. дазволіла пашырыць аб'ект даследавання: дзякуючы падрабязным бібліяграфічным апісанням старадрукаў у польскіх крыніцах пачатку XIX ст., удалося, па-першае, працытаваць, па-другое, прааналізаваць надзвычай рэдкія ў беларускім наратыве рэдактарскія і выдавецкія каментары да рэнесансных і барочных кніг.

Так, у рабоце цытуюцца прадмовы Ф. Скарыны, І. Фёдарава, Мамонічаў, С. Буднага, віленскіх і еўеўскіх братчыкаў, базыльян (А. Дубовіч), езуітаў (П.Скарга) і інш. Студэнты знаёмяцца з Астрожскай і Брэсцкай Бібліямі, прадмовамі, напрыклад, да Евангелля вучыцельнага 1616 г. У кантэксце адукацыі будучых журналістаў карыснымі варта лічыць матэрыялы, якія аналізуюць "навінкі" і рэляцыі (правобразы сучасных СМІ) у перыяд другой паловы XVI – XVII стст. Не менш істотнай уяўляецца інфармацыя аб увядзенні цэнзуры ў 1580 г. на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, а таксама аб адным з першых публічных знішчэнняў кніг у 1581 г. (г. Вільня).

Зыходзячы з агульнага для работы аб'екта даследавання – **факты кніжнай і рукапіснай культуры Беларусі акрэсленага перыяду** – вучэбна-метадычныя матэрыялы варта рэкамендаваць студэнтам, якія вывучаюць такія дысцыпліны, як "Літаратурнае рэдагаванне", "Гісторыя беларускай журналістыкі", "Беларуская літаратура", "Гісторыя Беларусі",

“Гісторыя замежнай (польскай, літоўскай) журналістыкі“, “Публіцыстычнае майстэрства”.

Выкладанне гістарычнага аспекту вучэбнай дысцыпліны “Літаратурнае рэдагаванне” ўключае ў сябе лекцыі, практычныя заняткі, а таксама прадугледжвае арганізацыю самастойнай працы студэнтаў. Для яе метадычнага забеспячэння прапануюцца тэставыя заданні для самакантролю ведаў, а таксама пытанні для самападрыхтоўкі, дыскусійныя пытанні і тэмы рэфератыўных паведамленняў.

# §1. РЭДАГАВАННЕ ПЕРЫЯДУ КІЕЎСКАЙ РУСІ

**1.1.** Агульная характарыстыка перыяду.
**1.2.** “Аповесць мінулых гадоў”.
**1.3.** “Слова пра паход Ігара”.
**1.4.** Дзейнасць Кірылы Тураўскага.
**1.5.** Агіяграфія.

**Агульная характарыстыка перыяду.** Гісторыя рэдагавання непарыўна звязана з гісторыяй пісьменнасці, а таксама з гісторыяй кнігі як універсальнага сродка захавання і перадачы інфармацыі. Пісьменнасць (у сучасным разуменні гэтага паняцця) на тэрыторыі Беларусі ўзнікла прыкладна ў X ст. Гэтаму паспрыяла тое, што ў IX ст. былі створаны: а) літаратурная мова (стараславянская, або царкоўнаславянская); б) першы славянскі алфавіт (існавалі яго 2 варыянты: глаголіца і кірыліца). Складальнікі найбольш распаўсюджанай кірыліцы − балгарскія асветнікі грэчаскага паходжання Кірыла і Мяфодзій.

Шырокае ўжыванне пісьменнасць атрымала толькі пасля прыняцця Кіеўскай Руссю хрысціянства. Афіцыйна гэта адбылося ў 988 г., аднак інтэнсіўная хрысціянізацыя[1] пачынаецца толькі ў другой палове XI ст. Менавіта ў гэты перыяд паўстае патрэба ў распаўсюджанні і паўсядзённым ужыванні спачатку богаслужэбных, а потым і свецкіх кніг.

У гісторыі ўзнікнення і распаўсюджання кнігі на тэрыторыі Беларусі перыяд з XI па першую палову XIII стст. прынята адносіць да **спадчыны Кіеўскай Русі (ранняе Сярэднявечча)**. У фондзе “рускіх кніг” гэтага перыяду захоўваецца 262 рукапісныя кодэксы, з іх 6 створаны непасрэдна на тэрыторыі сучаснай Беларусі (меней за 3%) − у тым ліку Тураўскае, Полацкае і Аршанскае Евангеллі, Супрасльскі рукапіс XI ст. [16, с. 19]. На тэрыторыі нашай краіны былі вядомыя Астраміравa Евангелле (напісана ў 1056 г. для наўгародскага пасадніка Астраміра) і “Ізборнік” (1073 г.). Хаджэнне мелі як рэлігійныя перакладныя кнігі (Евангелле, Псалтыр, жыціі, Чэцці-Мінеі і інш.), так і свецкія (“Хроніка Георгія Амартала”, “Гісторыя Іудзейскай вайны” і інш.).

---

[1] Заўвага − толькі ў 1072 г (ці каля 1088 г.) засноўваецца праваслаўная епіскапская кафедра ў Тураве, у 1104 г. − у Полацку [16, с. 18].

**Тураўскае Евангелле** – кароткі апракас XI ст. Захавалася 10 аркушаў, знойдзеных у скрыні з-пад вугалю. Уяўляе сабой пергаменны сшытак, які да XVI ст. знаходзіўся ў тураўскай Прэабражэнскай царкве. Почырк рукапісу – устаў, упрыгожаннем служаць ініцыялы старавізантыйскага тыпу.

**Полацкае Евангелле** – кніга XII ст. Належала Троіцкаму манастыру ў Полацку. Перапісана ў два слупкі двума людзьмі. Выкарыстаны тып почырку – устаў. Пергамен рукапісу захаваў разметкі лінеек вострым пісалам. Упрыгожванні вельмі сціплыя.

**Аршанскае Евангелле** – поўны апракас канца XII – пачатку XIII стст. Знойдзена сярод рэчаў, выкінутых салдатамі Напалеона з аршанскіх манастыроў. Надзвычай прыгожая кніга, аздобленая больш як 300 выкананымі ў “звярыным” стылі ініцыяламі. Ёсць дзве ацалелыя мініяцюры. На адной з іх – евангелісты Матфей і Лука.



**Мал. 1.** Тураўскае Евангелле XI ст.

Усе названыя кнігі – **манускрыпты**: ствараліся ў рэчышчы балгара-візантыйскіх традыцый рукапісных кніг: "пісаліся буйным разборлівым почыркам (уставам) на цялячай скуры (пергамене), упрыгожваліся каляровымі мініяцюрамі, залатымі і срэбранымі абкладамі з каштоўнымі камянямі" [17, с. 22].

Нараджаліся кнігі ў майстэрнях (скрыпторыях) пры буйных манастырах. Зыходзячы з таго, што ў Сярэднявеччы паняцця "аўтарскае права" амаль не існавала, пэўныя тэксты (за выключэннем біблейных і тых твораў, якія належалі "бацькам царквы") не проста механічна перапісваліся, але і часта істотна змяняліся. Кнігапісец мог дадаць, скараціць, упрыгожыць твор, *выконваючы ў вядомай ступені функцыі літаратурнага або мастацкага рэдактара.* Гэтым тлумачыцца варыянтнасць аднаго і таго ж тэксту, створанага ў перыяд Кіеўскай Русі.



**Мал. 2.** Нестар (малюнак XIX ст.)

**"Аповесць мінулых гадоў"** мае некалькі рэдакцый – у тым ліку рэдакцыя, якая захавалася ў складзе Лаўрэнцьеўскага летапіснага зводу (заключную частку твора дапрацаваў ігумен Выдубецкага манастыра Сільвестр), і рэдакцыя – у Іпацьеўскім зборы (зроблена па загаду князя Мсціслава Уладзіміравіча ў 1118 г.) [16, с. 19].

Важна падкрэсліць тое, што аўтар першай рэдакцыі "Аповесці..." (не захавалася) манах Кіева-Пячорскай лаўры Нестар выступаў не толькі як збіральнік і транслятар гістарычнай інфармацыі, фальклорнага і літаратурнага матэрыялу, але і як рэдактар, які перапрацаваў так званы Першапачатковы летапісны звод, дадаў да яго біблейную легенду пра сыноў Ноя і Вавілонскае стоўпатварэнне, а таксама выкарыстаў фрагменты з "Хронікі Георгія Амартала".

У "Аповесці..." праяўляецца мэтанакіраванае жаданне Нестара гісторыю Русі, з аднаго боку, уключыць у сусветны гістарычны працэс, а з другога – звузіць да паняцця "Кіеўская Русь". Нестар у створанай ім першай рэдакцыі "Аповесці" адстойваў ідэю палітычнага і культурнага адзінства ўсходніх славян, лічыў гэтае адзінства не толькі натуральным (усе паходзяць ад аднаго прабацькі), але і неабходным для захавання незалежнасці Русі.

Патрыятычная ідэя, кіеўская тэматыка сплаўлялі ў адно часткі, стракатыя і паводле жанраў, і паводле стылю, рабілі “Аповесць...” не проста кампіляцыяй асобных тэкстаў, а сапраўды цэласным творам. Істотна таксама тое, што манах Нестар гістарычныя факты, запазычаныя з розных летапісных крыніц, падаў па-мастацку, шырока выкарыстоўваючы публіцыстычны стыль, вобразныя сродкі (іншымі словамі, *выступіў у ролі літаратурнага рэдактара старажытнарускіх гістарычных хронік*).

**“Слова пра паход Ігара”.** Ідэйны змест “Аповесці...” надзвычай блізкі да зместу яшчэ аднаго твора перыяду Кіеўскай Русі – **“Слова пра паход Ігара”**. Аўтару гэтага тэксту ўдалося спалучыць традыцыі сярэднявечнай хрысціянскай кніжнасці і народнай язычніцкай культуры. Легендарны Баян не столькі перадае інфармацыю пра няўдалы паход на полаўцаў, колькі робіць факт паражэння Ігара аргументам на карысць ідэі ваенна-палітычнага адзінства русічаў (уносіць публіцыстычны струмень у мастацкае апавяданне). Сёння цяжка сказаць, якія гістарычныя матэрыялы былі пакладзены невядомым аўтарам у аснову “Слова...”. Магчыма, выкарыстаны звесткі ў тым ліку і з так званага Полацкага летапісу (прысутнічае вобраз Усяслава Чарадзея, згадваецца бітва на Нямізе). У творы апавядаецца пра рэальныя падзеі, пазначаныя ў Іпацьеўскім і Лаўрэнцьеўскім летапісах. Свой аповед, аднак, аўтар падае не як педантычны рэгістратар фактаў, а як песнятворца, які па-мастацку асэнсоўвае гісторыю і ацэньвае яе, зыходзячы з уласных перакананняў (у творы яскрава праяўляецца аўтарская пазіцыя).

**Дзейнасць Кірылы Тураўскага.** Сярод верагодных аўтараў “Слова...” навукоўцы называюць і Кірылу Тураўскага, празванага сучаснікамі “златавустам”. Творы, якія прыпісваюцца яму (а такіх больш за 70), захоўваюцца ў розных спісах. Сучасныя навукоўцы даказалі тое, што ў некаторых з іх (11) пераважае кампілятыўная дамінанта [16, с. 19], г.зн. тое, што Кірыла Тураўскі выступаў не толькі як аўтар, але і як *рэдактар, які працаваў з ужо вядомымі тэалагічнымі тэкстамі, дапаўняў іх або скарачаў, паводле патрэбы.*

Так, на думку сучасных даследчыкаў, Кірыла Тураўскі паказвае знаёмства са спадчынай Іаана Златавуста, Грыгорыя Назіянзіна, Епіфанія Кіпрскага, Феафілакта Балгарскага і інш. вядомых аўтараў. Сярод кніг, веданне якіх адчуваецца ў тэкстах нашага земляка, “былі не толькі артадаксальныя і кананічныя творы. Аналіз яго выказванняў паказаў, што прапаведнік-філосаф карыстаўся апакрыфічнай кнігай Эноха – творам, які фігуруе практычна ва ўсіх царкоўных “Спісах забароненых кніг” (у прыватнасці, думка Кірыла пра тое, што ў райскім садзе д’ябал спакусіў не Адама, а Еву, узыходзіць менавіта да кнігі Эноха). Акадэмік В. Вінаградаў у сувязі з гэтым адзначае: “Творчасць Тураўскага – гэта мастацкая мазаіка. Тут асобныя элементы, як каштоўныя камяні, узяты

гатовымі з розных крыніц... але выбар іх, узаемаспалучэнне – усё гэта выканана самастойна" [49, с. 21].

Вызначыўся Тураўскі таксама і як каментатар Святога Пісання. У апавядальнай частцы "Слоў", якую разбівае на так званыя трыяды (іх ён пачынае словамі "днесь" / сёння і "ныне" / зараз), тлумачыць метафарычна-сімвалічны сэнс прыведзеных з Бібліі цытат. Часта гэтыя цытаты пашыраюцца. "Напрыклад, у "Слове на Вербную нядзелю" апісваецца ўезд Хрыста ў Ерусалім. Пры гэтым народ у Кірыла не проста выходзіць насустрач Ісусу, але "старци быстро шествоваху", "отроци скоро течаху, младенци яко крилати окрест Исуса паряще" [49, с. 21].

**Агіяграфія.** Хутчэй за ўсё рэдактары (і не адзін) былі ў агіяграфічных твораў, якія адносяцца да беларускага сегмента спадчыны Кіеўскай Русі, – **"Аповесць жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай"**, а таксама **"Жыціе Аўрамія Смаленскага".**

**Жыціе (агіяграфія)** – *жанр царкоўна-рэлігійнай літаратуры, апісанне жыцця і дзейнасці духоўнай асобы, святога, пустэльніка, аднаго з бацькоў царквы. Героі Ж. павінны служыць прыкладам для веруючых. Творы выконвалі маральна-дыдактычную функцыю – навучалі царкоўным абрадам і правілам, выхоўвалі пакорлівасць, набожнасць, сціпласць, прапагандавалі жыццё па Боскіх запаветах. Першыя агіяграфічныя творы на тэрыторыі Беларусі з'яўляюцца ў XI ст. з Візантыі праз пасрэдніцтва Балгарыі. Падзяляюцца на маральна-дыдактычныя (жыціі айцоў Васіля Вялікага, Макарыя Рымскага), антыерэтычныя ("Жыціе Фёдара Студзіта"), эсхаталагічныя ("Жыціе Андрэя Юродзівага"), прыгодніцкія ("Жыціе Яўстафія Плакіды"). Распаўсюджваліся як у выглядзе асобных кніг, так і ў спецыяльных зборніках – Пралогах і Чэццях-Мінеях. Першы арыгінальны ўсходнеславянскі агіяграфічны твор паўстаў у сярэдзіне XI ст. – "Казанне пра Барыса і Глеба". Ён зрабіўся асновай для "Жыція Барыса і Глеба". Першыя беларускія агіяграфічныя творы – "Аповесць жыцця і смерці Ефрасінні Полацкай" і "Жыціе Кірылы Тураўскага" – створаны ў XII ст. Прыблізна каля 30 – 40-х гг. XIII ст. паўстала "Жыціе Аўрамія Смаленскага".*

Манах Давыд, пяру якога найбольш верагодна належыць "Жыціе Еўфрасінні..." [63, с. 69], падаў не проста біяграфію ўнучкі Усяслава Чарадзея, а жыццяпіс ідэальнай жанчыны, святой, якая "сэрца сваё напоўніла Божай прамудрасцю". З усяго комплексу фактаў жыцця рэальнай Еўфрасінні-Прадславы аўтар выбраў толькі тыя, якія адпавядалі вобразу праведніцы ("нявесты Хрыстовай"), а яе ўчынкі тлумачыў пакліканнем Божым. Навукоўцы мяркуюць, што ў "Жыціі...", па-першае, адлюстраваліся ўласныя малітаслоўныя і павучальныя творы самой Еўф-

расінні, укладзеныя аўтарам у яе вусны" [2, с. 105], па-другое, шырока выкарыстоўваліся візантыйскія жыціі святых (Еўфрасінні Александрыйскай і Аляксея, чалавека Божага). Гэта дае падставы сцвярджаць наяўнасць кампіляцыі ўжо ў першапачатковай рэдакцыі твора. Аднак, на жаль, першы варыянт "Жыція...", напісаны на пачатку XIII ст., не захаваўся. Сёння ж налічваецца больш за сотню спісаў гэтага твора ў 6 розных рэдакцыях.

Прыкладна гэта ж можна сказаць і пра "Жыціе Аўрамія Смаленскага" (твор напісаны пасля 1237 г. манахам Яфрэмам). Тэкст, які захаваўся ў вялікай колькасці спісаў, змяшчае ў сабе шматлікія запазычанні з іншых сярэднявечных твораў ("Жыціе Барыса і Глеба", "Жыціе Феадосія Пячэрскага" і інш.).

**"Жыціе Аўрамія Смаленскага"** – *агіяграфічны твор, помнік старажытнабеларускай літаратуры. Напісаны ў канцы 30 – пачатку 40-х гг. XIII ст. Аўтар – вучань смаленскага прапаведніка, ігумена Багародзіцкага манастыра Аўрамія (каля 1146 – пасля 1219 гг.), настаяцель Рызапакладзенскага манастыра Яфрэм. У цэнтры жыццяпісу – вобраз ідэальнага героя-святога, які служыў у манастыры "во труде и во бдении, и во алкании день и нощь". Аўрамій маляваў абразы, перапісваў свяшчэнныя кнігі, здзейсніў духоўны подзвіг юродзівага. Будучы ў Смаленску, праявіў сябе як чалавек высокай культуры, набыў папулярнасць сярод людзей. Далейшыя падзеі, звязаныя з выгнаннем Аўрамія з горада і канфліктам з духавенствам, Яфрэм тлумачыць выбрыкамі д'ябла. Нягледзячы на пераслед з боку зайздроснікаў, Аўрамій застаецца хрысціянінам, не адказвае злым на злое. Відавочна жаданне Яфрэма напісаць праўду пра свайго настаўніка, апраўдаць яго ў вачах нашчадкаў. Аўтар часта звяртаецца да аналогій з іншымі жыццяпісамі (Іаана Златавуста, Антонія Вялікага і інш.), стварае своеасаблівы літаратурны партрэт Аўрамія, малюе праўдзівую панараму жыцця сярэднявечнага Смаленска.*

**Вывады па 1 параграфе:**

1. Адсутнасць трывалага аўтарскага права паўплывала на тое, што адзін і той жа тэкст пры перапісванні мог істотна змяняцца – дапаўняцца, скарачацца, аздабляцца мастацка-вобразнымі сродкамі. Так з'явілася характэрная рыса сярэднявечнай літаратуры – варыятыўнасць. Пры гэтым перапісчык выступаў у ролі не толькі праваднікa пэўнай інфармацыі, але і яе літаратурнага, а таксама мастацкага рэдактара.
2. У некаторых тэкстах перыяду Кіеўскай Русі праяўляецца кампіляцыйная дамінанта, г.зн. спалучаюцца ўрыўкі, звесткі з розных крыніц у адным творы, які ў асобных выпадках мае намінальнага

аўтара (напрыклад, Нестар у “Аповесці мінулых гадоў”). Пры запазычванні маглі змяняцца першапачатковыя жанр, стыль выкладу, ідэйны змест і нават аўтарская пазіцыя[2].

**Пытанні для самападрыхтоўкі:**

1. Існуюць два варыянты славянскай азбукі – кірыліца і глаголіца. Якая з іх з’явілася першай? Чым яны адрозніваюцца?
2. З 266 захаваных рукапісных кодэксаў перыяду Кіеўскай Русі на тэрыторыі сучаснай Беларусі створаны 6 (гэта менш за 3%). Як вы думаеце, з чым гэта звязана? Чаму нельга тагачасную Беларусь лічыць культурнай перыферыяй усходнеславянскай дзяржавы?
3. Чым адрозніваюцца розныя рэдакцыі “Аповесці мінулых гадоў”?
4. Які полацкі князь згадваецца ў “Слове пра паход Ігара”?
5. Якія агіяграфічныя творы перыяду Кіеўскай Русі вы ведаеце?

**Пытанні для дыскусіі:**

1. “Слова пра паход Ігара” – шэдэўр старажытнарускай літаратуры ці пазнейшая містыфікацыя?
2. Як вы лічыце, чаму ў перыяд Сярэднявечча амаль не існавала аўтарскага права? Ці ўплывала гэта на фарміраванне традыцый рэдагавання?

**Рэкамендаваныя тэмы для рэфератыўных паведамленняў:**

1. Рукапісная кніга старажытнай Русі: у рэчышчы балгара-візантыйскай традыцыі;
2. Евангельскія сюжэты ў спадчыне Кірылы Тураўскага;
3. Захаваныя рэдакцыі старажытных рускіх летапісаў.

**Літаратура:**


1. Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI – першая палова XVIII стагоддзя / НАН Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы; падрыхт. А.І. Богдан і інш.; навук. рэд. В.А. Чамярыцкі. – Мінск: Бел. навука, 2003. – 1015 с.
2. Гісторыя беларускай літаратуры XI – XIX стагоддзяў: у 2 т. – Т. 1. Даўняя літаратура: XI – першая палова XVIII стагоддзя / Нац. акад. навук


---

[2] Заўвага – у згаданай вышэй “Аповесці мінулых гадоў” ёсць згадка пра тое, што кіеўскія князі ў 1067 г. занялі Мінск і перабілі ў гэтым горадзе ўсіх мужчын, а жанчын і дзяцей узялі ў палон. Далей апавядаецца пра тое, як князі захапілі Усяслава, парушыўшы клятву на крыжы. Нестар падае гэтыя падзеі як жорсткае, але справядлівае пакаранне Усяслава, які раней захапіў Ноўгарад. Аднак да Нестара гэтыя звесткі патрапілі з Першапачатковага зводу, куды, верагодна, была ўключана і аповесць пра Усяслава Чарадзея. “Не выключана, што “аповесць пра Усяслава Чарадзея была перапрацавана ў антыполацкай накіраванасці” [2, с. 48], г.зн. быў зменены ідэйны змест полацкіх запісаў.

Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; навук. рэд. В.А. Чамярыцкі. – 3-е выд., выпр. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 910 с.
3. Латышонак, А. Нацыянальнасць – Беларус / А. Латышонак. – Мінск: Інстытут беларусістыкі, Беларускае гістарычнае таварыства, 2009. – 558 с.
4. Даленга-Хадакоўскі, З. Выбранае / З. Даленга-Хадакоўскі; уклад. прадм., камент. Л. Малаш. – Мінск: Кнігазбор, 2007. – 448 с.
5. Песня аб паходзе Ігара / рэд. С.А. Марозава. – Мінск: Кавалер Паблішэрс, 2003. – 64 с.

## §2. РЭДАГАВАННЕ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ (позняе Сярэднявечча)

**2.1.** Агульная характарыстыка перыяду.
**2.2.** Напрамкі развіцця кніжнай культуры.
**2.3.** Розныя рэдакцыі “Пахвалы Вітаўту”.
**2.4.** І Беларуска-літоўскі летапісны звод.
**2.5.** Пашыраная рэдакцыя беларуска-літоўскага летапісу. Рэдактарскія захады Альбрыхта Гаштаўта.

**Агульная характарыстыка перыяду.** “Рукапісная кніжнасць Вялікага Княства Літоўскага ўзыходзіць сваімі каранямі ў культуру Старажытнай Русі, больш таго – на працягу доўгага часу расце на яе аснове” [16, с. 18]. Гэта заўвага М.В. Нікалаева надзвычай важная для разумення той культурнай сітуацыі, якая існавала на землях сучаснай Беларусі з сярэдзіны XIII па XVI стст. Нашы продкі, будуючы Вялікае Княства, засвойвалі і развівалі культурную, духоўную спадчыну знішчанай манголамі Кіеўскай Русі. Гэты перыяд у гісторыі краіны называецца **познім Сярэднявеччам**. Завяршаецца ён на досвітку Адраджэння (у часы панавання Аляксандра Ягелона).

Цягам двух з паловай стагоддзяў адбываўся паступовы пераход ад балгара-візантыйскай традыцыі да здабыткаў рыма-каталіцкай цывілізацыі. Паварот з Усходу на Захад доўжыўся ва ўмовах амаль няспынных крывавых войнаў і палітычных катаклізмаў. Гэта адна з прычын, па якой спадчына позняга Сярэднявечча параўнальна невялікая – усяго каля трох дзясяткаў кніг.

**Асноўны сродак пісьма** – *гусінае пяро. “Асаблівай увагі патрабавала яго завострыванне (зрэз, расшчэп), якое мянялася ў залежнасці ад таго, да якога пісьма – “вялікага”, радковага, “знаменнага” – пяро было прызначана. <...> Для пісьма ўжывалася рознае чарніла: фарбы, што ўключалі розныя арганічныя і мінеральныя кампаненты, кінавар, тваро-*

*нае золата і інш. Сляды разліноўкі радкоў (пры дапамозе лінейкі або караксы – рамкі з нацягнутымі на ёй паралельнымі ніцямі) захаваліся ў Слуцкім Евангеллі 1539 г. <...> Найбольш пашыраным фарматам кнігі ў XI – XV стст. быў памер "у аркуш", або "десть", як ён абазначаўся ў старажытных вопісах бібліятэчных збораў"* [14, с. 54].

*Важныя мастацка-эстэтычныя функцыі нёс на сабе пісьмовы тэкст, яго арганізацыя, размяшчэнне, узаемадзеянне з іншымі элементамі кнігі. Памер старонак нярэдка адпавядаў "залатому сячэнню", тэкставае поле было звычайна прамавугольным (суадносіны вышыні і шырыні ў сярэднім набліжаліся да прапорцыі 10:13 – 10:15). Тэкст старажытных кніг не ведаў абзацаў, у большасці рукапісаў адсутнічаў падзел на словы, прасветамі аддзяляліся асобныя фразы або часткі фраз. <...>. Заключны тэкст раздзелаў часам набываў выгляд трохвугольнікаў, падкрэсленых знізу некалькімі гарызантальнымі рыскамі* [14, с. 57].

**Напрамкі развіцця кніжнай культуры.** Пачатак акрэсленага перыяду характарызуецца такой з'явай, як "літаратурная кансервацыя", калі захоўваліся кніжныя традыцыі ранейшага перыяду (дзейнічаў прынцып "старины не рушити"[3]). Аднак былі сярод прадстаўнікоў кніжнай грамадскасці і тыя, хто заклікаў рухацца наперад, каго не задавальняла простае наследаванне ўзораў Кіеўскай Русі. Скрыптары-кансерватары не стваралі новых твораў, а капіравалі старыя. Пры гэтым "вольнасцей" (уставак, дапаўненняў) перапісчыкі-літвіны дазвалялі сабе куды менш, чым іх папярэднікі ў XII ст.

Прыхільнікі прагрэсу адстойвалі ідэю так званага "поновления" або рэдагавання старых манускрыптаў. Кнігаперапісчыкі нярэдка прыводзілі старажытнарускія тэксты ў адпаведнасць з новымі палітычнымі і эканамічнымі рэаліямі, пераасэнсоўвалі і дапаўнялі некаторыя гістарычныя факты, змянялі стыль выкладу, замест царкоўнаславянскай мовы ўжывалі зразумелую "людзям паспалітым" старабеларускую.

Так, адзін з найбольш папулярных на тэрыторыі Кіеўскай Русі агіяграфічны твор **"Жыціе Аляксея, чалавека Божага"** (вядомы на Беларусі ў царкоўнаславянскім варыянце з XI ст.) у XV ст. перакладаецца на старабеларускую мову. Пры гэтым за аснову бярэцца не славяна-рускі варыянт, а лацінскія і чэшскія крыніцы. У апавяданні пра святога Аляксея з'яўляецца невядомы раней псіхалагізм, падаецца не абстрактны "бо-

[3] Заўвага – гэты прынцып яскрава праявіўся ў Радзівілаўскім летапісе (1490-я гг.). Летапіс – копія незахаванага Уладзімірскага зводу 1206 г. Зразумела, сёння цяжка казаць пра тое, наколькі гэтая копія дакладная. Большую значнасць у дадзеным выпадку маюць мініяцюры Радзівілаўскага летапісу (іх больш за 600). Нягледзячы на тое, што дзе-нідзе ў іх пракідаюцца гатычныя элементы, мініяцюры маюць архаічны характар, падкрэслена наследуючы кніжныя традыцыі Кіеўскай Русі.

гаабраннік”, а жывы чалавек, які вагаецца, якому не чужыя пачуцці і эмоцыі.

**“Жыціе Аляксея, чалавека Божага”** – *перакладны агіяграфічны твор старажытнабеларускай літаратуры. Першапачаткова тэкст набывае папулярнасць у Заходняй Еўропе. Прыблізна ў X ст. трапляе ў Візантыю, дзе афармляецца як тыповы царкоўны жыццяпіс. На тэрыторыі Беларусі “Жыціе...” вядома ўжо з XI ст., на старабеларускую мову перакладзена ў XV ст. За аснову ўзяты лацінскі варыянт “Жыція...” “Legenda Aurea Jacobi de Voragine”, а таксама чэшскія рукапісныя крыніцы. Беларускі рэгіянальны варыянт “Жыція” захаваўся ў копіях XV – XVII стст. У аснове сюжэта твора ляжыць гісторыя юнака з сям'і “прешляхетного римлянина Евфимияна”. Пакліканы верай у Бога, у імя духоўнага ўдасканалення Аляксей адмаўляецца ад сям'і, жонкі, багацця і накіроўваецца ў Сірыю, дзе жыве як пустэльнік. Вярнуўшыся ў Рым, Аляксей 17 год жыве пад сходамі свайго дома, не пазнаны ні жонкай, ні бацькамі, ні слугамі, прымаючы ад іх міласціну нароўні з іншымі жабракамі. Толькі пасля смерці Аляксея раскрываецца праўда пра яго пакутніцтва. Паводле аўтара, цела “чалавека Божага” не падлягала тленню. Той, хто дакранаўся да яго “дорогих костей”, пазбаўляўся хвароб. У “Жыціі” адлюстраваны ўзорны вобаз хрысціянскага святога, для якога свет Боскі вышэй за чалавечы. Твор напоўнены драматызмам і прапагандуе высокія маральныя якасці – любасць, духоўную моц, цярпенне, міласэрнасць.*

Псіхалагізацыя назіраецца і ў беларускай рэдакцыі “Аповесці пра разгром Мамая”[4]. Твор, які прызваны распавесці пра Кулікоўскую бітву, акцэнтуе ўвагу чытача на перажываннях Дзмітрыя Данскога. Князь, як і Ягайла на Грунвальдскім полі, не столькі кіруе войскам, колькі натхняецца ды моліцца.

Рэдактарская праўка заўважаецца і ў асобных тыпах Псалтыроў XV ст. Беларускія кніжнікі не механічна наследуюць старажытнарускія ўзоры (хоць, канешне, арыентуюцца на іх), а наноў перакладаюць тэксты з грэчаскай і лацінскай моў, узгадняючы свае пераклады са “старымі” ўзорамі. У выніку паўстаюць розначытанні асобных псалмоў, але іх “новая рэдакцыя” больш адпавядае густам грамадзян Вялікага Княства Літоўскага.

Істотная дэталь: чым далей ад XIII ст., тым больш на падрыхтоўцы “рускіх кніг” адбіваецца заходняя традыцыя афармлення. На тэрыторыі Княства шырока распаўсюджваліся манускрыпты з рыма-каталіцкай

[4] Заўвага – у Маскоўскай Русі на момант з'яўлення беларускага варыянта “Аповесці...” існавалі ўжо 7 розных яе рэдакцый [2, с. 583].

мастацкай арыентацыяй. У Тураве яшчэ на пачатку XII ст. добра ведалі, напрыклад, пра так званы Кодэкс Гертруды (Псалтыр, замоўлены ў X ст. ірландскім архіепіскапам Трэві і дапоўнены малітоўнікам Гертруды). Гэты фаліянт, як лічаць некаторыя навукоўцы, быў не толькі старанна вывучаны тураўцамі, але і аздоблены мініяцюрамі [16, с. 74].

Рысы еўрапейскай культуры адлюстраваны ў адной з першых крыніц “новага часу” – так званым Евангеллі Латыша (1270 г.). Апроч тыповых для старажытнарускай культуры мініяцюр з выявамі апосталаў, у Евангеллі “<...> маецца рэдкая ў кніжным мастацтве выява св. Сімана – святога-апекуна заказчыка гэтай кнігі” [16, с. 30]. Ледзь не ўпершыню ў кніжнай культуры Беларусі акцэнтуецца ўвага на асобе ўкладальніка. Пазней гэта зробіцца адной з устойлівых традыцый. Напрыклад, у так званым Псалтыры Улляны і Глеба Смаленскіх (1431 г.) пазначана, што храму св. Міхаіла Архангела “сию книгу дала раба божиа Ульяна, нареченная во иночьском житьи Елена” [16, с. 63]. Яшчэ пазней (у XVI ст.) імёны ўкладальнікаў робяцца не менш вядомымі, чым імёны аўтараў і перакладчыкаў кніг. Згадаем, напрыклад, запіс у адной з кніг Францыска Скарыны: “А то ся стало накладом Богдана Онкава сына радці места виленского”.

Яшчэ ў большай ступені ўплыў заходняй культуры на падрыхтоўку “літоўскіх рукапісаў” адлюстроўваюць мініяцюры напрастольнага Лаўрышанскага Евангелля (першая палова XIV ст.), “<...> першага бяспрэчнага кніжнага помніка Вялікага Княства Літоўскага” [16, с. 33]. Навукоўцы знаходзяць паралелі паміж “мініяцюрамі Евангелля і заходнімі іканаграфічнымі ўзорамі X – XIII стст., а менавіта мініяцюрамі з Эльзаскай кнігі апошняй чвэрці XII ст.”.

Гэта, на думку М.В. Нікалаева, сведчыць аб “<...>аслабленні аўтарытэту старажытнарускіх і візантыйскіх стэрэатыпаў, пошуках новых вобразаў і сродкаў выяўлення” [16, с. 35]. Іншымі словамі, прынцып рэдактарскага “поновления” кіеўскай кніжнай традыцыі паступова бярэ верх, патрабуючы ад літвінаў усё больш карэнных змяненняў, выпрацоўкі ўласных эстэтычных установак.

Манускрыпты славяна-балцкай дзяржавы паступова змяншаюць вялізную адлегласць, якая ў перыяд Кіеўскай Русі існавала паміж сакральным зместам кнігі і асобай яе “нікчэмнага” аўтара ці перапісчыка. Усё часцей на старонках занатоўваюцца імёны перапісчыка або мастака. Напрыклад, у сярэдзіне XIV ст. аўтар мініяцюры евангеліста Яна (Евангелле-апракас) не пасаромеўся напісаць: “писал Микита рукою грешною”. Так званы Кіеўскі Псалтыр 1397 г. таксама мае красамоўную прыпіску: “спісана бысть кніга сія Давыда царя повеленьемь сміренаго владыкы Михаила, рукою грешнаго раба Спірідонья” [16, с. 44]. Згадаўшы пра Кіеўскі Псалтыр, нельга не звярнуць увагі на яго шыкоўнае, па-

візантыйску пыхлівае аздабленне. Кніга ўтрымлівае вялікую колькасць мініяцюр, якія пакліканы не столькі ўпрыгожыць рукапіс, колькі праясніць сэнс напісанага. Многія мініяцюры маюць выразны метафарычны змест. Так, на адной з мініяцюр адлюстраваны чалавек, які ўцякае ад адзінарога “на скалістую вяршыню, дзе расце вялікае дрэва. Ён лічыць, што выратаваны і частуецца мёдам (сімвал мірской спакусы). Між тым белая і чорная мышы (дзень і ноч) падточваюць дрэва і яно вось-вось зваліцца ў глыбокую яму” (пекла) [16, с. 44]. Відавочна, аўтар мініяцюры меў на ўвазе чалавека і яго марныя спадзяванні жыць вечна.



**Мал. 3.** Кіеўскі Псалтыр 1397 г.

Падрыхтоўка Кіеўскага Псалтыра вымагала неверагодных высілкаў ад калектыву перакладчыкаў, скрыптараў, мастакоў. У манастырскіх скрыпторыях безумоўна існавалі рэдактары (людзі адукаваныя, багатыя і ўплывовыя), якія кантралявалі працэс перапісвання кніг, выпраўлялі магчымыя памылкі, звяраючы “рускі” асобнік з візантыйскім або лацінскім узорам.

Такімі рэдактарамі былі Кіеўскія і ўсёй Русі мітрапаліты Кіпрыян і Фоцій. Першы ўласнай рукой пераклаў з грэчаскай мовы Службоўнік, не забыўшыся прасачыць за скрыптарам, які з павагаю заўважыў: “Служебник преписан от грецкых книг на рускыи язык рукою своею Киприан” [16, с. 51]; другі прывёз з Канстанцінопаля цэлую бібліятэку кніг, якія захоўвалі ў скрыпторыях і на якія арыентаваліся ў XIV і нават у XVI стст.

Праўда, усё ж у асобных выпадках рэдактарская (свядомая або несвядомая) няўважлівасць выклікала да жыцця надта рэалістычныя ілюстрацыі, на якіх святыя апосталы, напрыклад, былі падобныя да сучасных мастаку палачан ці тураўцаў – купцоў, святароў, рамеснікаў. Здараліся і кур’ёзы, шырока цытуемыя ў сучаснай навуковай літаратуры. У згаданым вышэй Псалтыры Улляны і Глеба заглаўная літара “М” намалявана такім чынам, што ў ёй заўважаюцца два рыбакі, якія цягнуць сетку з рыбай, сварацца і пры гэтым адзін аднаму кажуць (падпісана рукой пісца): “Цягні, курвін сын!” – “Сам гэтакі”. Відавочна, без апошняй заўвагі Псалтыр нічога б не страціў.

Надзвычай моцна на рэдагаванне асобных тэкстаў уплывалі палітычныя зрухі, якія адбываліся ў Княстве. Паказальны прыклад з **“Жыццем трох віленскіх пакутнікаў”**. Гэты твор быў напісаны напрыканцы XIV ст. у Візантыі і адразу быў уключаны ў рускія Пралог і Мінею. Пры гэтым важна падкрэсліць тое, што ў “Жыціі...” літоўскія князі (у прыватнасці, Альгерд) адлюстроўваюцца як ворагі праваслаўя, пра што гістарычных сведчанняў няма.

Само па сабе гэта сцвярджэнне (Літва – вораг праваслаўя) прымушала чытача з большай прыхільнасцю глядзець у бок Масквы, што па зразумелых прычынах не дужа віталася як палітычнымі, так і інтэлектуальнымі коламі Вялікага Княства. Гэта адна з прычын, па якой мясцовая гісторыя аб віленскіх пакутніках адсутнічае ва ўсіх рэдакцыях беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік.

**Розныя рэдакцыі “Пахвалы Вітаўту”.** Гістарычныя і палітычныя акалічнасці ў значнай ступені ўплывалі і на змест “Пахвалы Вітаўту” – аднаго з першых панегірычных твораў Беларусі. Вядомы ён у 4-х рэдакцыях: першая – датуецца 1428 г. і змешчана ў кнізе Ісака Сірына; другая (каля 1430 г.) змешчана ў Беларуска-Літоўскім летапісе; трэцяя – належыць да 1-й паловы XVI ст. і захоўваецца ў “Хроніцы Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага”, чацвёртая – знаходзіцца ў гістарычных зборніках XVI – XVII стст.

У творы, як адзначае І.Саверчанка, адлюстравана цэнтралізацыйная палітыка Вітаўта, накіраваная на аб’яднанне ўсходнеславянскіх земляў вакол адзінага цэнтра” [63, с. 107]. З пункту погляду гісторыі рэдагавання цікавасць выклікае той факт, што ў варыянце тэксту 1428 г. уплыў Вітаўта, па словах В.Чамярыцкага, абмяжоўваўся выключна Усходняй Еўропай, а ў летапісным варыянце славе Вітаўта нададзена ўжо ўсееўрапейскае гучанне [16, с. 54]. Перад ім схіляюцца не толькі князі ўсёй рускай зямлі, але і ардынцы, і кароль польскі, і нават “рымскі цэсар жыве з ім у вялікай любові”. Іншымі словамі, летапісны рэдактар “Пахвалы...” пашыраў межы палітычнага ўплыву Вітаўта, уносячы пэўныя праўкі ў арыгінал тэксту, дапаўняў яго новымі гістарычнымі звесткамі, кніжнымі выразамі і вобразнымі параўнаннямі.

**І Беларуска-літоўскі летапісны звод.** Рэдактарская праца адбілася і на І Беларуска-літоўскім летапісным зводзе. У яго аснове ляжаў Маскоўскі летапісны звод мітрапаліта Кіпрыяна (завяршаецца 1408 г.) з працягам да 1427 г. Гэты звод быў перададзены ў 1429 г. па загаду ўжо іншага кіеўскага мітрапаліта Фоція ў Смаленск, дзе летапіс быў дапісаны на падставе мясцовага матэрыялу (самая позняя звестка адносіцца да 1446 г.). Асаблівасцю гэтай першай (кароткай) рэдакцыі Беларуска-літоўскага летапісу з’яўляецца ўключэнне падзей, якія адбываліся ў Княстве, у агульнарускі кантэкст.

Пачынаецца звод з палітычнай гісторыі Кіеўскай Русі IX ст. Праўда, падаецца яна дастаткова фрагментарна. Аўтары, па замове мітрапаліта Кіпрыяна, выкарыстоўвалі ўрыўкі з многіх летапісных крыніц, шырока звяртаючыся да кампіляцыі, або інакш – праводзілі праўку-скарачэнне, а дзе-нідзе і праўку-пераробку тэкстаў старажытнарускіх хронік. Цікава тут, аднак, тое, што, патрапіўшы ў Смаленск, *Маскоўскі летапіс Кіпрыяна-Фоція быў дастаткова жорстка адрэдагаваны мясцовымі кніжнікамі.*

Смаляне правялі яшчэ адну праўку-скарачэнне, выкрэсліваючы з арыгінала адмоўныя характарыстыкі літоўскіх князёў. Перарабіў (смаленскі летапісец) "<...> запісы пра паход вялікага князя Альгерда на Маскву ў 1368, 1370 і 1372 гг., а ў звестцы пра яго смерць у 1377 г. выкінуў выраз "зловерный, безбожный и нечестивый" [17, с. 250].

Такое скарачэнне маскоўскай крыніцы цалкам зразумелае. Істотна тут, аднак, тое, што першая "смаленская" рэдакцыя летапісу 1446 г. не захавалася (мяркуемы рэдактар першага варыянта зводу – аўтар "Пахвалы Вітаўту"). Сёння ж вядомая пераробка летапісу, змешчаная ў Супрасльскім спісе. У гэтай новай рэдакцыі значна перапрацавана агульнаруская частка, пры гэтым аўтары выкарыстоўвалі скарочаныя і нярэдка надзвычай змененыя звесткі, запазычаныя з іншых летапісных крыніц. Новы рэдактар, па-першае, рабіў "храналагічную перагрупоўку пагадовых запісаў, каб размясціць іх паводле вераснёўскага, а не сакавіцкага летазлічэння[5]"; па-другое, дазваляў сабе некаторыя крытычныя каментары адносна Вітаўта, які ў 1404 г. нібыта "много зла сотвориша" Смаленскай зямлі [17, с. 250].

Падобнае стаўленне да Вітаўта ў 1430-я гг. наўрад ці было магчымым. Хутчэй за ўсё, гэта рэдакцыя была складзена напрыканцы XV ст., калі Вялікія Княствы Літоўскае і Маскоўскае ваявалі за спадчыну Кіеўскай Русі. Аднак на гэтым рэдагаванне беларуска-літоўскіх летапісаў не завяршылася.

**Пашыраная рэдакцыя Беларуска-літоўскага летапісу.** Так званая пашыраная рэдакцыя (або другі звод) пачынаецца з "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага". Пры гэтым агульнарускія летапісныя звесткі (перыяду Кіеўскай Русі) з гэтага зводу выкідаюцца. Замест іх паўстае легендарная гісторыя Літвы ад міфічнага Палемона да Гедыміна. Пры гэтым у пашыраную рэдакцыю ўключаюцца толькі тыя часткі кароткай рэдакцыі, якія былі заснаваны на мясцовым матэрыяле (у прыватнасці, "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх", "Смаленская хроніка", "Пахвала Вітаўту" і інш.). Паводле М.В. Нікалаева, гэта сведчыць пра тое, што ў XV ст. беларускія летапісцы "свядома і адкрыта парываюць з

[5] Заўвага – да 1492 г. на тэрыторыі былой Кіеўскай Русі новы год пачынаўся з сакавіка, а ў Візантыі – з верасня. З канца XIV ст. вераснёўскі стыль пранікае на тэрыторыю Вялікага Княства.

агульнарускай традыцыяй, а дакладней – з ідэалогіяй арыентаванасці на Маскву” [16, с. 56].

Згадаўшы легенду пра Палемона[6], нельга не звярнуць увагі на гіпотэзу гісторыка А. Латышонка адносна яе магчымага рэдактара. Істотна тут тое, што першапачатковы варыянт “Хронікі Вялікага Княства Літоўскага...” не захаваўся. Сёння вядомыя толькі пазнейшыя рэдакцыі. Чаму? На думку А. Латышонка, шырокамаштабную інтэрвенцыю ў гэты беларуска-літоўскі летапіс здзейсніў магнат Альбрыхт Гаштаўт, які загадаў перапісаць тэкст, а арыгінал знішчыць.

Хутчэй за ўсё, даводзіць А. Латышонак [38], у першапачатковай рэдакцыі паведамлялася пра Палемона, а таксама пра тое, як узнікла назва “Літва”. Вядома, рымляне на беразе Нёмана – гэта не больш чым містыфікацыя. І той, хто яе стварыў, імкнуўся давесці арыстакратычнае паходжанне балтаў (жамайтаў), сцвердзіць іх перавагу над русінамі і палякамі.

Аднак справа ў тым, што адным толькі Палемонам гісторыя пра рымлян не завяршаецца. У летапісе ўзнікаюць красамоўныя ўстаўкі, мэта якіх давесці: продкі Гаштаўта – і ёсць тыя самыя рымскія патрыцыі, якія прыплылі разам з Палемонам. Пры гэтым нахабства Гаштаўта зайшло так далёка, што сваіх прадзедаў ён вывеў з роду Калюмнаў, таго самага нібыта рымскага роду, з якога паходзяць Гедымін і яго нашчадкі. Іншымі словамі, Альбрыхт Гаштаўт паставіў сябе нароўні з Ягелонамі. Лепшай самарэкламы ў Сярэднявеччы цяжка прыдумаць. Аднак рэдактарская інтэрвенцыя магната не была паспяховай. Невядомы выканаўца яго волі свядома ці несвядома дыскрэдытаваў аповед, нарабіўшы процьму надта відавочных памылак, прадэманстраваў жахлівае няведанне гісторыі і геаграфіі.

Так, апавядаючы пра рымлян, летапісец запазычыў сюжэт у грэкаў – на беразе Чорнага мора (сённяшняя Турцыя) сапраўды быў некалі цар Палемон II. Акрамя таго, пішучы пра князя Гінвіла (нашчадка Палемона), а таксама пра яго дзяцей Глеба і Прасковію, ананім скампіляваў жыціі Барыса і Глеба, а таксама Еўфрасінні Полацкай. Невядомы аўтар нібыта наўмысна звяртаўся да адукаванага рускага чытача, даводзячы яму простую думку: “Ствараючы гэту лухту пра Палемона, я выконваю волю свайго бессаромнага пана”.

**Вывады па 2 парграфе:**

1. У перыяд з другой паловы XIII па пачатак XV стст. дамінуюць два тыпы рэдагавання: кансерватыўны і рэфарматарскі. Кансерва-

[6] Заўвага – нагадаем, пачынаецца другі летапісны звод з гісторыі пра Палемона, які разам з 500 рымскімі шляхціцамі нібыта ўцёк з Італіі, а потым спыніўся на берагах Дзвіны і Нёмана, заснаваўшы магутнае літоўскае княства.

тары грунтаваліся на прынцыпе “старины не рушити”, амаль без змяненняў, механічна ўзнаўлялі старажытнарускія тэксты ў новых спісах і зводах. Рэфарматары прыводзілі рукапісны набытак Кіеўскай Русі ў адпаведнасць з новымі палітычнымі і эканамічнымі рэаліямі. Часта істотна перараблялі вядомыя ў раннім Сярэднявеччы творы. Пры гэтым рэдактары-скрыптары звярталіся да іх грэчаскіх, чэшскіх, лацінскіх варыянтаў.

**2.** Рэдагаванне акрэсленага перыяду збольшага захоўвае тэндэнцыі ранейшай эпохі:

а) ігнаруецца недатыкальнасць аўтарскага тэксту: па-ранейшаму ўносяцца праўкі ў змест, тэкст дапаўняецца або скарачаецца і інш.;

б) праўкі абумоўлены як новымі эстэтычнымі патрабаваннямі, светапоглэднымі зрухамі, так і ідэалагічнымі, палітычнымі ўстаноўкамі;

в) захоўваецца кампіляцыйны характар тэкстаў (асабліва гэта датычыцца летапісаў).

**3.** На пачатку XV ст. інтэлектуальныя эліты Вялікага Княства Літоўскага перастаюць арыентавацца на Маскву, што моцна ўплывае на рэдакцыі Беларуска-літоўскіх летапісаў: істотна змяншаецца агульнарускі кантэкст, павялічваецца колькасць мясцовага матэрыялу.

**Пытанні для самападрыхтоўкі:**

**1.** Што ўяўляла сабой кніга позняга Сярэднявечча? Расшыфруйце паняцці: “манускрыпт”, “скрыптар”, “скрыпторый”, “расшчэп”, “пергамен”, “десть” (аркуш), “кінавар”, “тваронае золата”.

**2.** Чым адрозніваюцца рукапісныя кнігі Вялікага Княства Літоўскага і Кіеўскай Русі? Патлумачце выразы: “літаратурная кансервацыя” і “поновление”.

**3.** У чым асаблівасць мініяцюр, змешчаных у Кіеўскім Псалтыры, а таксама ініцыялаў з Псалтыра Ульяны і Глеба?

**4.** Якім чынам рэдактарская праца адбілася на І Беларуска-літоўскім летапісным зводзе?

**5.** Што сабой уяўляе пашыраная рэдакцыя беларуска-літоўскіх летапісаў?

**Пытанні для дыскусіі:**

**1.** Наколькі карэктным з’яўляецца “поновление” 200-гадовай рукапіснай кнігі? Як з пазіцыі сучаснага аўтарскага права можна ацаніць праўку старажытнага манускрыпта?

**2.** Ці можа быць апраўданым ігнараванне рэдактарамі беларуска-літоўскіх летапісаў “Жыцця трох віленскіх пакутнікаў”?

**3.** Як вы ацэньваеце рэдактарскія захады канцлера ВКЛ Альбрыхта Гаштаўта? Чым кіраваўся магнат, правячы старажытныя тэксты? Ці сустракаюцца падобныя выпадкі "перапісвання гісторыі" ў новым часе?

**Рэкамендаваныя тэмы для рэфератыўных паведамленняў:**

1. "Жыціе Аляксея, чалавека Божага" – перакладны агіяграфічны твор старажытнабеларускай літаратуры.
2. Гістарычныя рэаліі Вялікага Княства Літоўскага ў "Пахвале Вітаўта": розныя рэдакцыі тэксту.
3. Легенда пра Палемона: гістарычная праўда ці містыфікацыя?

**Літаратура:**


1. Асветнікі зямлі Беларускай: X – пачатак XX ст.: энцыкл. даведнік / рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш.; маст. У.М. Жук. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2006. – 496 с.
2. Бардах, Ю. Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага / Ю. Бардах; пер. М. Раманоўскага і А. Істоміна; прадм. Г. Сагановіча. – Мінск, 2002. – 459 с.
3. Беларускія летапісы і хронікі: Пер. са старажытнарускай, старабеларус. і польск. / уклад. У. Арлова; прадм. В. Чамярыцкага. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. – 432 с.
4. Гісторыя беларускай кнігі: у 2 т. – Т. 1: Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага / М.В. Нікалаеў; навук. рэд.: В.В. Антонаў, А.І. Мальдзіс. – Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. – 424 с.
5. Гісторыя беларускай літаратуры XI – XIX стагоддзяў: у 2 т. – Т. 1: Даўняя літаратура: XI – першая палова XVIII стагоддзя / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; навук. рэд. В.А. Чамярыцкі. – 3-е выд., выпр. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 910 с.
6. Киркоръ, А. Великій князь Витовтъ / А. Киркоръ // Черты изъ исторіи и жизни литовскаго народа. – Вильно: въ типографіи Осипа Завадскаго, 1854. – С. 21–54.


## §3. РЭДАГАВАННЕ Ў ПЕРЫЯД РАННЯГА АДРАДЖЭННЯ (першая палова XVI ст.)

**3.1.** Агульная характарыстыка перыяду.
**3.2.** Рукапісныя кнігі.
**3.3.** Друкаваныя кнігі.

**Агульная характарыстыка перыяду.** У канцы XV ст. на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага пранікаюць традыцыі еўрапейскага Рэнесансу. На тое, каб яны канчаткова замацаваліся і пачалі дамінаваць, паўплывалі наступныя гістарычныя фактары:

1. З 1450-х гг. духоўныя сувязі паміж Масквой і Вялікім Княствам значна слабеюць: парываюцца кантакты паміж святарамі, пачынаюцца зацятыя маскоўска-літоўскія войны ў канцы XV ст. А гэта значыць, што "адзіная старажытнаруская (балгара-візантыйская. – В.Е.) культура канчаткова распадаецца" [16, с. 56], а на яе месцы паўстае іншая – рэнесансная.

2. Актывізуюцца эканамічныя сувязі – беларусы ўжо на пачатку XVI ст., паводле М. Доўнар-Запольскага [22], гандлююць ледзь не з усёй Еўропай, што ў даволі хуткім часе вызначае шляхі інтэграцыі нашых продкаў як у матэрыяльную, так і ў духоўную культуру Заходняй Еўропы.

3. Моду на Рэнесанс пашырала ў Рэчы Паспалітай італьянская прынцэса Бона Сфорца, якая ў 1518 г. зрабілася жонкаю Жыгімонта I Старога.

Рэнесанс у культуры Беларусі займае ўсё XVI ст. і ўмоўна падзяляецца на ранні (першая палова) і позні (другая палова згаданага стагоддзя) перыяды. Для гісторыі рэдагавання істотна найперш тое, што на пачатку XVI ст. на тэрыторыі Беларусі адбываецца пераход ад рукапісных да "бітых", або друкаваных, кніг. Інакш кажучы, рэдагаванне становіцца тым, чым яно ёсць у XXI ст., – працэсам падрыхтоўкі рукапісу да друку. Не трэба, аднак, думаць, што друкарскі варштат цалкам замяніў манускрыпты. Усё XVI ст. друкаваныя і рукапісныя кнігі існавалі паралельна, пры гэтым недахоп друкаваных асобнікаў часта прымушаў, напрыклад, пісараў вялікакняжацкай канцылярыі рабіць з іх копіі[7].

**Рукапісныя кнігі.** На пачатку эпохі друкаваных аркушаў асаблівую значнасць набывае скрыпторый пры вялікакняжацкай канцылярыі ў Вільні (заснаваў яе – канцылярыю – вялікі князь Вітаўт). Менавіта там складаліся так званыя Метрыкі – рукапісныя зборнікі дзяржаўнага архіва. У канцылярыі Вітаўта існавалі пісары "рускія" (для ўнутрыдзяржаўных патрэб) і "лацінскія" (для перапіскі з еўрапейскімі дварамі).

У канцы XV – на пачатку XVI стст. пасада пісара станавілася ўсё больш прэстыжнай: калі пры Гедымінавічах пісарам мог быць "чалавек дворскі" (звычайны слуга), то пры Ягелонах пісар – не толькі службовы абавязак, але і тытул, які пераходзіў у спадчыну ад бацькі да сына [57, с. 45]).

У канцылярыі Вітаўта абавязкі пісараў выконвалі людзі свецкія. Пры гэтым часта яны служылі не толькі аднаму Вітаўту, але, напрыклад, і Ордэну або польскаму каралю. Так усталёўваліся сувязі паміж дварамі, а канцылярысты былі своеасаблівымі пасрэднікамі паміж манархамі.

[7] Заўвага – традыцыі рукапісных кніг XIV і XVI стст. моцна адрозніваюцца. У 1514 г. страчаны важны кніжна-летапісны цэнтр Вялікага Княства Літоўскага – Смаленск. Колькасць кніг з праваслаўнага ўсходу змяншаецца, а іх месца займаюць кракаўскія манускрыпты, якія замаўлялі пераважна каталіцкія касцёлы. Праваслаўнае ж кнігапісанне развіваецца або пры манастырах (такіх, як Супрасльскі), або пры дварах багатых мецэнатаў (Хадкевічы, Астрожскія і інш.).

Першы вядомы пісар пры двары Вітаўта – нейкі Януш. Ён працаваў у 1394 г. Далей: з 1394 па 1406 згадваецца Пётр з Баляслава, пад 1403 г. значыцца Генрык Бартэнштэйн, далей згадваюцца Мікуль пісар, Конрад Франкенберг, Якуб Гліняны з Любліна і г.д. Большасць – або палякі, або немцы (еўрапейцы наогул). Гэта якраз дапамагала канцылярыі Вітаўта весці актыўную перапіску на ўсіх еўрапейскіх мовах. Нават рабіць пераклады з экзатычных моў (напрыклад, з татарскай).

Паказальна ў гэтым сэнсе тое, якой мовай карысталіся жонкі вялікіх князёў. Паводле дадзеных, прыведзеных літоўскай даследчыцай Раймондай Рагаўскене, жонка Вітаўта, вялікая княгіня Ганна, карысталася лацінскай мовай (існуюць два юрыдычныя акты, зацверджаныя яе пячаткай). Ёсць лісты на нямецкай мове да магістра Крыжацкага Ордэна.

Важна заўважыць тут тое, што ўсе гэтыя дакументы праходзілі праз канцылярыю. Рыхтавалі лісты сакратары або пісары, а зацвярджала іх вялікая княгіня, бо звестак пра тое, што Ганна ведала лацінскую ці нямецкую мову, няма (хоць сам Вітаўт, паводле Адама Кіркора, добра валодаў і лацінскай, і нямецкай мовамі [32, с. 52]). Тое ж самае можна сказаць пра лісты іншых княгінь – тэксты пісаліся ў канцылярыі ад імені жонкі ці дачкі манарха. Наўрад ці, напрыклад, каралева Бона ведала старабеларускую мову, якой напісаны адзін з яе лістоў[8].

**Мова лістоў дачок і жонак гаспадароў Ягелонскай дынастыі:**

| | |
|---|---|
| Вялікая княгіня літоўская **Алена** (1476 – 1513) | **старабеларуская** |
| Польская каралева, вялікая княгіня літоўская **Барбара Запальяі** (1495 – 1515) | **лацінская** |
| Польская каралева, вялікая княгіня літоўская **Бона Сфорца** (1494 – 1557) | **лацінская, польская, італьянская, старабеларуская** |
| Польская каралева, вялікая княгіня літоўская **Альжбета Габсбургская** (1526 – 1545) | **лацінская, польская** |
| Польская каралева, вялікая княгіня літоўская **Барбара Радзівіл** (каля 1520 – 1551) | **польская** |

Таб. 3.1 (паводле: [58, с. 91])

Кантраляваў працу канцылярскіх пісараў і сакратароў пісар-ураднік. Ён дазваляў выхад таго або іншага дакумента, ставячы на аркушы подпіс (выконваў ролю рэдактара). Канчатковы ж дазвол на выхад кнігі з кан-

[8] Заўвага – цытата па [58, с. 95]: Што пишеш до нас о тот всход, которыи есмо там тобе у Вилни с палацу нашого до саду уробити росказали, иж тот всход вжо уси робити почал, нижли нигде снадеи прыверен быти неможет, якож у Бернардыну мистру Влоху тоеж ся видит, одно до тых там мешканеи, где панны наши мешкают... (Цытата з ліста каралевы Боны віленскаму цівуну Ш. Мацкевічу).

цылярыі пры Жыгімонце Старым даваў канцлер, які прыкладаў да манускрыпта пячатку. Такім чынам, любы “прадукт” скрыпторыя пры вялікім князю праходзіў як мінімум праз адно рэдактарскае чытанне.

З 1522 г. пісары прыносілі прысягу, кляліся быць сумленнымі і адказнымі. З 1566 г. у віленскай канцылярыі – усяго 5 пісараў, на чале якіх стаяў пісар вялікі, ніжэй за яго былі пісары скарбовы і польны, пісар двароў і маёнткаў гаспадарскіх, пісар дэкрэтавы. Менавіта ў канцылярскім скрыпторыі рабіліся копіі першай рэдакцыі Статута.

Канцылярскія кнігі вылучаліся своеасаблівым, пазнавальным почыркам – скарапісам, а таксама дакладнасцю. Дазволіць сабе ўстаўкі, змяненні пры капіраванні Статута пісары, зразумела, не маглі.

У XVI ст. існавалі таксама прыватныя скрыпторыі, якія фінансаваліся буйнымі магнатамі (напрыклад, скрыпторый пры двары Солтанаў у прадмесці Вільні). Існавалі скрыпторыі і пры праваслаўных манастырах, аднак усё ж другое пасля канцылярыі месца ў справе перапісвання кніг належыць Віленскай езуіцкай акадэміі (паўстала ў 1579 г.). Для гісторыі рэдагавання істотна тое, што менавіта ў акадэміі пачалі капіравацца кнігі прыродазнаўчага характару – па матэматыцы, астраноміі, тэорыі артылерыі і будаўніцтве. Гэтыя рукапісы патрабавалі зусім іншых падыходаў – скрыптар мусіў быць чалавекам пільным, адукаваным і дасведчаным у вузкай галіне ведаў. Хутчэй за ўсё, за працай кнігаперапісчыкаў назіралі прафесары акадэміі, якія выконвалі ролю навуковых рэдактараў. Так, сёння вядомыя кнігі прафесара матэматыкі Анджэя Мілеўскага і шляхціца Іосіфа Нарановіч-Наронскага (“Кнігі навук матэматычных”)[9].

Нягледзячы на пашырэнне матэрыяльных ведаў, усё ж асноўны комплекс рукапісных кніг XVI ст. складалі тэксты Святога Пісання і богаслужбовыя кнігі. Сярод такіх ці не найбольш папулярнай кнігай з’яўляўся Псалтыр, які выходзіў як асобным выданнем, так і ў зборніках. Напрыклад, у скрыпторыі мітрапаліта быў падрыхтаваны так званы тлумачальны Псалтыр (з каментарамі бацькоў царквы). Ён быў аздоблены шыкоўнымі мініяцюрамі. Чаму менавіта Псалтыр так старанна капіраваўся цягам XIII – XVI стст.?

Гэта кніга была асновай для навучання пісьменству, выкарыстоўвалася як сучасная чытанка, а нават і як буквар, пра што сведчаць шматлікія заўвагі на старонках кніг, пакінутыя надта стараннымі вучнямі. Напрыклад, на выданні “Псалтыра” 1600 г. на палях пазначана: “<...> учебная (кніга. – В.Е.) дьячка Фёдора Родионова” [16, с. 108].

[9] Заўвага – важна тут зрабіць заўвагу адносна мовы, якую выкарыстоўвалі ў канцылярскім і акадэмічным скрыпторыях. У першым афіцыйна прынятай да ўжывання была старабеларуская мова (трэцяя рэдакцыя Статута 1588 г. замацоўвала за ёй права дамінавання на тэрыторыі Княства). Акадэмічныя ж скрыптары карысталіся або лацінскай, або польскай мовамі.

Паводле Г.Я.Галенчанкі, у XV – першай палове XVI стст. у кнігапісанні "прыкметна ўзрос удзел гарадскога "паспольства". "Віленскі "местич" (мешчанін) ахвяраваў Друцкае Евангелле царкве св. Уваскрэсення ў Вільні. <...> Магілёўскі Актоіх 1538 г. быў "спраўлен", як адзначана ў запісе, "споможеньем і накладом всех православных хрестиян" – парафіян царквы св. Мікалая ў Магілёве" [14, с. 53].

Сярод падрыхтаваных рукапісных кніг XVI ст. можна згадаць таксама Евангеллі-тэтры (або чатырох'евангеллі – іх вядома крыху менш за сотню), "Кнігі пракаў" і інш. Капіраваліся скрыптарамі Скарынавы "Псалтыр" і "Апостал", бо "<...> кошт рукапіснага выдання быў меншы, чым друкаванага" [16, с. 99]. Змяншэнне коштаў звязана ў тым ліку і са з'яўленнем у рукапіснай традыцыі Вялікага Княства Літоўскага больш таннай паперы. Акрамя таго, кнігаперапісчыкі пачалі працаваць хутчэй, дзякуючы замене ўстава на паўустаў і згаданы намі скорапіс.

Першы поўны збор біблейных тэкстаў у Вялікім Княстве Літоўскім з'явіўся на пачатку XVI ст. Яго складальнік, перапісчык і рэдактар – Мацвей Дзясяты. Кніга, вядомая як **"Дзесятаглаў"**, знаходзілася ў бібліятэцы Супрасльскага манастыра. Праца ажыццяўлялася з 1502 па 1507 гг. Незвычайнасць "Дзесятаглава" ў тым, што падрыхтаваў манускрыпт не манах-скрыптар, а чалавек свецкі. Магчыма, гэтым можна растлумачыць тое, што ў спісе біблейных кніг "Дзесятаглава" змешчана некананічная кніга Менандра.

Характарызуючы манускрыпты ранняга Адраджэння, нельга не згадаць царкоўна-навучальныя зборнікі Пралогі. У іх уключаліся жыцці, казанні, аповесці, звесткі з пэўных навук. Увесь матэрыял размяркоўваўся па 366 днях старакаляндарнага года (уключаючы 29 лютага); чыталіся і асэнсоўваліся тэксты Пралога штодня. Поўны Пралог, створаны на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, датуецца 1512 г. Перапісваўся ён цэлым калектывам скрыптараў пад кіраўніцтвам дыякана Іаакіма. *Тэкст у некалькіх месцах мае праўку, "а ў прыпісцы ёсць заўвага, з якой вынікае, што ў нейкі момант сваёй гісторыі кніга трапіла ў Вільню і была "слествована" (праўлена) нейкім дыяканам Ігнатам. Апошні абапіраўся на пэўны арыгінальны тэкст і пасля праўкі вярнуў Пралог назад перапісчыкам, каб тыя заверылі яго прыпіскай, што кніга прайшла "слествование" (рэдактарскую праўку)* [16, с. 94].

Не менш папулярнымі сярод жыхароў Вялікага Княства Літоўскага былі так званыя Мінеі (універсальная кніга, якая змяшчае каляндарныя чытанні на цэлы год). Усяго вядома каля 50 спісаў Міней. Іх беларускія рэдакцыі "абавязкова змяшчае памяці мясцовым святым: Ефрасінні Полацкай (23 мая) і віленскім пакутнікам Іаану, Антонію і Яўстафію (14 студзеня).

Існуюць таксама беларускія рэдакцыі Пралогаў. Так, скрыптарылітвіны ўключылі ў змест кнігі запазычанне з Кіева-Пячэрскага патэры-

ка “Слово о черноризце Арефе...”. Відаць, мясцовым перапісчыкам падабалася фабула “Слова...”. Галоўны герой − багаты і скупы манах Арэфа (палачанін), келлю якога аднойчы абрабавалі. Ён так шкадаваў аб страчаным багацці, што захварэў і ледзь не трапіў у пекла. “Празерыўшы” і перааацаніўшы тое, што адбылося, Арэфа пачынае дзякаваць Богу за пакрадзеную маёмасць” [16, с. 94].




**Мал. 5.** Кракаўскі “Часаслоў” 1491 г.

Своеасаблівым феноменам культуры Вялікага Княства Літоўскага XV − XVII ст. можна лічыць так званыя Ізборнікі. Гэта своеасаблівыя старажытныя энцыклапедыі, куды “кожны кнігалюбец” спісваў толькі тыя артыкулы, у якіх меў крайнюю неабходнасць або якія ўвогуле адпавядалі яго густам” [16, с. 95]. Ізборнікі часта ўяўлялі сабой кампіляцыі, выпіскі з розных крыніц. Пры гэтым перапісчыкі “часта ўносілі важныя, на іх погляд, звесткі, дапаўненні. Так, у Ізборніку, які падрыхтаваў скрыптар Васка − пісар канцлера Мікалая Радзівіла, − змяшчаюцца звесткі з біблейнай гісторыі, інфармацыя геаграфічнага і прыродазнаўчага зместу, ёсць і палемічныя творы антыкаталіцкай скіраванасці. Завяршаецца ж

кніга наступнай сентэнцыяй: “Всякий, кто глянул на женщину с похотью, уже прелюбы совершил с ней в сердци своем” [16, с. 100].

Недзе ў 40-х гг. XVI ст. быў створаны так званы Жыровіцкі рукапісны зборнік, які з’яўляецца самай поўнай тагачаснай энцыклапедыяй – уключае звесткі з гісторыі, астраноміі і нават анатоміі. Ёсць інфармацыя аб знаках задыяка і знаках планет, згадваюцца з'явы прыроды, назвы рэк, мясцовасцей. Аўтары зборніка аб'ядналі звесткі з дзясяткаў крыніц – як славянскіх, так і грэчаскіх.

**Друкаваныя кнігі.** На тэрыторыі Каралеўства Польскага першыя старадрукі датуюцца 1473 г.: у Кракаве былі падрыхтаваны кнігі на лацінскай мове. У 1491 г. у сталіцы Каралеўства друкуюцца першыя кірылічныя кнігі. Гэта былі 4 літургічныя выданні: Актоіх, Часаслоў[10], Трыёдзь Посная і Трыёдзь Кветная. Іх замовіў кракаўскі багацей Ян Турзон, а падрыхтаваў немец Швайпольт Фіоль. Пра добрую якасць кніг сведчыць тэрыторыя іх распаўсюджвання – ад Масквы да Румыніі. Цікава, што “рускія кнігі” на тэрыторыі Каралеўства апярэдзілі польскамоўныя больш чым на 30 год. Праўда, пасля гэтых выданняў кірылічны друк у Кракаве спыняецца – на думку некаторых навукоўцаў [16, с. 66], *у сталіцы Каралеўства пачынае дзейнічаць каталіцкая цэнзура, якая ставіць забарону на праваслаўнай арыентацыі кракаўскага варштата.*

**Надпіс на выходным лісце Кракаўскага “Часаслова”:**

*Докончана бысть сія книга у великомь граде у Кракове, при державе великаго короля Полскаго Казимира, и докончана бысть мещаниномъ Краковьскымь Шваиполтомъ Феоль, из Немець, Немецкого роду Франкь* [50, с. 1].

У Вялікім Княстве Літоўскім першая друкарня з’явілася ў 1522 г. (Вільня). Як вядома, стварыў яе Францыск Скарына. Усяго за гады існавання Княства навукоўцы налічылі 36 друкарняў. **Найбольш буйнымі ў XVI ст. былі:**

1 **Віленская друкарня** Францыска Скарыны (1522 – 1525 гг.);
2 **Брэсцкая друкарня**, заснаваная Мікалаем Радзівілам Чорным (1543 – 1544; 1558 – 1570 гг.);
3 **Нясвіжская друкарня** Сымона Буднага і Мацея Кавячынскага (1562 г.);

[10] Заўвага – “Часаслоў” надрукаваны ў 4-ку, 382 лісты (764 старонкі). У канцы выдання – выходны ліст з гербам горада Кракава. “Трыёдзь Посная” – каля 316 лістоў (362 старонкі). “Трыёдзь Кветная” – 368 лістоў (736 старонак) [50, с. 2].

4 **Друкарня ў Заблудаве** І.Фёдарава і П.Мсціслаўца (1568 – 1570 гг.);
5 **Друкарня ў Заслаўі** Сымона Буднага (1572 г.);
6 **Лоская друкарня** Даніэля Ленчыцкага (1572 – 1589 гг.);
7 **Віленская друкарня** Пятра Мсціслаўца (1575 – 1576 гг.);
8 **Друкарня Васіля Цяпінскага** (1570-я гг.);
9 **Віленская друкарня** Мікалая Радзівіла Сіроткі (1576 – 1589 гг.);
10 **Віленская друкарня Мамонічаў** (1583 – 1624 гг.);
11 **Віленская друкарня езуіцкай акадэміі (1592 – 1805 гг.);**
12 **Віленская брацкая друкарня** (1595 – 1705 гг.) [16, с. 172].

Друкарні выдавалі кнігі рознага зместу і прызначэння, аднак усё ж самай папулярнай кнігай была Біблія[11]. Яе падрыхтоўка вымагала ад друкароў адказнасці, тытанічнай працы, немалую частку якой складала рэдактарская дзейнасць. Нават дробная памылка ў тэксце, неахайнасць або вольнасць у перакладзе ці афармленні, ледзь заўважнае адхіленне ад прынятага канона прыводзілі да таго, што надрукаваныя Бібліі адхіляліся і царквой, і вернікамі. А гэта значыць – прыносілі немалыя фінансавыя страты і непрыемнасці выдаўцу.

Як ілюстрацыя гэтай высновы – пражскія кнігі Ф. Скарыны. На іх рэдактарскіх асаблівасцях мы спынімся ніжэй. Зараз жа заўважым: выданні славутага палачаніна ніколі не выкарыстоўваліся ў богаслужбовай і літургічнай практыках. Гэта былі кнігі для чытання, часта дужа далёкія ад кананічных тэкстаў (за выключэннем “Малой падарожнай кніжкі”, якую Скарына рыхтаваў адмыслова для маскоўскага чытача, а таму стараўся быць пільным і не адступаць ад праваслаўнага канона). Трымаць у царкве ці ў манастырскай бібліятэцы пражскія выданні мог толькі, як выказаўся Яўген Неміроўскі, дужа смелы, далёкі ад сярэднявечных стэрэатыпаў ігумен [47, с. 19]. Такіх людзей было няшмат, большасць праваслаўных святароў, арыентаваных на маскоўскую мітраполію, успрымала Скарынаву спадчыну як ерась. Цалкам можа быць, што якраз па гэтай прычыне нейкую частку віленскіх або пражскіх выданняў спалілі ў Маскве[12], куды Скарына, на думку навукоўцаў, прыязджаў у 1520-я гг.

---

[11] Заўвага – “<...> у другой палове XV ст. з’явіліся пераклады біблейных твораў на нацыянальныя мовы – lingua vernacular (народная мова) – нямецкую (1466), англа-саксонскую (1471), італьянскую (1471), чэшскую (1475, 1487, 1488, 1489, 1496), галандскую (1477, 1480) [59, с. 171].

[12] Заўвага – “<...> у інструкцыі вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста свайму паслу пры Папе Альберту Крычку сярод іншага, каб паказаць неталерантнасць маскоўскага князя да каталіцызму, даецца такі гістарычны прыклад: “<...> калі ў часе панавання нашага нябожчыка бацькі адзін ягоны падданы, кіруючыся пабожным жаданнем, пастараўся святое пісьмо рускаю моваю надрукаваць і выдаць дый пайшоў да Масквы, кнігі ягоныя па загадзе князя публічна былі спаленыя” [16, с. 175]. Гэтым падданым Жыгімонта I Старога мог быць Ф. Скарына.

Адказ на пытанне, быў Скарына ў Маскве ці не быў, знаходзіцца ў прасторы навуковых дапушчэнняў. Відавочна аднак тое, што менавіта адсутнасць попыту на кнігі Ф. Скарыны ў Маскве паўплывала на закрыццё яго віленскай друкарні. Магчыма таксама і тое, што з палачанінам не пажадалі мець справу ў канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага. У 1522 г. Жыгімонт І Стары паабяцаў надрукаваць Статут "бітымі літарамі і ў вялікай колькасці". Якраз у тым самым годзе (1522) адкрываецца віленская друкарня Скарыны. Пры гэтым пытанне, чаму Ф. Скарына прыязджае з Прагі ў Вільню, сёння застаецца адкрытым. Магчыма, друкару абяцалі кантракт і вялікія грошы яго даўнейшыя мецэнаты, у тым ліку і пазашлюбны сын Жыгімонта Старога каталіцкі біскуп Ян.

Ва ўсялякім выпадку, акрамя палачаніна, друкаваць Статут у Вільні не было каму, аднак з вялікакняжацкай канцылярыі да Скарыны ніхто не звярнуўся. Першую рэдакцыю Статута капіравалі пісары. Магчыма, калі б першадрукар у якасці аднаго з арыенціраў для сваіх рэдакцый Старога Запавету ўзяў не "ерэтычную" чэшскую Біблію (1506 г.), а замацаваны ў праваслаўнай ці каталіцкай традыцыі варыянт, лёс і віленскай друкарні, і самога Скарыны быў бы іншым.

І справа тут не толькі ў рэлігійнай цэнзуры, якая, безумоўна, існавала ў часы Ф.Скарыны. Да любога выдання біблейных тэкстаў, падкрэслім гэта яшчэ раз, прад'яўляліся асабліва жорсткія патрабаванні. Прынцыповым было тое, наколькі тэкст Святога Пісання адпавядае прынятаму ў той або іншай галіне хрысціянства канону. Інакш кажучы, кожны выдавец Бібліі мусіў арыентавацца на пэўную аўдыторыю (канфесію). Скарынава Біблія паводле мовы была арыентавана на праваслаўных русінаў (гэту думку падзяляе даследчык У.У. Агіевіч [1, с. 63]), паводле спецыфікі перакладу, зместу, месца выдання (тэрыторыя традыцыйнага падпарадкавання Рыму) – на католікаў ці пратэстантаў. Дзве з пяці ілюстрацый у "Малой падарожнай кніжыцы" [16, с. 173] былі зроблены, дзякуючы набытым у немцаў і чэхаў дошкам. На пачатку XVI ст. ужо аднаго гэтага было дастаткова, каб у праваслаўным асяроддзі табуіраваць "Малую падарожную кніжыцу"[13].

Больш паспяховай у сэнсе адпаведнасці чытацкім запатрабаванням была **Брэсцкая Біблія 1563 г.**, якая паўстала дзякуючы фінансавай падтрымцы канцлера Мікалая Радзівіла Чорнага і руплівай працы цэлага рэдактарскага калектыву. Магнат замовіў поўны пераклад Бібліі на польскую мову. Пры гэтым даручыў гэту працу вядомым кальвінісцкім тэолагам, якія не толькі здзейснілі выдатны пераклад з грэчаскай, лаці-

[13] Заўвага – мы прывялі адно з найбольш верагодных тлумачэнняў таго, чаму Ф. Скарына пасля 1525 г. ніколі не вяртаўся да друкарскай дзейнасці. Пры гэтым друкарскае абсталяванне заставалася ў Вільні і пазней выкарыстоўвалася братамі Мамонічамі.

нскай і старажытнаяўрэйскай моў, але і арыентаваліся на сучасныя (“жывыя”) – французскі і нямецкі варыянты Бібліі.

Прынцып паспяховага выдання, паводле Радзівіла, – сабраць лепшых перакладчыкаў, а рэдагаванне даручыць лепшым тэолагам і пісьменнікам (сярод іх былі, напрыклад, Ян Ласкі і Павел з Бжэзін). Гравюры-ілюстрацыі да Брэсцкай Бібліі рабіў майстар, запрошаны, хутчэй за ўсё, з Італіі. Дзякуючы яго намаганням Біблія атрымала шыкоўны выгляд – прыгожы і чытэльны гатычны шрыфт, рознага памеру ініцыялы, падзел старонкі на два слупкі, алегарычнае афармленне тытульных аркушаў да Старога і Новага Запаветаў. Выдатны майстар на адным тытуле здолеў адлюстраваць усю біблейную гісторыю чалавецтва – ад выгнання з раю і грэхападзення да ўваскрашэння Хрыстова (адлюстраваныя Маісей, валхвы, Ян Хрысціцель і інш.). Пры гэтым мастак не саромеўся паказаць чалавечае цела (Адам і Ева выглядаюць на яго ілюстрацыі як звычайныя закаханыя).



**Мал. 6.** Тытул Брэсцкай Бібліі 1563 г.

Адзіным недахопам Брэсцкай Бібліі была яе вага – С. Будны не без іроніі заўважыў, што асобнік не толькі цяжка пераносіць, але і перавозіць. Істотна таксама тое, што гэта выданне было арыентавана на пратэстантаў (да 1563 г. пратэстанты на тэрыторыі Княства карысталіся польскамоўным кёнігсбергскім выданнем Новага Запавету пад рэдакцыяй Я. Секлюцыяна).

На некаторых асобніках Брэсцкай Бібліі засталіся прыпіскі (датуюцца XVI ст.), якія сведчаць пра магчымае прыстасаванне гэтай рэдакцыі Святога Пісання да праваслаўнага богаслужэння. Дадзены факт не выглядае парадоксам з той прычыны, што праваслаўныя поўныя друкаваныя Бібліі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага з’яўляюцца даставкова позна – 12 жніўня 1581 г. (паміж Скарынавай і Астрожскай Бібліямі – 64 гады). З’явілася праваслаўная Біблія дзякуючы маскоўска-

му першадрукару Івану Фёдараву. Праца над выданнем доўжылася амаль 6 год. Пачалася яна ў 1576 г., калі І. Фёдараў прыехаў у цэнтр тагачаснага праваслаўнага інтэлектуальнага і духоўнага жыцця Княства – маёнтак Астрог.



**Мал. 7.** Тытул Астрожскай Бібліі

*Рэдагаваў Біблію І. Фёдарава падстараста камянецкі Герасім Данілавіч Сматрыцкі* [94, с.454], які, па словах Міхала Вішнеўскага, узначальваў цэлы рэдактарскі калектыў “людзей вучоных”, сабраных князем Канстанцінам Астрожскім. “Князь даручыў ім параўнаць паміж сабой славянскія пераклады, а трымацца тэксту грэчаскага 72 перакладчыкаў, бо ён (тэкст) больш за ўсё да стараяўрэйскіх кніг падобны” [94, с. 454]. На тытуле[14] Астрожскай Бібліі, акрамя іншага, было пазначана: “Надрукавана сія кніга, глаголемая Біблія, яшчэ – Ветхі і Новы Завет, у захаваным Богам горадзе Астрозе, шматгрэшным і нявартым рабом Іванам Тэадорам сынам Масквіцінам” [94, с. 455].

**Астрожская Біблія 1581 г. Надпіс на тытуле:**

“Библіа, сирѣчь книгы ветхаго и новаго завѣта, по языку Словенску, отъ Еврейска въ Еллиньскій языкъ седмидесятъ и двѣма богомудрыми преводники, прежде воплощенія господа Бога и спаса нашего Іс. Христа 350 лѣта, на желаемое повелѣніе Птоломея Филадельфа, царя Египетска, переведенаго зводу, съ тщаніемъ и прилѣжаніемъ, елико мощно, по-

[14] Заўвага – тытул у астрожскім выданні ўпісаны ў малюнак: “па баках – калоны, аб’яднаныя ўверсе лукам. Далей – 6 эпіграм “на славянскай мове” і герб Астрожскага. Князь на грэчаскай і “славянскай” мовах звярнуўся да чытача, падзякаваў Богу за тое, што “заслужыў пачатак учыніць і ўбачыць завяршэнне гэтай працы”. У прадмове Канстанцін Астрожскі скардзіўся на тое, што мала ў яго было здольных памочнікаў. Акрамя таго, згадваў як, нягледзячы на ўсе намаганні, у славянскіх краінах ніводнай не мог знайсці цэлай Бібліі, а таксама ўсіх кніг Старога Запавету.

мощію Божіею, послѣдовася и исправися, въ лѣто по воплощеніи господа Бога и спаса нашего Іс. Христа 1581” [50, с. 50].

Астрожская Біблія была дастаткова аўтарытэтнай у праваслаўным асяроддзі, хоць мела таксама досыць хібаў. І звязаны яны найперш з адсутнасцю на тэрыторыі Княства канчаткова выпраўленых, навукова адрэдагаваных, адаптаваных да жывой мовы біблейных тэкстаў. У 1561 г. віленскі ваявода Р. Хадкевіч і падскарбі А.Валовіч накіроўвалі ў Маскву чалавека “<...> з заданнем атрымаць для друку аўтарытэтныя тэксты, славянскую Біблію, “Жыціе Антонія Пячэрскага” і “Евангельскія гутаркі”, незадоўга перад гэтым перакладзеныя з грэчаскай мовы пад кіраўніцтвам Максіма Грэка” [16, с. 97]. На жаль, просьбу Хадкевіча і Валовіча ў Маскве не прынялі пад увагу.

Гэта адна з прычын, па якой праца І. Фёдарава і П. Мсціслаўца ў Заблудаве і Астрогу лічыцца не толькі друкарскай, але і філалагічнай, рэдактарскай – *маскоўскія першадрукары рабілі тэксталагічную падрыхтоўку Біблії, правячы рукапісы*, як згадваў Сымон Будны, па старых, магчыма перыяду Кіеўскай Русі, кнігах. Няма сумненняў, што друкары ведалі, акрамя Генадзьеўскага спісу Бібліі (таго самага, які прасіў у маскоўцаў Хадкевіч), пераклады Францыска Скарыны і Мацея Дзясятага, а таксама зважалі на польскі варыянт поўнай Брэсцкай Бібліі 1563 г.

У выніку Астрожская Біблія становіцца значнай падзеяй у гісторыі кніжнай культуры ўсходніх славян. З пункту погляду гісторыі рэдагавання цікавым уяўляецца той факт, што надрукаваная І. Фёдаравым Біблія “<...> адразу ж пасля выдання стала прадметам працы кніжнікаў ВКЛ, “кніжнага спраўлення”. Рабілася філалагічная праўка, накіраваная на замену славянскіх архаізмаў словамі жывой мовы” [16, с. 99].

**Прадмова К. Астрожскага да Бібліі:**

“<...> Вамъ же, о Христе избраннымъ прежде вѣкъ, по предъувѣденію вѣчнаго Бога, въ народѣ Рускомъ, сыномъ церкве Восточныя, и всѣмъ съгласующимся языку Словенскому и съединяющимся тояжде церкве православію, всяческаго чина христоименитымъ людемъ, азъ Константинъ, нареченый въ святомъ крещеніи Василіе, благодатію Божіею, княжа Острозское, воевода Кіевскій, маршалокъ земли Волынское и прочаа, братіи возлюбленой, не точію еже по плоти, но и по духу святыня, всѣмъ повсюду православнымъ, съ любовію се възвѣщаю: яко, благоволеніемъ, щедротами и человѣколюбіемъ Божіимъ, сподобихся начало положити и съвръшеніе видѣти дѣла сего честнаго <...>, еже вамъ нынѣ повсюду предлагаемо зрится, книги обоего завѣта, глаголемыя Греческимъ языкомъ Вивліа, вся поряду напечатана въ богоспасаемомъ и домоначалномъ градѣ моемъ Острозѣ, въ земли Волынской, въ лѣто отъ созданіа

міра 7089, отъ въплощенія же отъ Духа свята и Марія дѣвы вочеловѣченіа Христа спаса нашего 1581, мѣсяца августа 12 дня. <...> Сіе напечатано въ два столпца, на Греческомъ и Славянскомъ” [50, с. 53].

Яшчэ адзін прыклад таго, з якой уважлівасцю, нават скрупулёзнасцю рыхтаваліся да друку рукапісы перакладаў Бібліі, звязаны з некалькімі спробамі пратэстантаў Прусіі і Вялікага Княства Літоўскага выдаць Святое Пісанне на літоўскай мове. Пры гэтым заўважым, што літоўцы, у адрозненне ад беларусаў, зусім не мелі кніжнай традыцыі. Па словах Інге Лукштайтэ, менавіта Рэфармацыя дала штуршок да ўзнікнення гэтай традыцыі, дапамагла пераадолець інерцыю ранейшага культурнага развіцця [40, с. 110].

Падрыхтоўка літоўскага варыянта Бібліі была звязана найперш з прыстасаваннем біблейнай тэрміналогіі да сродкаў жывой, літаратурна не апрацаванай мовы. Сапраўдны подзвіг у гэтым сэнсе здзейсніў пастар аднаго з прыходаў у Прусіі Ёган Брэтке, які праз 11 год (з 1579 па 1590 гг.) завяршыў сваю працу перакладчыка. Па загаду прускага князя Георга Фрыдрыха была склікана камісія, якая складалася са святароў. Апошнія зрабілі *першую рэдактарскую праўку рукапісу Брэтке*. У 1592 г. тая ж самая камісія зноў знайшла недахопы. У выніку рукапіс Бібліі так і не быў надрукаваны.

Цікавая гісторыя звязана з перакладам Бібліі на літоўскую мову Станіслава Хілінскага. Замовілі гэты пераклад англічане. У 1659 г. рукапіс быў падрыхтаваны і камісія, складзеная з тэолагаў Оксфардскага ўніверсітэта, станоўча яго ацаніла. У 1660 г. лонданская друкарня пачала Біблію Хілінскага друкаваць, аднак “<...> у справу ўмяшаўся літоўскі пратэстанцкі сінод, які запатрабаваў надрукаваную частку Старога Запавету на рэцэнзію” [16, с. 167].

Уважлівыя рэцэнзенты знайшлі шматлікія памылкі і адправілі рукапіс на дапрацоўку. Паміж Хілінскім і Сінодам распачаліся спрэчкі, кропку ў якіх паставілі мецэнаты з Англіі, забраўшы увесь наклад Бібліі і перадаўшы яго ў лонданскую галандскую кірху, дзе ён ляжаў як звычайная макулатура.

**Вывады па 3 параграфе:**

**1.** На пачатку XVI ст. на тэрыторыі Беларусі адбываецца пераход ад рукапісных да друкаваных кніг. Рэдагаванне становіцца тым, чым яно ёсць у XXI ст., – працэсам падрыхтоўкі рукапісу да друку.

**2.** Упершыню на дзяржаўным узроўні алгарытм выпуску рукапісных дакументаў, капіравання кніг быў створаны ў канцылярыі вялікіх князёў літоўскіх. Плён працы пісараў – рукапісы – праходзілі як мінімум праз два рэдактарскія чытанні: спачатку чытаў пісар-ураднік, або пісар вялікі

(ён ставіў подпіс на дакуменце), потым канцлер прыкладаў пячатку, канчаткова зацвярджаў рукапіс, які з гэтага моманту атрымліваў юрыдычную сілу.

**3.** Рукапісныя кнігі Вялікага Княства Літоўскага XVI ст. усё больш адыходзяць ад балгара-візантыйскай традыцыі: з'яўляецца ўказанне на аўтарства рукапісу, пашыраецца дыяпазон жанраў, частымі робяцца каментарыі, устаўкі перапісчыкаў. Рэдактарамі такіх рукапісаў становяцца не проста адукаваныя кніжнікі, а спецыялісты ў вузкай галіне ведаў (напрыклад, прафесары матэматыкі і геаграфіі рэдагавалі кнігі адпаведнага кірунку, якія перапісваліся ў акадэмічным віленскім скрыпторыі).

**4.** З'яўленне на тэрыторыі Княства друкарскіх варштатаў зрабіла кнігу даступнай. Цягам усяго XVI ст. самай друкуемай кнігай была Біблія. Яе падрыхтоўка вымагала адказнасці, тытанічнай працы, немалую частку якой складала рэдактарская дзейнасць. Дзеля выверкі перакладных выданняў Бібліі (Брэсцкая, Астрожская і інш.) часта запрашаліся людзі з тэалагічнай адукацыяй, ствараліся рэдактарскія калектывы.

**Пытанні для самападрыхтоўкі:**

1. Хто выконваў функцыі рэдактара ў скрыпторыі пры вялікакняжацкай канцылярыі? Колькі разоў праводзілася вычытка канцылярскіх дакументаў?
2. У якім скрыпторыі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ўпершыню быў падрыхтаваны падручнік па матэматыцы?
3. Калі і дзе на тэрыторыі Княства ўпершыню адкрылася друкарня?
4. У якім скрыпторыі капіравалася першая рэдакцыя Статута?
5. Калі была надрукавана першая праваслаўная Біблія? Дзе гэта адбылося?

**Пытанні для дыскусіі:**

1. Чаму напрыканцы XV ст. у Кракаве было забаронена выданне кірылічных кніг?
2. Наколькі верагодна тое, што кнігі Ф. Скарыны былі спалены ў Маскве?
3. Ці магчыма было выкарыстанне Брэсцкай Бібліі ў праваслаўным богаслужэнні?

**Рэкамендаваныя тэмы для рэфератыўных паведамленняў:**

1. Рукапісны Псалтыр XIII – XVI ст.: эвалюцыя кнігі;
2. Брэсцкая Біблія: працэс падрыхтоўкі рукапісу да друку;
3. Прадукцыя скрыпторыя пры Віленскай езуіцкай акадэміі.

**Літаратура:**
1. Агіевіч, У.У. Імя і справы Скарыны: У чыіх руках спадчына / У.У. Агіевіч. – Мінск: Бел. навука, 2002. – 319 с.
2. Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI – першая палова XVIII стагоддзя / НАН Беларусі, Ін-т літ. імя Я.Купалы; Падрыхт. А.І. Богдан і інш.; навук. рэд. В.А. Чамярыцкі. – Мінск: Бел. навука, 2003. – 1015 с.
3. Асветнікі зямлі Беларускай: X – пачатак XX ст. Энцыкл. даведнік / рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш.; маст. У.М. Жук. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2006. – 496 с.
4. Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 т. – Т. 1–2 / рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; маст. З.Э. Герасімовіч. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2007. – 688 с.
5. Гарэцкі, М. Гісторыя беларускай літаратуры / М. Гарэцкі. – Мінск: Маст. літ., 1992. – 479 с.
6. Гісторыя беларускай кнігі: у 2 т. – Т. 1: Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага / М.В. Нікалаеў; навук. рэд.: В.В. Антонаў, А.І. Мальдзіс. – Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. – 424 с.
7. Гісторыя беларускай літаратуры XI – XIX стагоддзяў: у 2 т. – Т. 1: Даўняя літаратура: XI – першая палова XVIII стагоддзя / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; навук. рэд. В.А. Чамярыцкі. – 3-е выд., выпр. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 910 с.

## §4. РЭДАКТАРСКАЯ, ПЕРАКЛАДЧЫЦКАЯ І ВЫДАВЕЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

**4.1.** Сістэматызацыя і спецыфіка каментароў.
**4.2.** Асаблівасці перакладу.
**4.3.** Афармленне кніг.

**Сістэматызацыя і спецыфіка каментароў.** Ф. Скарына падрыхтаваў да выдання і надрукаваў 23 кнігі Бібліі пад агульнай назваю “Бивлія Руска, выложена доктором Франциском Скориною, изъ славнаго града Полоцька, Богу ко чти и людемь посполитымь кь доброму наученію”. Першая выдадзеная кніга – “Псалтыр”[15] (датуецца 6 жніўнем 1517 г.).

[15] Заўвага – паводле У.У. Агіевіча (“Імя і справы Скарыны”), першай выдадзенай у Празе кнігай варта лічыць не “Псалтыр” (6 жніўня 1517 г.), а кнігу св. Іова (10 верасня 1517 г.). “Тагачасны каляндар адрозніваўся ад сучаснага. Як царкоўны, так і грамадзянскі год, паводле рашэння маскоўскага Сабора 1492 г., пачаў адлічвацца <...> ад пачатку верасня. Меркавалася, што ў гэтым месяцы адбылося стварэнне свету роўна 7000 гадоў таму. Такім чынам, жнівень, калі выдаваўся “Псалтыр”, быў 12-м месяцам кніжнага года” [1, с. 56].

Кожная з кніг пачынаецца “предословием” і завяршаецца “послесловием” (калафонам). Усяго ў спадчыне Ф. Скарыны 50 прадмоў і 62 пасляслоўі. У 1522 г. (г.Вільня) выйшла “Малая падарожная кніжка”, у якой аб’яднаныя “Псалтыр”, “Часасловец”, “Шасцідневец”, 8 акафістаў, 10 канонаў і “Саборнік”. У 1525 г. (г.Вільня) быў апублікаваны “Апостал” − апошняя кніга Ф. Скарыны.

На пачатку XVI ст. у Еўропе выйшла каля 20 млн. асобнікаў друкаваных кніг [16, с. 171]. З’яўляліся і імкліва распаўсюджваліся новыя прафесіі − наборшчык, мастак, які працуе ў тэхніцы дрэварытаў, пераплётчык. Зрэшты, выдавецтва кніг прыносіла прыбытак. Аднак так было ў Заходняй Еўропе. На Усходзе, здаецца, толькі Мамонічы навучыліся зарабляць на кніжнай вытворчасці, а да іх ні Ф.Скарына, ні С.Будны, ні І. Фёдараў[16] фінансавага поспеху не мелі. Калі казаць пра Ф.Скарыну, то атрыманне прыбытку для яго, відавочна, не было самамэтай. У адваротным выпадку ён друкаваў бы на чэшскай, нямецкай або польскай мовах. Зварот да “простай рускай” (старабеларускай[17]) мовы вымагаў найперш вялізнай філалагічнай працы, бо трэба было: 1) знайсці і сістэматызаваць кодэксы кананічных біблейных кніг на розных мовах; 2) параўнаць варыянты перакладаў Бібліі (напрыклад, грэчаскі і лацінскі); 3) зрабіць уласны пераклад.

**Сістэматызацыя і спецыфіка каментароў.** З першай задачай Скарына паспяхова справіўся. Упершыню ў гісторыі ўсходніх славян ён навукова сістэматызаваў кананічныя кнігі Бібліі. У “Прадмове да ўсёй “Бібліі” ён падае дакладны пералік “Богам натхнёных” кніг, заўважаючы: “Колькі слоў, столькі і тайнаў! Аб усіх кнігах “Бібліі”, наколькі дазваляў мне мой розум, я напісаў кароткія звесткі. А калі ў нечым памыліўся, прашу разумнейшых, каб выправілі. Прашу вас, дзеля Бога і людзей” [63, с. 130].

[16] Заўвага − “У 1590-я гг. віленскі выдавец Кузьма Мамоніч купіў значную частку нераспрададзенага тыражу Астрожскай Бібліі, у тым ліку вялікую колькасць недадрукаваных асобнікаў. Адсутныя лісты былі дадрукаваны спецыяльна адлітым па заказе Мамонічаў шрыфтам; у бібліяграфіі яны атрымалі назву “віленскіх” [16, с. 99].

[17] Заўвага − мова Ф. Скарыны з’яўляецца прадметам палемікі паміж тымі навукоўцамі, якія лічаць, што ў часы Скарыны беларускай мовы яшчэ не існавала, адпаведна − першадрукар ніяк не мог яе выкарыстоўваць у якасці рабочай мовы для сваіх перакладаў, і тымі, хто ўсё ж даводзіць, што Скарынава лексіка (гаворачы, знадзеш), фанетыка (рускы, мовіці, вучыць), граматыка (Псалтыру − у м.скл) “красамоўна ілюструюць нормы беларускай мовы” [1, с. 14].

**Кнігі Старога Запавету (“Прадмова да ўсёй “Бібліі”):**

Быццё Майсея
Выхад
Левіт
Лічбы
Другі закон
Кніга св. Іова
Ісус Навін
Кнігі Суддзяў
Руф
Кнігі Чатырох Царстваў

Дзве кнігі Параліпаменана
Дзве кнігі Ездры
Тавіёт
Юдзіф
Эсфір
Песні цара Давыда
**Тры кнігі Саламонавы:**
Прыпавесці, Эклізіяст,
Песня песняў
Кніга Ісуса, сына Сірахава
Прамудрасць Божая
Кнігі 16 прарокаў Гасподніх
Кнігі Макавеяў

“Вось такія кнігі ўваходзяць у склад першай часткі “Бібліі” [63, с. 128]. “Стары запавет уключае 24 кнігі” [63, с. 127].

**“Другая частка Бібліі – выратавальны Новы Запавет”** [63, с. 129]:

Кнігі чатырох евангелістаў,
альбо Святое Дабравешчанне:
Матфея, Маркі, Лукі, Іаана
Дзеянні апосталаў
Пасланні апостала Паўла
Да сямі цэркваў.
Восьмае пасланне да Яўрэяў.
Павучэнні
Кніга св. Іаана – Апакаліпсіс.

**Храналогія Скарынавых выданняў, паводле Я. Карскага:**

**ПРАГА:**

**1517 г.:** Псалтыр, Кніга св. Іова, Прыпавесці, Сіраха;

**1518 г.:** Еклізіяст, Песня песняў, Прамудрасць Саламона, Кнігі Царстваў, Ісуса Навіна;

**1519 г.:** Юдзіф, Кнігі Суддзяў, Пяцікніжжа Майсея, Руф, Эсфір, Плач Ераміі, Данііла;

**ВІЛЬНЯ:**

**1525 г.:** “Малая падарожная кніжка”[18]; “Апостал”.

[18] Заўвага – сучасныя навукоўцы лічаць, што “Малая падарожная кніжка” была надрукавана не ў 1525 г., як падае Я. Карскі, а ў 1522 г., бо ў выданні “змешчаны святцы на 1523 г. і пазней” [14, с. 115].

Паводле Г. Галенчанкі, Скарынаў "рэестр" біблейных кніг не дужа адрозніваўся ад праваслаўнага і каталіцкага спісаў. Адно толькі, "<...> кнігі "II Ездры", "Тавіт", "Юдзіф", "Прамудрасці", "Ісус Сірахаў", а з прароцкіх – "Пасланні Ераміі", хоць і дапускаюцца ў праваслаўных Бібліях, але лічацца не "богадухнавеннымі", а "душазабвеннымі" [14, с. 122]. Тагачасная каталіцкая Біблія ўсе гэтыя кнігі лічыла кананічнымі. Што да праваслаўных, то некананічныя кнігі Бібліі ўваходзілі ў шматлікія рукапісныя зборы XV – XVI стст. Амаль гэтакі ж змест у Генадзьеўскай Бібліі (за выключэннем IV – V Ездры).

Яшчэ адна дэталь, якая робіць падобнымі Скарынаву Біблію і Генадзьеўскую: у абедзвюх рэдакцыях вылучаюцца 4 жанрава-тэматычныя біблейныя групы (Прадмова да "Першай кнігі Царстваў"):

1. Законы, навукі і суды Божыя;
2. Гістарычныя і летапісныя кнігі;
3. "Кнігі аб мудрасці, розуме і навуцы Старога і Новага Запаветаў";
4. Кнігі прароцтваў і ўяўленняў.

Г. Галенчанка, У. Агіевіч і іншыя навукоўцы лічаць, што такі жанрава-тэматычны падзел сведчыць пра першапачатковую праваслаўную арыентацыю Ф. Скарыны, які рупіўся найперш захаваць рукапісную традыцыю праваслаўных Біблій.

Да кожнай з кніг Скарына падае змястоўную анатацыю-каментар, выконваючы функцыю **навуковага рэдактара**. *Асаблівасці Скарынавых анатацый наступныя:*

1. Паралельна падаюцца назвы кнігі на розных мовах – як правіла, на грэчаскай, старажытнаяўрэйскай і рускай: "па-грэцку "Пентацеўхан", альбо "Пяцікніжжа Майсеева"; "Песні цара Давыда" па-грэцку завуцца "Псалцірон", па-яўрэйску "Цілім"; "усе творы Старога і Новага Запаветаў, разам сабраныя, называюцца "Біблія", што па-руску азначае "Кніга";

2. Каротка (1 – 2 сказы), але надзвычай ёміста раскрываецца змест кнігі, акрэсліваецца яе месца сярод іншых кніг Святога Пісання: "<...> першая кніга – "Быццё" Майсея. У ёй апісваецца сатварэнне свету і зямлі, пачатак людскога роду, узнікненне розных народаў і моў"; "пятая кніга Майсеева называецца "Другі закон". У ёй прадказваецца святое Евангелле, а таксама скарочана паўтараецца ўсё тое, аб чым падрабязна гаварылася ў ранейшых кнігах".

3. Ф. Скарына імкнецца расшыфраваць агульнавядомыя паняцці, дакладнае значэнне якіх для пераважнай большасці "людзей паспалітых" заставалася невядомым. Так, першадрукар дае тлумачэнне слова "Біблія". Гэта "Книга родства Исуса Христова". "Імя" для кніг Старога і Новага Запаветаў".

4. Кнігі Бібліі нярэдка ўключаюцца ў агульнакультурны кантэкст. Скарына параўноўвае "Богам натхнёную" кнігу і кнігу, "напісаную чала-

векам”: “<...> кнігі “Суддзі” ці кнігі “Макавеяў”. Яны значна шырэйшыя і больш праўдзівыя, чым “Александрыя” і “Троя” (папулярная белетрыстыка ў перыяд Сярэднявечча і Адраджэння).

З анатацый вынікае **адрасат Скарынавых перакладаў** – чалавек свецкі і адукаваны, які ўзброены не фанатычнай верай, а крытычным розумам, здольны да аналізу і супастаўлення. Іншымі словамі, Скарына жадае бачыць сярод сваіх суайчыннікаў людзей новай эпохі (Рэнесансу). Аўтару прадмовы важна пазбавіць Біблію сярэднявечнай устаноўкі на “элітарнасць”. Ён адзначае: “<...> не толико докторове а люди вченые в них разумеють, но всякий человек простый и посполитый”.

Іншымі словамі, *Ф. Скарына-рэдактар акрэсліў чытацкую аўдыторыю, пажадаў бачыць падрыхтаваныя ім кнігі ў доме кожнага хрысціяніна “зямлі рускай”* (“Гэтыя кнігі карысна чытаць усякаму чалавеку: мудраму і неразумнаму, багатаму і беднаму, малому і староу” [63, с. 134]). Здавалася б, цалкам зразумелае для сучаснага рэдактара і выдаўца жаданне мець як мага больш шырокую аўдыторыю, аднак з пункту погляду XVI ст. такое жаданне было небяспечным, бо лічылася, што “<...> свободное и индивидуальное толкование Священного Писания ведёт к “горделивому умствованию в вопросах веры”, а гэта значыць – непазбежна будзе выклікаць крытыку біблейных тэкстаў, “духоўная недатыкальнасць” якіх сцвярджалася стагоддзямі.

Ф. Скарына ўжо з першых радкоў прадмовы да ўсёй Бібліі правакаваў жорсткія пярэчанні. І гэта на першы погляд можа падацца пераканаўчым сведчаннем залішняга рацыяналізму, “вальнадумства”, а нават і атэізму першадрукара. Аднак на самай справе Ф. Скарына быў чалавекам глыбока веруючым, які, аднак, спавядаў два шляхі пазнання Бога – праз веру і праз веды. “У гэтай кнізе – пачатак і канец усёй існуючай мудрасці, бо толькі праз яе можна спасцігнуць Бога ўсётрымальніка” [63, с. 126]. Тое, што Бог, св. Троіца сапраўды ёсць “пачаткам і канцом” усяго, для Скарыны – ісціна, якая не падлягае сумненням. І гэта – аспект веры. Але тое, што спасціжэнне Бога магчымае праз спасціжэнне свету, які ён стварыў, – гэта ўжо аспект ведання (навукі). Скарына быў перакананы: **чым больш мы ведаем пра свет Божы, тым бліжэй мы да самога Бога.**

*Гэтая рэнесансная логіка з’яўляецца асноўным светапоглядным прынцыпам, якім быў узброены Скарына як рэдактар і выдавец Святога Пісання.* Разглядаючы Біблію як “крыніцу вечнай мудрасці”, першадрукар рэкамендаваў кожную з яе частак для вывучэння пэўнай дысцыпліны:

| Вучэбная дысцыпліна: | Кніга Бібліі як падручнік: |
|---|---|
| “У “Бібліі” – сутнасць **СЯМІ НАВУК ВЫЗВАЛЕНЫХ**!” | |
| “**Граматыка**, якая вучыць правільна чытаць і гаварыць” | Псалтыр |
| **Логіка**, “якая вучыць пры дапамозе аргументаў адрозніць праўду ад хлусні” | “Кніга св. Іова” або “Пасланні св. апостала Паўла” |
| **Рыторыка**, якая ёсць само красамоўства | “Кнігі Саламонавы” |
| **Арыфметыка**, якая вучыць хутка і без памылак лічыць | “Кнігі Майсеевы” |
| **Геаметрыя**, якая па-нашаму завецца землямеранне | Кнігі Ісуса Навіна” |
| **Астраномія**, альбо інакш зоркалічэнне | Кнігі Ісуса Навіна”, “Кнігі Царстваў”, “Евангеллі” |
| **Музыка,** альбо пеўніца | “Кнігі Саламонавы” |
| **Ваенная** і багатырская **справа** | “Суддзі”, кнігі “Макавеяў” |
| **Гісторыя** за тысячу год, **летапісанне** | Кнігі “Параліпаменана” |
| **Мудрасць** і навука добрых нораваў | “Ісус Сірахаў”, “Прыпавесці Саламона” |

Таб. 4.2

Мудрасць біблейных кніг, аднак, трэба разгадваць, бо амаль кожнае слова заключае ў сабе сімвалічны сэнс (“знамение”). “Скарына лічыў, што ў біблейным выказванні існуе вонкавы, фабульны, усім зразумелы змест і ўнутраны – духоўны, сімвалічны” [17, с. 298]. Так, егіпецкае рабства ў Старым Запавеце – гэта на самай справе наша духоўная няволя, пасланне Майсея фараону – “знаменавала” прышэсце Хрыста на зямлю, праход сыноў Ізраілевых праз Чырвонае мора – будучае хрышчэнне. Кожная кніга ў Скарынавым прачытанні заключае “мудрасць вечную”. Задача выдаўца, рэдактара Бібліі, на думку палачаніна, палягае ў тым, каб падштурхнуць чытача, прымусіць аналізаваць тое, што раней прымалася на веру: “Біблія” – дзівосная рака! Яна бывае мелкай, і нават авечка можа яе перайсці! Але адначасна – і глыбокай, калі і слон змушаны плысці цераз яе” [63, с. 126].

Асаблівасці перакладу. У сувязі з перакладчыцкай дзейнасцю Ф. Скарыны існуюць пытанні, на якія сёння няма пераканаўчых адказаў:

1. Чаму, выбіраючы шлях перакладчыка і каментатара Бібліі, доктар Скарына ні ў Кракаве, ні ў Падуі не выбраў у якасці спецыялізацыі тэалогію?

2. Калі Скарына паспеў перакласці Стары і Новы Запаветы?[19]



**Мал. 8.** "Псалтыр" Ф. Скарыны, 1517 г.

Аднак Ф. Скарына не толькі пераклаў Святое Пісанне, але і паўплываў на іншыя славянскія пераклады, у тым ліку на паважаны ў праваслаўным свеце Астрожскі. У.Конан у сувязі з гэтым адзначае: "Астрожская Біблія Івана Фёдарава таксама пачынаецца са Скарынавага радка: "Искони сотворил Бог небо и землю, земля же бе неплодна и не украшена". У старaславянскім варыянце гэтага радка: "невидима и неустроенна", а ў сучасным рускім перакладзе: "безвидна и пуста" [17, с. 306].

Як бачым, замест "неустроенна" і "пуста" Скарына ўжывае "не украшена", пры гэтым пад "прыгажосцю" ("красотою") мае на ўвазе анталагічную прысутнасць прыроды, якая, на думку першадрукара, заключае ў сабе дух Божы. У дадзеным выпадку палачанін не перакладае грэчаскі арыгінал слова ў слова, а знаходзіць сэнсавыя эквіваленты, стараецца захаваць біблейны дух. Яшчэ адна асаблівасць перакладаў Скарыны – артыстызм, эстэтызацыя біблейнага зместу. Дабро, боскасць у яго заўжды прыгожыя; пачварнасць, зло – агідныя.

Артыстызм, вольнасць у перакладзе характэрны перадусім для пражскіх выданняў. Віленскія ж "Малая падарожная кніжка" і "Апостал" былі арыентаваны, як выказаўся А.Мальдзіс, на людзей усходняга веравызнання, а

[19] Заўвага – Ф. Скарыне для таго, каб сістэматызаваць кодэксы кананічнай Бібліі, перакласці іх, падрыхтаваць рукапісы да друку і, нарэшце, надрукаваць, спатрэбілася прыблізна 11 год: з 1506 г. (калі быў завершаны Кракаўскі ўніверсітэт) па 1517 г., калі выйшаў "Псалтыр". Існуе думка (яе падзяляе У.Конан), згодна з якой перакладаць кнігі Бібліі палачанін пачынае ўжо ў Кракаве, г.зн недзе з 1504 г. Калі прыняць пад увагу тое, што ў актах Падуанскага ўніверсітэта пра Скарыну напісана "вельмі вучоны малады доктар мастацтваў", то ў 1504 г. яму павінна было быць каля 14 год. Відавочна, што ў такім узросце Скарына яшчэ не мог засвоіць біблейную традыцыю ў такой ступені, каб здзейсніць пераклад з трох класічных моў (грэчаская, лацінская, старажытнаяўрэйская) і пры гэтым мець на ўвазе Вульгату, чэшскі, польскі, царкоўнаславянскі (у некалькіх аўтарскіх рэдакцыях) варыянты.

таму рэдакцыі біблейных тэкстаў не надта адрозніваліся ад кананічных крыніц, г.зн. яны адпавядалі славянскай, візантыйскай традыцыі. Згаданая асаблівасць – адна з прычын, “па якой большасць экзэмпляраў названых кніг захавалася менавіта на Маскоўшчыне” [16, с. 181].

Прынцып “старины не рушати” захоўваўся і пры падрыхтоўцы рукапісу “Псалтыра”. Скарына выдаў яго на традыцыйнай царкоўнаславянскай мове, праўда, дадаў значны чужародны фрагмент – 3 вершы з 13 псалма, якія адсутнічаюць у старых рускіх рукапісах, затое прысутнічаюць у Вульгаце і некаторых чэшскіх спісах.



**Мал. 9.** Біблія Ф. Скарыны

На думку Я. Карскага, “Псалтыр” і “Апостал” Скарына падрыхтаваў на царкоўнаславянскай мове, “дазволіўшы сабе толькі рэдакцыйныя праўкі ў тэксце, зважаючы на чэшскую Біблію 1506 г.”. Пры гэтым тлумачэнні незразумелых слоў на палях палачанін падаваў на старабеларускай мове. Аналізуючы пераклады іншых кніг, Я. Карскі падкрэслівае: “<...> Скарына друкуе па магчымасці на зразумелай для народа мове. Аднак не адважваецца перайсці на чыста народную мову” [29, с. 27], бо ў яго перакладах існуюць як граматычныя асаблівасці царкоўнаславянскай мовы, так і шматлікія чэхізмы (прыклады апошніх):

Раптам – **наглѣ** (nahle);
Молитовницы – **пословѣ** (poslowee);
Птица – **врабъ** (wrabecz);
Пажити – **пасътвы** (pastwy).

Разам з тым, Я. Карскі адзначае і самастойнасць перакладаў Ф. Скарыны, якія “не былі рабскім наследаваннем царкоўнаславянскага або чэшскага ўзораў”. Скарына імкнуўся творча падысці да перакладчыцкай справы, часам нават аздабляючы свае кнігі “вершамі сілабічнага характару”. У якасці доказу гэтай думкі аўтар шматтомнай працы “Беларусы”

прыводзіць урывак з кнігі “Выхад”, які мы падаём з паралельным перакладам на сучасную рускую мову:

***“Выхад”, XX: 3 – 17.***

| Скарынаў верш: | Глава: Верш | Адпаведны біблейны верш: |
|---|---|---|
| Веруи в бога единаго. | **(XX: 3);** | *Да не будет у тебя других богов пред лицем Моим.* |
| А не бери надармо имени его. | **(XX:7);** | *Не произноси имени Господа, Бога твоего, напрасно; ибо Господь не оставит без наказания того, кто произносит имя его напрасно.* |
| Помни дни светые свѧтити | **(XX: 8);** | *Помни день субботний, чтобы святить его.* |
| Ѻца и матку чтити. | **(XX: 12);** | *Почитай отца твоего и мать твою, чтобы продлились дни твои на земле, которую Господь, бог твой, даёт тебе.* |
| Не забиваи ни единa. | **(XX: 13);** | *Не убивай.* |
| И не делаи грѣху блудна. | **(XX: 14);** | *Не прелюбодействуй.* |
| Не вкради что дружнего. | **(XX: 15);** | *Не кради.* |
| А не даваи сведецства лжива. | **(XX: 16);** | *Не произноси ложного свидетельства на ближнего твоего.* |
| Не пожедаи жены ближнего.<br>Ни имениѧ или речи его. | **(XX: 17).** | *Не желай дома ближнего твоего; не желай жены ближнего твоего, ни раба его, ни рабыни его, ни вола его, ни осла его, ничего, что у ближнего твоего.* |

Таб. 4.3. (пав.: [29, с. 30])

***Ф. Скарына***

Zawrze gospod trebnik swoj, zloreczil żertwie swoiej. Dal w ruce wrazie steny stolpow jego. Glas dali sut w domu boźiem jakoby w deń praznikow

***Маскоўская Біблія 1663 г.***

Otrinu gospod’ trebnik swoj, ottrjase swiatyni swoja. Sokruszi w rucie wraźij zabrala grada jeja. Glas wozdasa w domu gospodni, jako w den prazdnika [94, c.464].

**Афармленне кніг.** Характарызуючы афармленне Скарынавых кніг, Г.Галенчанка ўдакладняе: "Многія характэрныя рысы выданняў Скарыны ў той ці іншай меры звязаны з рукапіснымі традыцыямі, а таксама з тымі навацыямі, якія пачалі выяўляцца ў беларускім кнігапісанні ў канцы XV – пачатку XVI стст. (больш-менш выразны падзел слоў, фраз, формы канцавых палос, малы фармат, глосы, аўтарскія каментарыі і інш.) [14, с. 59].

Усяго ў захаванай спадчыне Ф.Скарыны даследчыкі налічваюць каля 2030 ініцыялаў, каля 585 заставак (у тым ліку віньетак), гравюры – 54 адбіткі, выкананыя ў тэхніцы дрэварыту. Усё гэта дастаткова падрабязна апісана ў шматлікіх даследаваннях, у тым ліку ў цытаванай намі вышэй рабоце Г.Я. Галенчанкі "Францыск Скарына – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар". Мы б хацелі звярнуць увагу на **рэдактарскія знакі і спосабы выдзялення ў Скарынавым тэксце.**

+
+
+

Да рэдактарскіх знакаў можна аднесці гэты элемент наборнага арнаменту. Ён выкарыстоўваецца Ф.Скарынам для аддзялення значных частак тэксту, раздзелаў, загалоўкаў. Гэты ж знак стаіць пасля аўтарскіх рэплік. Даследчыкі называюць згаданы знак сімвалам "усюдыіснай Троіцы". "У час абвостранай барацьбы з ерассю антытрынітарызму было актуальна падкрэсліваць веру "во троици единаго бога" і ў тэкстах, і ў графіцы, <...> + (верхні) – Бог-Айцец, + (ніжні) Бог-Сын, + (правы) Бог-Дух Святы, Карабель Духу (каўчэг)" [1, с. 87].

+
+

Так званы "дыкерый". Нярэдка ўжываўся Скарынам пасярэдзіне тэксту, а таксама пры афармленні глосаў. Слова, якое падлягае тлумачэнню, выдзяляецца ў тэксце з абодвух бакоў як бы ў двукоссе, а на "боцехъ" ці ў падрадкоўі даецца яго паясненне. Напрыклад, Скарына выдзяляе словы: "туне", "инокъ", "тьмами темъ", якія перакладае як (адпаведна) "всуе", "одинец", "десяти тысящами" і інш. У прадмове да "Псалтыра" Скарына гэтак тлумачыць прычыну такой пабудовы тэксту:

*"Гэтаксама змясціў узбоч некаторыя тлумачэнні для простых людзей, ні ў чым не парушаючы "Псалтыра". Напрыклад, словы – "анагры", "Герадзеева жыллё", "хлябі" ды іншыя, якія ёсць у "Псалтыры", – не зразумелыя простым людзям. Таму збоку падаюцца іх пераклады на рускую мову, або што яны абазначаюць"* [63, с.132].

Апроч гэтых графічных знакаў, Скарына выкарыстоўвае для выдзялення пэўных частак тэксту **чырвоны колер**. Як правіла, чырванню выдзяляюцца аўтарскія рэплікі. Напрыклад, "гласъ Церъкви Христіанъское Жедающее Пришесътвиа Христова" ("Песня песняў") і інш. Чырвоны

колер дастаткова часта ўжываўся ў рукапісных кнігах Вялікага Княства Літоўскага, аднак звернем увагу на тое, што гэты колер для Скарыны, акрамя сэнсавага выдзялення, яшчэ і спосаб аддзялення біблейнага тэксту ад аўтарскіх рэмарак. Чырвоны колер на белым – гэта колер Георгія Пераможцы. Скарыну ж таксама ў некаторых дакументах называюць Георгіем (напрыклад, у кракаўскім прывілеі Жыгімонта I ад 25 лістапада 1532 г.).

**Вывады па 4 параграфе:**

1. Ф.Скарына не толькі пераклаў Біблію на старабеларускую мову, але і ўпершыню ў гісторыі ўсходніх славян навукова сістэматызаваў кнігі Святога Пісання. Пры гэтым арыентаваўся як на праваслаўныя рукапісныя Бібліі, так і на еўрапейскія выданні пачатку XVI ст.
2. Да кожнай кнігі першадрукар падаў анатацыю, выканаўшы функцыі навуковага рэдактара. У анатацыях змешчаны лаканічныя, змястоўныя і даступныя шырокаму колу чытачоў каментары тэалагічнага, філасофскага і філалагічнага характару.
3. Рыхтуючы рукапісы перакладаў да друку, Ф. Скарына звяртаўся да ўнутрытэкставых тлумачэнняў, распрацаваў сістэму спасылак на аўтарскія каментарыі (рэмаркі).

**Пытанні для самападрыхтоўкі:**

1. Назавіце першую кнігу, якую выдаў Ф. Скарына ў Празе. Якія існуюць гіпотэзы адносна храналогіі Скарынавых выданняў?
2. З якіх частак складаецца Скарынава Біблія? Чым яна адрозніваецца ад праваслаўных і каталіцкіх выданняў?
3. Якія 4 жанрава-тэматычныя біблейныя групы (Прадмова да “Першай кнігі Царстваў”) выдзяляе Ф. Скарына?
4. Што азначае выраз “Скарына спавядаў два шляхі пазнання Бога – праз веру і праз веды”? Патлумачце на прыкладах.
5. Якія графічныя рэдактарскія знакі выкарыстоўваў Ф.Скарына?

**Пытанні для дыскусіі:**

1. Якая мэта стаяла перад Скарынам як выдаўцом “рускай” Бібліі? Ці можна лічыць дзейнасць першадрукара прадпрымальніцтвам?
2. Біблія Ф. Скарыны ніколі не выкарыстоўвалася для праваслаўнага набажэнства. Ці можна лічыць гэта паказчыкам нізкай якасці выданняў беларускага друкара?
3. Ф. Скарына пераклаў, сістэматызаваў і падрыхтаваў рукапісы біблейных кніг да друку. Наколькі, на вашу думку, верагодна тое, што ўсё гэта ён зрабіў адзін?

**Рэкамендаваныя тэмы для рэфератыўных паведамленняў:**

1. Пражскія выданні Бібліі Ф. Скарыны: асаблівасці перакладу;
2. Віленскія выданні Ф. Скарыны: спецыфіка афармлення кніг;
3. Брэсцкая, Астрожская і Скарынава Біблія: агульнае і адрознае.

**Літаратура:**


1. Агіевіч, У.У. Імя і справы Скарыны: У чыіх руках спадчына / У.У. Агіевіч. – Мінск: Бел. навука, 2002. – 319 с.
2. Асветнікі зямлі Беларускай: X – пачатак XX ст. Энцыкл. даведнік / рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш.; маст. У.М. Жук. 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2006. – 496 с.
3. Булыка, А. М. Мова выданняў Францыска Скарыны / А.М. Булыка, А.І. Жураўскі, У.М. Свяжынскі. – Мінск: Беларусь, 1990. – 253 с.
4. Галенчанка, Г.Я. Францыск Скарына – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар / Галенчанка Г.Я. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 280 с.
5. Гісторыя беларускай кнігі: у 2 т. – Т. 1: Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага / М.В. Нікалаеў; навук. рэд.: В.В. Антонаў, А.І. Мальдзіс. – Мінск: Беласрус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. – 424 с.
6. Доўнар-Запольскі, М. Да юбілею беларускага кнігадруку (Гістарычная даведка) / М. Доўнар-Запольскі. – Мінск: ARCHE, 2009. – С. 758–767.
7. Карский, Е.Ф. Белорусы: в 3 т. – Т. 3. – Кн. 2: Очерки словесности белорусского племени / Е.Ф. Карский; коммент. Т.И. Вабищевич, В.М. Казберука, О.П. Кричко. – Минск: БелЭн, 2007. – 704 с.


## Дадатак да §4

Бібліяграфічнае апісанне кніг Ф. Скарыны, якія захоўваліся ў бібліятэцы графа Ф.А. Талстога (1829 г.) [50].

**“Бивлія Руска, выложена докторомъ Францискомъ Скориною, изъ славнаго града Полоцька, Богу ко чти и людемь посполитымь къ доброму наученію”.**

“Пад гэтаю назваю вядомыя кнігі Святога Пісання Старога Запавету, перакладзеныя з Вульгаты на “літоўска-рускую” мову (“наречіе”) або толькі папраўленыя доктарам медыцыны Францыскам Скарынам, які нарадзіўся ў Полацку. Надрукаваны гэтыя кнігі ў Празе (Багемія) на сродкі віленскага саветніка Багдана Онькава”. Вядома 7 пераплётаў:

Першы:

1. **“Быццё”.** На пачатку “Прадмова да ўсёй “Бібліі” “рускаго языка”, затым – “Сказаніе въ первыя книги Моисеевы”. Лістоў 94 (188 старон.), тры “картины, резныя на дереве” (дрэварыты. – В.Е.). У канцы пасляслоўе:

“То естъ конець первыхъ книгъ Моисеовыхъ, еже отъ Еврей называются Бретисъ, погреческіи же и полатине именуются Енезеосъ, а порусски Бытья, Божіею помощію зуполнѣ выложены и вытиснены, повелѣніемъ и пилностію ученого мужа, въ лекарскихъ наукахъ доктора, Франциска Скорины, съ Полоцка, у великомъ мѣстѣ Празскомъ, по лѣтехь воплощенія Слова Божія тысещного пятьсотого девять на 10”.

2. **“Выхад”.** На пачатку “Прадмова”. Лістоў 76 (152 старон.), дрэварытаў 6. У канцы пасляслоўе:

“Доконаны суть вторыи книги Моисеевы, рекомыи отъ Еврей Геллесмотъ, погреческыи Ексодосъ, полатине Екситусъ, а порускіи Исходъ, працею и пилностію доктора Франциска Скорины, съ Полоцька, въ славномъ великомъ мѣстѣ Празскомъ”.

3. **“Левіт”.** На пачатку “Прадмова...”. Лістоў 54 (108 старон.). 3 дрэварыты. У канцы пасляслоўе: “Доконаны суть третіи книги Моисеевы, рекомыи отъ Еврей Ваикра, погреческіи Леувитикосъ, полатине Оферторіусъ, а порускіи Леувитъ, <...> людемъ посполитымъ къ доброму навченію” [50, с. 8].

4. **“Лічбы”.** На пачатку “Прадмова...”. Лістоў 74 (148 старон.), дрэварыт 1. У канцы пасляслоўе: “Доконаны суть четвертыи книги Моисеевы, рекомые отъ Еврей Ваидаберъ, погречески Аритъми, полатине Нумери, а порускіи Числа, съ Божіею помощію и его пречистое матери дѣвицѣ Маріи, всѣхъ небесныхъ силъ, святыхъ и святиць Божіихъ” [50, с. 8].

5. **“Другі закон”.** На пачатку “Сказаніе Фр. Скор. въ книги Втораго Закону Моисеева”. Лістоў 66 (132 стар.). Дрэварыт 1. “Доконаны суть пятые книги Моисеовы, еже отъ Еврей называются Ельгадворимъ, а погреческіи Девтерономосъ, полатине же Секунда-лексъ Моиси, порускіи Вторый Законъ”. Наогул у “Пяцікніжжы” лістоў 364 (728 старон.), дрэварытаў 14 [50, с. 9].

Другі:

**6. “Ісус Навін”.** На пачатку “Прадмова...”. Лістоў 48 (96 старон.), дрэварыт 1. У канцы “Пасляслоўе”.

7. **“Кнігі Суддзяў”.** На пачатку “Прадмова”. Лістоў 48 (96 старон.), дрэварыт 1.

Трэці:

8. **“Руф”.** На пачатку “Сказаніе въ книги Руфъ, прабабы Давидовы”. Лістоў 8 (16 старон.), дрэварыт 1. “Доконана есть книга Руфъ, по лѣтехъ нароженія сына Божія з непорушенное дѣвици Маріи, выложена и вытиснена повелѣніемъ и працею ученаго мужа Франциска Скорины, изъ славнаго града Полоцка, вь лекарствѣ и въ наукахъ доктора, у великомъ мѣстѣ Празскомъ, тысещи пятистѣхъ и девятинадесяти, Богу въ троици единому и Матери его со всими святыми ко чти и людемъ посполитымъ къ науцѣ” [50, с. 11].

9. **Кнігі “Царств”.** На пачатку кожнай з 4-х кніг – “Прадмова”. Усяго 241 ліст (482 старон.), 11 дрэварытаў. Напрыканцы кожнай з кніг амаль аднолькавае пасляслоўе: “Доконаваются первыя (вторыя і г.д.) книги Царьствъ, выложены докторомъ Францискомъ Скорининымъ сыномъ, изъ славнаго града Полоцька, на Рускій языкъ, напредъ Богу ко чти и людемъ посполитымъ къ наученію” [50, с. 11]. Напрыканцы ўсіх 4-х Кніг – агульнае Пасляслоўе:

“И тако доконаны суть сіе четыре книги Царьствъ, иже пишуть о царехъ Ерусалимскыхъ и о царехъ Самарійскихъ, повелѣніемъ и працею тогоже ученаго мужа Франциска Скорины, въ лекарскихъ наукахъ доктора, у великомъ старомъ мѣстѣ Празскомъ”.

Чацвёрты:

10. **“Юдзіф”.** На пачатку “Прадмова”. Лістоў 26 (52 старон.), дрэварыт 1. Напрыканцы – “Пасляслоўе”:

“Доконана естъ книга, рекомая Іудифъ, съ помощію Бога въ троици единого и матери его пречистое дэвици Маріи, людемъ посполитымъ Руского языка къ пожитку, повелѣніемъ, працею и выкладомъ ученаго мужа, въ лекарскихъ наукахъ доктора, Франциска Скорины” [50, с. 12].

11. **“Эсфір”.** На пачатку “Прадмова”. Лістоў 26 (52 старон.), 2 дрэварыты. Напрыканцы – “Пасляслоўе”. “Доконана естъ книга Есферъ, нарицаемая отъ Іудей Мьгиля, Божіею помощію и его пречистое дѣвици матери Маріи, къ наученію людемъ посполитымъ Рускаго языка, выложена працею и вытиснена повелѣніемъ ученого мужа Франциска Скорины, изъ славнаго града Полоцька, въ наукахъ и въ лекарствѣ учителя” [50, с. 13].

13. Кніга **“Іова”.** На пачатку – Прадмова да кнігі Іова”. Потым: “Аб жыцiі Св. Іова і аб родзе яго”. Лістоў – 51 (192 старон.), 2 дрэварыты. Пасляслоўе:

“Скончалася книга сія святого Іова, съ помошію Бога въ троици единаго, повелѣніемъ працею и выкладомъ избранного мужа, въ лекарскыхъ наукахъ доктора, <...> у старомъ мѣстѣ Празскомъ, лѣта по нароженію господа нашего Іс. Христа, сына Божія, изъ пречистыя дѣвици матери Божіи Маріи, тысещного пятьсотого и седмагонадесеть, мѣсяца септеврія дня десятого; ему же то буди хвала, честь и поклоненіе съ Отцемъ и святымъ Духомъ, нынѣ и всегда и въ векъ вековъ, аминь” [50, с. 13].

Пяты:

14. **“Прыпавесці Саламона цара”.** На пачатку – “Прадмова”. Лістоў – 48 (96 старон.), 2 дрэварыты. Пасляслоўе:

“Скончалася естъ книга сія, рекомая Притчи или присловія премудраго Саломона, царя Израилева, сына Давыдова, онъ же былъ царемъ въ

Ерусалимѣ, съ помощію Бога, спасителя и утѣшителя нашего, повелѣніемѣ, працею и выкладомъ избраннаго мужа, въ лекарскыхъ наукахъ доктора Франциска Скоринина сына, съ Полоцька...” [50, с. 14].

15. **“Еклезіяст цара Саламона”.** На пачатку: “Прадмова”. Лістоў 18 (36 старон.), дрэварыт 1. Пасляслоўе:

“Божіею милостію доконана естъ сія книга, рекомая Екклесіастесъ или Соборникъ премудраго Саломона, сына Давыдова, царя Ерусалимскаго, повелѣніемъ, працею и выкладомъ избранного мужа, въ лекарскыхъ наукахъ доктора, Франциска Скоринина сына, съ Полоцка”. У адной з кніг, якая захоўвалася ў бібліятэцы графа Талстога, рукой невядомага пасля гэтых слоў Ф.Скарыны было пазначана: “**а то ся стало накладомъ Богдана Онькова сына, радци места Виленьского**” [50, с. 15].

16. **“Песнь песнямь”.** На пачатку “Прадмова”. Лістоў 11 (22 старон.), дрэварыт 1. Ініцыялы і пачатковыя радкі надрукаваны кінавар’ю. Напрыканцы Пасляслоўе:

“Доконана естъ третія книга премудраго Саломона, сына Давыдова, царя Ізраилева, онъ же былъ царемъ въ Ерусалимѣ, рекомая Еврейскимъ языкомъ Сира сиримъ, а полатине Кантикумъ кантикорумъ, еже Рускимъ языкомъ и сказуется Пѣснь пѣснямъ, напредъ ко чти и къ похвалѣ Богу въ троици единому, и его пречистой матери дѣвици Маріи, и всѣмъ небеснымъ чиномъ, святымъ и святицамъ Божіимъ, и людемъ посполитымъ всѣмъ къ пожитьку” [50, с. 16].

17. **“Премудрости Божіей (Соломони)”** / “Прамудрасць Божая”. На пачатку – Прадмова. Лістоў 32 (64 старон.), дрэварыт 1. Пасляслоўе:

“Кончается книга, рекомая Премудрость, помощію Бога въ троици единаго и матери его пречистое дѣвици Маріи, повелѣніемъ, працею и выкладомъ ученаго мужа, въ лекарскихъ наукахъ доктора, Франциска Скоринина сына, съ Полоцка” [50, с. 16].

18. **Кніга “Ісуса Сірахава”.** На пачатку: “Предъсловіе самого Исуса сына Сирахова”; затым: “Другая предьмолва доктора Фр. Скорины”. Лістоў 81 (162 старон.). 1 дрэварыт. Пасляслоўе: “Доконана естъ сія книга Исуса сына Сирахова, Ерусалимлянина, рекомая Панаретосъ или Екклезіастикусъ, еже и сказуется: всѣхъ добрыхъ нравовъ Сокровище или Церковникъ” [50, с. 17].

Шосты:

19. **“Книжка рекомая Плачь Еремііинь” / “Плач Ераміі”.** На пачатку “Прадмова”. Лістоў 12 924 старон.). 1 дрэварыт. Пасляслоўе: “Доконана естъ книжка Плачу Ереміи, пророка Господня, еже замыкаеть въ собѣ, во трехъ главахъ три азбуки Еврейскіе, а во самой третей главе три азбуки, на знамя тайны живоначалное Троици, Божіею помощію и его пречистое матери Маріи, повелѣніемъ, працею и пилностію Франциска Скорины, съ Полоцька” [50, с. 18].

Сёмы:

20. **“Книги св. пророка Даніила”.** На пачатку – “Прадмова”. Лістоў – 40 (80 старон.), 1 дрэварыт. Пасляслоўе:

“Сконаваются книги Даніила пророка, Божіею помощію, зуполнѣ выложены и пильне вытиснены, у великомъ мѣстѣ Празскомъ, повелѣніемъ и працею доктора Франциска Скорины” [50, с. 18].

21. **“Дѣанія и посланія апостольская, зовемая Апостолъ**, з Божію помочью справлена докторомъ Франціскомъ Скориною, съ Полоцька”. Надр. у Вільні, 1525 г., у 8-ку. Колькасць лістоў: у “Деяніяхъ апостольскихъ” – 80 лістоў, у “Посланіяхъ соборныхъ” – 36, апост. Павла – 187, Соборникъ (Мѣсяцословъ) – 48. Усяго – 351 ліст (702 старон.). На пачатку “Дзеянняў апосталаў” – “Прадмова”; у канцы – пасляслоўе: “Доконаны суть книги Дѣяній апостольскихъ, выкладомъ, пилностію и працею доктора Франциска Скорины, съ Полоцка града” [50, с. 20]. Кожнае з “Пасланняў...” мае своеасаблівую прадмову – “Сказаніе Фр. Скорины” – і заключэнне (усюды – амаль аднолькавае):



**Мал. 10.** Тытул Скарынаўскіх акафістаў

“Доконана естъ сія книга, зовемая Апостолъ, еже замыкаетъ въ собѣ: наипервѣи Дѣянія апостольская, потомъ Посланіей святыхъ апостолъ соборныхъ , тажъ Епистолъ св. Павла 14, лѣта по нароженіи нашего спасителя Ісуса Христа, сына Божія, тысещнаго пятьсотаго и двадесять пятого, мѣсяца марта, при держаніи наласкавшего господаря Жикгымонта Казимировича, короля Полского и великого князя Литовскаго, и Рускаго, и Жомоитьскаго и иныхъ, во славномъ мѣстѣ Виленскомъ: выложена и вытиснена працею и великою

пилностію доктора Франциска Скорины, съ Полоцка, Богу во троици единому и пречистой матери его Маріи, со всеми святыми, ко чьти и людемъ посполитымъ къ доброму навченію” [50, с. 21].

У канцы “Саборніка” – пасляслоўе: “Доконанъ естъ Соборникъ, всэмъ презъ цалый годъ днемъ и праздникомъ, зачала епистоламъ и еувангеліемъ, собраны во едино мѣсто докторомъ Франциском Скориною, изъ града Полоцька” [50, с. 21].

22. **Акафисты и Каноны.** Выдадзены доктарам Францыскам Скарынам у Вільні, у 8-ку. Усяго іх 10:

**A.** “Въ недѣлю, правило Акафисту живоносному гробу и Воскресенію господа нашего Ісуса Христа” (8 лістоў, 16 старон.);

**B.** “Въ понедѣлокъ, Канонъ св. архангелу Михаилу со всѣми небесными чины” (8 лістоў, 16 старон.);

**C.** “Канонъ благодарственъ пресвятѣй Богородици” (8 лістоў, 16 старон.);

**D.** “Правило Акафисту святому великому чудотворцу Николѣ, епископу Мирликійскихъ” (7 лістоў, 14 старон.);

**E.** “Акафистъ честному и животворящему Кресту господню, починаемъ во пятокъ набожне пѣти” (16 лістоў, 32 старон.);

**F.** “Акафистъ честному и всехвалному пророку, предтечи и крестителю господъню Іоанну” (12 лістоў, 24 старон.);

**G.** “Акафисть св. архангелу Михаилу и всемъ небеснымъ чиномъ” (12 лістоў, 24 старон.);

**H.** “Акафистъ св. верховному апостолу Петру и Павлу и всѣмъ апостоломъ 12” (16 лістоў, 32 старон.);

**I.** “Акафистъ великому чудотворцу Николѣ, архіерею Миръликійску” (12 лістоў, 24 старон.);

**J.** “Акафистъ пренасвятѣйшей Богородици всегда-дѣвици Маріи” (12 лістоў, 24 старон., дрэварыт “Дабравешчанне Багародзіцы”);

Кожны з акафістаў мае амаль аднолькавае заключэнне:

“ДОКОНАНЪ ПИЛНОСТІЮ И ПРАЦЕЮ ДОКТОРА ФРАНЦИСКА СКОРИНЫ, ИЗЪ СЛАВНАГО ГРАДА ПОЛОЦЬКА” [50, с. 23].

# §5. РЭДАГАВАННЕ Ў ПЕРЫЯД ПОЗНЯГА АДРАДЖЭННЯ (другая палова XVI ст.)

**5.1.** Позняе Адраджэнне.
**5.2.** Васіль Цяпінскі.
**5.3.** Панегірыкі і палемічныя выданні.
**5.4.** Буквары.
**5.5.** Сымон Будны.

**Позняе Адраджэнне.** Другая палова XVI ст. характарызуецца зацятай рэлігійнай барацьбой. Запрошаныя Жыгімонтам II Аўгустам езуіты распачынаюць Контррэфармацыю. На культурным жыцці краю негатыўна адбіваюцца войны з Маскоўскім княствам. Няздольнасць літвінаў самастойна бараніць межы падштурхнула іх да палітычнага саюзу з Каралеўствам Польскім. На Люблінскім сойме (1569 г.) была створана новая еўрапейская дзяржава Рэч Паспалітая абодвух народаў.

Нягледзячы на складаныя ўмовы, кнігавыданне ў Вялікім Княстве Літоўскім імкліва развіваецца. З'яўляюцца новыя спісы старых, вядомых яшчэ ў Кіеўскай Русі, богаслужбовых кніг. Апошнія ўсё часцей ужываюцца не толькі для рэлігійных мэтаў, але і для свецкіх – становяцца архівамі юрыдычных дакументаў. Так, у напрастольных Евангеллях побач з тэкстамі Святога Пісання ўсё часцей сустракаюцца запісы (прыпіскі) аб ахвяраваннях цэрквам і манастырам, ёсць згадкі пра судовыя справы (напрыклад, у Лаўрышаўскім Евангеллі). Цікава, што большасць запісаў датычыцца не першых асоб у дзяржаве, як гэта было ў Сярэднявеччы, а шараговых шляхціцаў або звычайных месцічаў ці святароў. Гэта сведчыць аб дэмакратызацыі кнігі, якая перастае быць носьбітам выключна сакральных ведаў.

У другой палове XVI ст. надзвычай папулярным з'яўляецца Евангелле вучыцельнае – гэта кніга ўтрымлівае "павучэнні", якія чыталіся "во всякую неделю" або на "господские праздники". Першае надрукаванае ў Княстве Евангелле вучыцельнае, або нядзельнае, датуецца 17 сакавіка 1569 г. У Заблудаве на грошы Рыгора Хадкевіча кнігу надрукавалі Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец. Гетман (а таксама стараста магілёўскі) прапанаваў выдаць "Евангелле" на старабеларускай мове, аднак Іван Фёдараў адмовіўся рабіць пераклад, спасылаючыся на дасканаласць старaславянскай рэдакцыі. У выніку "Евангелле" выйшла на мове "словенской". На пачатку кнігі І.Фёдараў, як і Ф.Скарына, змясціў "предисловіе", а таксама выяву з гербам мецэната Р.Хадкевіча. Выданне 1569 г. было некалькі разоў скапіравана – у 1580 г. Васілём Гарабурдам і ў 1595 г. Мамонічамі. У 1616 г. на старабеларускую мову Евангелле вучыцель-

нае пераклаў Мялет Сматрыцкі. Замовіў выданне крычаўскі стараста Багдан Саламярэцкі.

**Евангелле вучыцельнае (Заблудаў, 1569 г.):**

"Книга, зовомая Евангеліе учителное, отъ всѣхъ четырехъ евангелистовъ избранна, и отъ многихъ божественыхъ писаній, и предана церкви Божіей, во всякую недѣлю читатися, такоже и на господьскія праздники и прочихъ святыхъ, на поученіе христоименитымъ людемъ, ко исправленію душевному и тѣлесному, Божіею помощію выдрукована, за щастливаго панованія наяснейшаго государя нашего Жикгимонта Августа, Божіею милостію короля Польскаго и великаго князя Литовскаго, Русскаго, Прусскаго, Жимоитцкаго, Мазоветцкаго, Вивляньскаго и иныхъ, а при архіепископѣ Іонѣ, Божіею милостію митрополитѣ Кіевскомъ и Галицкомь и всея Русіи: и выдана есть во отчизномъ имѣнію пана Виленьскаго, гетмана наивышшаго великаго князьства Литовскаго, старосты Городеньскаго и Могилевскаго, его милости пана Григорія Александровича Ходкевича, въ мѣсте зовомомъ Заблудовью, властнымъ накладомъ его милости. А начася сія книга друковати по воплощенію Сына Слова Божія 1568, мѣсяца іюля 8, и съвершися року 69, мѣсяца марта 17; давшему же Богу начатии и съвершити благоизволившему слава, честь и поклоняніе въ безконечныя вѣки" [50, с. 29].

**Урывак з прадмовы да Евангелля вучыцельнага:**

"<...> Сего ради азъ, Григорей Александровичъ Ходкевича, видѣхъ таковое христіаньское наученіе въ сей книзѣ, восхотѣхъ, еже бы слово Божіе розмножилося и наученіе людемъ закону Греческаго ширилося, занеже оскудѣ сихъ книгъ на многоразличныхъ мѣстѣхъ, и не пощадѣхъ отъ благодарованныхъ ми сокровищь на сіе дѣло дати; къ тому же изообрэтохъ собэ въ томъ дэлэ друкарьскомъ людей наученыхъ, Ивана Феодоровича Москвитина и Петра Тимофеевича Мстиславца, повелѣлъ есми имъ, учинивши варстатъ друкарьскій, и выдруковати сію книгу Евангеліе учительное, первое на почесть и похвалу господу Богу въ троицы единому, и къ наученію людемъ христіяньскимъ закону нашего Греческаго. Помыслилъ же былъ есми и се, иже бы сію книгу, выразумѣнія ради простыхъ людей, преложити на простую молву, и имелъ есми о томъ попеченіе великое: и совѣщаша ми люди мудрые, въ томъ писмѣ ученые, иже прекладаніемъ съ давныхъ пословиць на новые помылка учинится немалая, якоже и нынѣ обрѣтатся въ книгахь новаго переводу; того ради сію книгу, яко здавна писаную, велѣлъ есми ее выдруковати, которая кождому не есть закрыта, и къ выразумѣнію нетрудна, и къ читанію полезна, а наипаче темъ, которые съ прилежаніемь и со вниманіемь искомое обрѣсши восхощуть, и обрящуть" [50, с. 30].

Нягледзячы на тое, што з 1569 г. выйшла некалькі тысяч экзэмпляраў Евангелля, яго актыўна тыражавалі кнігапісцы. Пры гэтым не забываліся рэдагаваць. Так, нехта Іван, перапісваючы тэкст для смаленскага ваяводы Васіля Тышкевіча, незразумелыя чытачу старaславянізмы пераклаў на старабеларускую мову, замяніўшы: "гдьствую над німі" на "panuia nad nimi", "Блгдтію і члколюбіем" на "Ласкою і члко Любіем" (дзе-нідзе побач з кірыліцай Іван прыточваў і лацініцу). Яшчэ адзін тып Евангелля – Евангелле тэтр – таксама досыць шырока распаўсюджваўся па тэрыторыі Княства. Найлепшую рэдакцыю такога Евангелля падрыхтаваў Пётр Мсціславец у 1575 г. (г.Вільня).

**Віленскае Евангелле (Пятра Мсціслаўца 1575 г. Пасляслоўе / урывак):**

"<...> И начахъ сію святую книгу, 4 благовѣстіе, Матфеа, Марка, Луку, Іоана, печатати въ лѣто 7082, въ преславущемъ градѣ Вилнѣ, мѣсяца маія въ 14, на память святаго мученика Исидора; при державѣ государя нашего милостиваго, Гендрика, Божіею милостію короля Польскаго и великаго князя Литовскаго; и при пресвященномъ архіепископѣ нашемъ Іонѣ, митрополитѣ Кіевскомъ и Галицкомъ и всеа Русіи; умышленіемъ и промышленіемъ его милости пана скарбнаго, старосты Упицкаго, Ивана Семеновича Зарецкаго, и брата его пана Зенова, бурмистра мѣста Виленскаго [50, с. 42].

**Васіль Цяпінскі.** Вядома таксама пра Евангелле Васіля Цяпінскага. У прадмове ён акрэсліў асноўныя прынцыпы падрыхтоўкі гэтай кнігі:

1. Прынцып двухмоўя. Тэкст Евангелля паралельна выходзіць на царкоўнаславянскай і "рускай" мовах. Чытач мае магчымасць параўнаць кананічны варыянт і перакладны.

2. Прынцып даступнасці. Евангеллі "напісаны не высакадумным і красамоўным выкладам, не ўскладнёнымі і забытымі словамі, але даступна, зразумела і шчыра".

3. Прынцып народнасці – Цяпінскі акцэнтуе ўвагу на сваёй русінскасці, як бы даводзіць чытачу: я такі ж жыхар нашай Зямлі-маткі – праваслаўны земляроб (русін у дадзеным выпадку і канфесіёнім, і сацыёнім), а таму не схлушу і не здраджу: "Я не італьянец, не немец, не доктар і не нейкі пастаўлены поп, а звычайны русін, з народнага асяроддзя, які ўслугуе сваёй Русі".

4. Прынцып прыярытэту першакрыніцам. У часы Цяпінскага ўжо існавалі пераклады на беларускую мову Святога Пісання. Магчыма было з іх скарыстаць, не праводзячы ні рэдактарскай, ні філалагічнай працы. Аднак Цяпінскаму важна "не схлусіць", г.зн. мець пад рукой такі тэкст, які максімальна дакладна перадае змест 4-х Евангелляў ("У розных месцах, часта не блізкіх – адшукваў старыя і даўнія кнігі").

Як і Ф. Скарына, В. Цяпінскі разглядае Святое Пісанне як зведзеныя ў адно два шляхі спасціжэння Бога – праз веру і праз веды. Пры гэтым адстойвае права вывучаць слова Божае на "прыроджанай мове", бо толькі яна захоўвае каліва "святой праўды", "не папсаванае злымі разважаннямі".

Параўнаўшы царкоўнаславянскі і беларускі варынты Новага Запавету, Іван Саверчанка адзначае: "<...> перакладчык у якасці галоўнага прынцыпу абраў шырокую замену царкоўнаславянізмаў на беларускія народныя або набліжаныя да іх формы". Яшчэ адна дэталь, якая робіць выданне Цяпінскага блізкім да Скарынавых, – наяўнасць глосаў. Выдавец і каментатар Евангелляў, Цяпінскі тлумачыў "біблейныя тэрміны, раскрываў сутнасць многіх з'яў, падзеяў і рэчаў, пра якія паведамлялася ў тэксце. Перадусім ён дае азначэнне наступным канцэптам: Сатана, геена, акрыды, кітавы, асанна" і інш. [59, с. 235].

У канцы XVI ст. друкуюцца Новы Запавет з Псалтыром (упершыню такую кнігу выдаў Іван Фёдараў у 1580 г.). У некаторых выданнях да Новага Запавету дадаваліся маргіналіі з парадамі адносна выкарыстання тэксту пры набажэнствах.

Яшчэ адна **характэрная дэталь позняга Адраджэння** – *паступовая перавага каталіцкіх друкаваных кніг над праваслаўнымі і пратэстанцкімі.* Пры гэтым трэба ўлічваць яшчэ і той факт, што нават у праваслаўных кнігах заходнееўрапейская традыцыя часткова выцясняе візантыйскую. Асабліва моцна гэта пераарыентацыя адлюстравалася на гімнаграфіі. У Княстве была вядомая нотная кніга Ірмалой (строфы песняў і канонаў) – яна перапісвалася ад рукі шмат разоў. І амаль кожная новая рэдакцыя – чарговы крок у бок еўрапейскіх традыцый афармлення, жывой гутарковай мовы (і гэта нягледзячы нават на тое, што нотныя кнігі капіраваліся пры манастырах). Так, у самым раннім Ірмалоі Багдана Анісімовіча захоўваецца яшчэ "царградскі напеў", а ў пазнейшых копіях пануюць ужо мясцовыя мелодыі, якія складваліся пад уплывам каталіцкіх спеўнікаў.

**Панегірыкі і палемічныя выданні.** Прыблізна з 1540-х гг. у Княстве з'яўляецца новы тып кніг – так званыя Панегірыкі (ад грэч. panigiris – узвялічваць). Звычайна гэта былі казанні, складзеныя пэўным святаром з нагоды важнай падзеі ў сям'і якога-небудзь шляхціца. Мэта такіх панегірыкаў – узвялічыць прадстаўніка роду або ўвесь род. Такія кніжачкі змяшчалі герб шляхціца і адзначаліся шматслоўнымі загалоўкамі. Кшталту панегірыка Мікалая Лаўрыновіча "Хіраманція, альбо Казанне на пахаванне шляхетна народжанага яго міласці пана Мацея Вадарадскага, ковенскага чашніка, што прамаўлялася ў Вільні ў касцёле Найсвяцейшай Дзевы Марыі на Пясках 2 чэрвеня 1643 г.". Асаблівасць Панегірыкаў – двухмоўе: асноўны тэкст падаваўся на лацінскай мове, а напрыканцы змяшчаўся пераклад на польскую або старабеларускую мовы (у XVII ст.

гэта было ўжо досыць рэдка). Прыклад панегірычнага выдання – “Дзесяцігадовая аповесць пра ваенныя справы пана Крыштофа Радзівіла” Андрэя Рымшы.

З другой паловы XVI ст. пачынаюць выходзіць асобныя выданні палемічнага характару. Толькі ў XVI – першай палове XVII стст. выйшла 200 такіх кніг. Адным з самых папулярных аўтараў быў **Пётр Скарга** (“Сеймавыя казанні”). У згаданай кнізе пададзены адзін з лепшых узораў публіцыстыкі перыяду Контррэфармацыі. П.Скарга не баіцца стракатых выразаў, не аглядаецца на пасады і аўтарытэты. Яго стыль – гэта тузін “арыгінальных, трапных моўных выразаў, якія гараць у сэрцах чытачоў”. Менавіта так у сярэдзіне XIX ст. “Сеймавыя казанні” характарызавалі польскія навукоўцы [88, с. 7]. Падобны стыль выкладу і ў яго бадай што найбольш удалага апанента з боку праваслаўных **Мялета Сматрыцкага** (“Фрынас”, “Казанні на смерць Лявона Карповіча” і інш.).

**Буквары.** Вялікае значэнне для захавання пісьменнасці, пашырэння культуры ў другой палове XVI ст. мелі **буквары** (азбукі). Адным з першых такіх выданняў была “Азбука”, надрукаваная Іванам Фёдаравым у Львове (1574 г.). Гэта кніга невялікага фармату – восьмая частка ліста – налічвае 40 лістоў (або 79 сучасных старонак). **І. Фёдараў** на пачатку кнігі размясціў алфавіт старaславянскай мовы – ад “аза” да “іжыцы”, а потым – у адваротным парадку ад “іжыцы” да “аза”. Выдавец паклапаціўся таксама пра тое, каб у “Азбуцы” галосныя і зычныя ўтваралі склады, у адным з раздзелаў ёсць граматычныя практыкаванні – падаюцца прыклады часоў дзеяслова, у асобных словах адрозніваецца націск: мука – мука і г.д. Даюцца звесткі аб назоўніках, прыметніках. Ёсць у кнізе і матэрыял для чытання – малітвы. Асаблівасць гэтай першай рэдакцыі “Азбукі” І. Фёдарава ў тым, што пераход ад граматыкі да тэкстаў, прызначаных для



**Мал. 11.** Старонка “Азбукі” І. Фёдарава

чытання, адбываецца пры дапамозе акраверша. Яго пачатковыя літары, якія чытаюцца зверху ўніз, утвараюць славянскі алфавіт.

Другая рэдакцыя “Азбукі” (112 старонак без нумарацыі) была надрукавана ў Астрогу 18 чэрвеня 1578 г. У адрозненне ад львоўскага выдання, астрожскі варыянт змяшчае, апроч славянскага алфавіта, яшчэ і грэчаскі (літары знаходзяцца ў табліцы, а назвы іх пададзены па-славянску). Ёсць у кнізе паралельныя тэксты на грэчаскай і царкоўнаславянскай мовах, узятыя з Бібліі. Яны не толькі мусілі навучаць дзвюм мовам, але і выхоўваць сапраўднага хрысціяніна. Апошняя частка Астрожскай “Азбукі” адведзена Іванам Фёдаравым пад рускую рэдакцыю артыкула “славенскага” манаха Храбра “О писменах”.

Як вынікае са зместу артыкула, маскоўскі друкар заклікаў жыхароў Вялікага Княства Літоўскага вывучаць стараславянскую мову, бо яна першай адкрыла святло слова Божага для продкаў. Акрамя таго, як і Ф. Скарына, І. Фёдараў не аддзяляў богаслужбовую і адукацыйную функцыі Святога Пісання, разглядаў біблейныя тэксты як крыніцу свецкай вучонасці.



**Мал. 12.** Герб Львова і знак І. Фёдарава

Наступны крок у падрыхтоўцы “кніг вучыцельных” звязаны з дзейнасцю **Лаўрэнція Зізанія Тустаноўскага.** У 1596 г. у Віленскай брацкай друкарні ён выдаў “Азбуку” і “Граматыку славенску”. Зізаній лічыў, што ўжо на першых этапах навучання пісьменнасці важна развіваць інтэлект і духоўныя якасці чалавека. Менавіта таму на тытуле ён змясціў наступную расшыфроўку назвы “Азбука”: “Наука ку читаню, разуменю писма словенскаго, ту тыж о святой троици и о вчловеченни господни”.

На першых старонках аўтар падаў алфавіт, далей – двухлітарныя і трохлітарныя склады, малітвы для чытання. Здавалася, той жа самы прынцып, што і ў выданнях І. Фёдарава. Разам з тым ёсць і істотныя адрозненні. Па-першае, Зізаній падаў алфавіт стараславянскай мовы, уключыўшы туды 45 літар (дадаў частку грэчаскага алфавіта). Па-другое, літары размясціў у тры рады, а затым у той жа паслядоўнасці – па 4 у слупок. Калі чытаць як звычайны тэкст, застаецца ўражанне, што алфавіт парушаны. Выдавец лічыў, што гэта дапаможа лепей

запомніць літары. Па-трэцяе, у “Азбуцы” размешчаны тэксты, якія ніяк не падыходзілі для дзіцячага чытання: творы **Стафана Зізанія** пад агульнай назваю “Выклад аб праваслаўнай веры”.

Некаторым малітвам у “Азбуцы” спадарожнічалі тлумачэнні на старабеларускай мове. Многія тэксты чытанкі, узятыя са Святога Пісання, былі перакладзены на “простый рускій” (беларускую мову). Нягледзячы на гэта яны ўтрымлівалі незразумелыя для непадрыхтаванага чытача выразы. Іх тлумачэнне Зізаній падаў у слоўніку, які назваў “Лексис сиречь речения, въкратце събранъны. И из словенскаго языка на простый рускій диялект истолкована” [8, с. 46]. У “Лексісе” сустракаюцца расшыфроўка кніжных царкоўнаславянскіх слоў, пераклады з грэчаскай мовы і лацінскай, а таксама тлумачэнне пэўных паняццяў. Выклад Зізанія засноўваецца на трох прынцыпах − прастата, лагічнасць, паслядоўнасць пастаноўкі вучэбна-метадычных задач.

Наступнікам традыцый Ф.Скарыны і Л.Зізанія можна лічыць згаданага вышэй **Мялета Сматрыцкага.** У друкарні Святадухаўскага брацтва ў Еўі (1618 г.) ён выдае “Букварь языка славенска, писаний чтения учитися хотящим в полезное руковожение”. Кніга налічвае 26 лістоў (або 52 старонкі) і складаецца з наступных раздзелаў: алфавіт, матэрыялы для навучання словаўтварэнню, пачатковыя звесткі пра граматыку, малітвы і творы Стафана Зізанія на старабеларускай мове. Алфавіт складаецца з 46 літар, якія размешчаны ад пачатку да канца і ў адваротным парадку. Пададзены прыклады складоў: ба, ва, аб, ав і г.д. Пад загалоўкам “Парадзігмата” М.Сматрыцкі прапануе звесткі з граматыкі. Потым у разгорнутым выглядзе “Парадзігмата” прадстаўлена ў кнізе “Грамматики славенския правилное Синтагма”. Гэта надзвычай вялікае (252 старонкі) і каштоўнае выданне, падрыхтаванае ў брацкай друкарні ў Еўі (1619 г.), з’яўлялася “лепшым кампендыумам лінгвістычных ведаў свайго часу. Яе некалькі разоў перавыдавалі ў Маскве і на Украіне, але ніколі больш − у межах ВКЛ” [16, с. 164].

**Сымон Будны.** У гісторыі рэдагавання Сымон Быдны вызначыўся як каментатар Новага Запавету, а таксама як выдатны тэкстолаг, які адным з першых на Беларусі правёў філалагічны аналіз біблейных кніг і выявіў у іх шэраг істотных памылак. Пераважная большасць такіх памылак з’явілася, на думку дзеяча беларускай Рэфармацыі, або ў працэсе некарэктнага перакладу Святога Пісання з грэчаскай ці лаціны на жывыя еўрапейскія мовы, або пры “поновлении” біблейных тэкстаў неадукаванымі ці, наадварот, надта “мудрымі” кнігаперапісчыкамі. Фармулюючы прынцыпы навуковага перакладу, С.Будны даводзіў:

1. Спасцігаючы сэнс Святога Пісання, важна “разглядаць і ўважліва аналізаваць кожнае выказванне не толькі паасобку, але і ў кантэксце ўсяго твора. “Кто хочеть Писмо Святое не омыльно вырозумети, потреба не за одно слово взятися, але все што напреде и назаде писано с пилни-

стію обачити, распытати и к чому ся весь розум оного места стягаеть разгледети” [59, с. 172].

2. Аналізуючы любы тэкст, найперш трэба зразумець галоўную думку аўтара, “<...> запомніць яе, каб потым не перайначыць нейкае прыватнае месца альбо значэнне асобнага выразу ці слова”.

3. Трэба адрозніваць у Святым Пісанні словы і выразы, якія варта разумець літаральна, ад слоў і выразаў, якія маюць сімвалічнае значэнне, з’яўляюцца метафарамі ці алегорыямі.

На думку С.Буднага, дзеля таго, каб “праўдзіва” (навукова) аналізаваць змест біблейнага тэксту, варта памятаць пра існаванне пэўнага архетыпу (першатэксту), які свядома ці несвядома сказілі пазнейшыя “рэдактары”. Наблізіцца да першатэксту магчыма толькі шляхам супастаўлення ўсіх вядомых рэдакцый і перакладаў Бібліі.

Так, маючы пад рукой розныя спісы Новага Запавету на грэчаскай мове, С.Будны прыйшоў да высновы аб пазнейшым уключэнні ў тэкст Евангелля ад Іаана верша пра Св. Троіцу. Радка “Тры сведчаць у небе: Айцец, Слова і Святы Дух, і тыя Тры – ёсць адно” ў “праўдзівых” біблейных кнігах не было” [59, с. 175]. Аналізуючы лацінамоўныя рэдакцыі Новага Запавету, С.Будны знайшоў у іх безліч варыянтаў напісання адных і тых жа слоў, а таксама выявіў памылкі, якія сістэматызаваў і раздзяліў на 5 відаў:

1. “Напісанне двух розных слоў разам альбо наадварот – утварэнне з аднаго слова двух”.

2. “Няўважлівасць пісца і, як вынік, пропуск асобных слоў і поўных радкоў” (напрыклад, у некаторых грэчаскіх спісах Евангелля паводле Марка ў 2-м раздзеле адсутнічаў 26-ты верш).

3. “Недакладнасці з-за ўзнаўлення перапісчыкамі месцаў са Святога Пісання па памяці” [59, с. 176].

4. Механічнае ўнясенне перапісчыкамі ў біблейныя тэксты заўваг і каментароў, зробленых на палях арыгіналаў тэолагамі. “З-за гэтага свайго глупства малаадукаваныя пісары ўнеслі ў Святое Пісанне столькі ўсялякай несусвеціцы, што і не падлічыць” [59, с. 177]. Так, у адным з варыянтаў 12-га верша 1-га раздзела Паслання Паўла да Ціта ёсць словы: “Крыцяне заўсёды лгуць, зверы лютыя, чэравы ляныя”. Аднак належаць яны не Паўлу, а аднаму з крыцянаў. Гэта выслоўе пазней паўтараў паэт Калімах. “Нехта з адукаваных людзей, чытаючы Пасланне Паўла, напісаў іх на палях, выказаўшы такім чынам свае пачуцці ад прачытанага, а “неадукаваны манах, які перапісваў гэтыя кнігі, не разумеючы, да чаго гэтыя словы, напісаныя на палях, палічыў іх за агрэх папярэдніка і ўключыў у асноўны тэкст” [59, с. 178].

5. “Выпраўленне пісарамі, якія лічылі сябе надта разумнымі, некаторых месцаў Бібліі, дзе, на іх думку, існавалі заганы. На справе ж яны не паляпшалі тэкст Святога Пісання, а, наадварот, нeверагодна псавалі яго”

[59, с. 178]. Спасылаючыся на Эразма Ратэрдамскага, С.Будны прыводзіць прыклад з лацінамоўных Дзеянняў Апосталаў (24:14). "У арыгінале, перакладзеным з грэчаскай мовы, было правільна напісана: "...sic deservio patrio Deo" ("Гэтак служу бацькоўскаму Богу"). Аднак нейкі "мудрэц" па-свойму "паправіў" гэтыя словы і напісаў: "...patri et Deo meo" (Айцу і Богу майму") [59, с. 179].

Хапала, паводле С. Буднага, такіх "мудрацоў" і ў Вялікім Княстве Літоўскім. Адзін з іх – архімандрыт Супрасльскага манастыра Сергій Кімбар, які своеасабліва ажыццяўляў "праўку" кніг. Многія тагачасныя богаслужэбныя манускрыпты ўтрымлівалі яўрэйскія, сірыйскія, грэчаскія і лацінскія словы (напрыклад, "Хосанна", "Корбан" і г.д.) С.Кімбар, які быў не надта адукаваным чалавекам, "пачаў даводзіць сваім манахам, нібыта ўсе незразумелыя ў Евангеллях словы маюць славянскае паходжанне і толькі сапсаваныя кімсьці з перапісчыкаў. Нядоўга разважаючы, Кімбар павыскрабаў з кніг не зразумелыя яму словы і выразы і ўпісаў на іх месца выдуманыя ім славянскія тэрміны, што паводле гучання нечым нагадвалі тыя, якія былі ў тэкстах. <...> У выніку выказванне "Блажен есь Симоне, вар Иона" супрасльскі "мудрэц" выправіў наступным чынам: "Блажен еси Симоне, гавары о них".

Аднак калі памылкі супрасльскіх манахаў узнікалі з прычыны іх неадукаванасці (магчыма, няўважлівасці), то хібы, дапушчаныя такімі перапісчыкамі, як Маркіён, маюць зусім іншы характар – свядомага скажэння біблейнага першатэксту. "Хто хоча ў тым пераканацца, няхай прачытае старадаўняга лацінскага пісьменніка Тэртуліяна і грэчаскага тэолага Епіфанія. Яны ў сваіх творах досыць падрабязна пералічылі, дзе і што ў Бібліі сапсаваў менавіта Маркіён" [59, с. 180].

С. Будны перакананы ў тым, што Маркіён дадаў ад сябе ў творы апосталаў шэраг вершаў. Менавіта ён "сапсаваў 47-мы верш 15-га раздзела Першага Паслання Паўла да Карынфянаў, напісаўшы: "Першы чалавек з зямлі, зямны; другі чалавек – Госпад з неба" замест сапраўдных слоў апостала: "Першы чалавек з зямлі, зямны; другі з неба, нябесны". Маркіён выкідаў асобныя выразы, перайначваў апостальскія пасланні, прыстасоўваючы іх да ўласнай канцэпцыі Бога і Чалавека.

Улічваючы тое, што згаданы кнігаперапісчык і філосаф працаваў з грэчаскай рэдакцыяй Бібліі, С.Будны зрабіў выснову аб тым, што Святое Пісьмо, перакладзенае на лаціну, найменш сапсаванае. "Кажу гэта не таму, каб адкінуць грэчаскія кнігі, а каб сцвердзіць праўду. Выдатна ўсведамляю, што ад грэчаскіх кніг – вялікая карысць, бо не ўсё ў іх сапсаванае і, галоўнае, апосталы пісалі па-грэчаску" [59, с. 183]. З вялікай павагай С.Будны ставіўся да перакладу Бібліі, здзейсненага Кірылам і Мяфодзіем. Славянскую Біблію ён лічыў узорам, вартым наследавання, аднак перавагу ўсё ж надаваў лацінскай рэдакцыі Св. Пісання.

*“Славянскі пераклад сапраўды добры і праўдзівы, аднак вышэй за яго і больш праўдзівы лацінскі тэкст. Славянскі пераклад быў зроблены, як вядома, даволі позна, тады, калі ў біблейныя кнігі на грэчаскай мове ўжо трапіла мноства памылак. Лацінскі ж пераклад быў ажыццёўлены вельмі рана, хоць і не літаральна пасля апосталаў, але досыць хутка пасля іх”* [59, с. 184].

Так, у славянскіх перакладах 6-га верша 8-га раздзела Першага Пасланння Паўла напісана: “І адзін Дух Святы, у якім усё, і мы ў ім”. Трэба ж было: “Нам адзін Бог Айцец, з якога ўсё...”. Гэтую памылку ўслед за Кірылам і Мяфодзіем ўзнавіў і Ф. Скарына, якога С. Будны не лічыў арыгінальным перакладчыкам Бібліі, бо ён нібыта “механічна наследаваў памылкі сваіх папярэднікаў”. Апынуліся пад агнём крытыкі С. Буднага і маскоўскія друкары І. Фёдараў і П. Мсціславец. Нягледзячы на тое, што яны адштурхоўваліся ад выпраўленых[20] тэкстаў Святога Пісання, тым не менш “не змаглі ўдасканаліць вершы, “сапсаваныя” Маркіёнам і іншымі ерэтыкамі”. Захоўвалі маскоўскія кнігі Бібліі і памылкі, што ўзніклі з-за няўважлівасці грэчаскіх скрыптараў.

Так, напрыклад, “у Евангеллі паводле Матфея 30-ты верш 8-га раздзела ў грэчаскіх і славянскіх тэкстах такі: “Далёка ад іх пасвіўся вялікі гурт свіней”. У лацінскіх, наадварот: “Не далёка ад іх...”. С. Будны прапаноўваў аддаць перавагу выразу “не далёка”, бо ў даўнія часы, калі ажыццяўляўся пераклад на лаціну, у грэчаскім арыгінале пісалася “ук макран” (“не далёка”), а пазней часціцу “ук” (“не”) хтосьці з перапісчыкаў прапусціў [59, с. 187].

Спробы папярэднікаў выправіць ці палепшыць тэксты Новага Запавету С. Будны лічыў няўдалымі, бо “ўсе яны абапіраліся на памылковыя прынцыпы: адны шліфавалі лацінскія кнігі паводле грэчаскіх спісаў, а другія, наадварот, – грэчаскія паводле лацінскіх”. Беларус “прапанаваў уласнае рашэнне найскладанага тэксталагічнага рэбуса <...>. Ён заўважыў, што поспеху можна дасягнуць, калі ісці адначасна двума шляхамі: параўноўваць грэчаскія і лацінскія спісы і пры гэтым выкарыстоўваць творы старажытных тэолагаў, гісторыкаў” [59, с. 186]. Мэта кожнага рэдактара Бібліі, на думку С. Буднага, – наблізіць Святое Пісанне да апостальскага першатэксту.

**Вывады па 5 параграфе:**

1. Рыхтуючы кірылічныя кнігі да друку, рэдактары, выдаўцы імкнуліся максімальна наблізіць старaславянскую лексіку да жывой народнай мовы. З гэтай мэтай рабілася замена старaславянізмаў на старабеларускія словы і выразы. Напрыканцы асобных выданняў

[20] Заўвага – маскоўскі князь Іван IV па ўзяцці Казані і пабудове там новых цэркваў загадаў адшукаць для іх новыя, “не сапсаваныя” рукапісы. А паколькі гэтакіх не знайшлося, то ён, параіўшыся з мітрапалітам, загадаў распачаць у Маскве друкаванне новых, выпраўленых славянскіх кніг.

размяшчаўся слоўнік (“Лексіс”), у якім даваліся пераклады царкоўнаславянскіх слоў на старабеларускую, а таксама змяшчаліся тлумачэнні пэўных тэрмінаў.

2. У перыяд позняга Адраджэння назіраецца паступовая перавага каталіцкіх друкаваных кніг над праваслаўнымі і пратэстанцкімі. У асобных праваслаўных выданнях заходнееўрапейская традыцыя выцясняе візантыйскую. З'яўляюцца новыя тыпы выданняў – панегірыкі.
3. З другой паловы XVI ст. пачынаюць друкавацца асобныя выданні палемічнага характару, якія рыхтуюцца ў інтэлектуальных цэнтрах праваслаўя (Астрог, Віленскае брацтва), каталіцызму (Віленская акадэмія) і пратэстантызму (Нясвіж, Лоск). Функцыі рэдактараў у такіх цэнтрах выконваюць духоўныя лідары, найбольш аўтарытэтныя ў пэўным асяроддзі асобы (напрыклад, у Віленскім брацтве – Л. Карповіч, у акадэміі – П. Скарга і прызначаныя прэфекты).

**Пытанні для самападрыхтоўкі:**

1. У якім годзе, дзе і кім у XVI ст. было надрукавана Евангелле вучыцельнае? Што характэрна для гэтай кнігі?
2. Якімі асноўнымі прынцыпамі карыстаўся Васіль Цяпінскі ў працэсе падрыхтоўкі Евангелля да друку?
3. Чым характарызуюцца панегірычныя выданні другой паловы XVI ст.?
4. Чым адрозніваюцца Львоўская і Астрожская рэдакцыі “Азбукі” Івана Фёдарава?
5. Хто з'яўляецца вынаходнікам “Буквара”?

**Пытанні для дыскусіі:**

1. У другой палове XVI ст. друкаванае слова становіцца сродкам ідэалагічнай барацьбы. Наколькі гэта адпавядае рэаліям XXI ст.?
2. Чым выклікана такая ўвага выдаўцоў да “Азбук” і “Буквароў” напрыканцы XVI ст.?
3. Чаму, на вашу думку, Іван Фёдараў адмовіўся ад прапановы Рыгора Хадкевіча выдаць Евангелле вучыцельнае на дзяржаўнай мове Вялікага Княства Літоўскага (старабеларускай)?

**Рэкамендаваныя тэмы для рэфератыўных паведамленняў:**

1. Прадмова да Евангелля Васіля Цяпінскага: тэма патрыятызму.
2. “Азбукі” Івана Фёдрава і Л. Зізанія: агульнае і адрознае.

**Літаратура:**

1. Асветнікі зямлі Беларускай: X – пачатак XX ст.: энцыкл. даведнік / рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш.; маст. У.М. Жук. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2006. – 496 с.
2. Батвіннік, М.Б. Азбука на ўсе часы / М.Б. Батвіннік. – Мінск: Бел. навука, 2003. – 288 с.

3. Ботвинник, М.Б. Откуда есть пошел букварь / М.Б. Ботвинник. – Мінск: Высш. школа, 1983. – 198 с.
4. Вялікае княства Літоўскае : энцыклапедыя: у 2 т. – Т. 1–2 / рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; маст. З.Э. Герасімовіч. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2007. – 688 с.
5. Гісторыя беларускай кнігі: у 2 т. – Т. 1: Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага / М.В. Нікалаеў; навук. рэд.: В.В. Антонаў, А.І. Мальдзіс. – Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. – 424 с.
6. Гісторыя беларускай літаратуры XI – XIX стагоддзяў: у 2 т. – Т. 1: Даўняя літаратура: XI – першая палова XVIII стагоддзя / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; навук. рэд. В.А. Чамярыцкі. – 3-е выд., выпр. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 910 с.
7. История польской литературы: в 2 т. – Т. 1 / редкол.: В.В. Витт [и др.]. – М.: Наука,1969. – 616 с.
8. Камінскі, А.С. Рэспубліка супраць Аўтакратыі: Рэч Паспалітая і Расія ў 1686 – 1697 гадах / Анджэй Суліма Камінскі; пер. з англ. А. Мартынаў. – Мінск: Логвінаў, 2009. – 350 с.
9. Катэхізіс: Помнік беларускай Рэфармацыі XVI ст. / Адаптаваны тэкст, пер. з старажыт. бел. мовы Н.Кабелка; рэд. кал.: Н. Кабелка (навуковы рэд.) [і інш.]. – 2-е выд. – Мінск: Юніпак, 2005. – 312 с.
10. Левшун, Л.В. Леонтий Карпович. Жизнь и творчество / Л.В. Левшун. – Мінск: Экономпресс, 2001. – 288 с.
11. Лукшайтэ, І. Кнігавыданьне ў літоўскай мове XVI – першай паловы XVII стст. у Вялікім Княстве Літоўскім і Малой Літве / І.Лукшайтэ // Літва і Беларусь: тысяча год разам. – Мінск: ARCHE 9 (84), 2009. – С.109–123.

## §6. КНІГІ "БІТЫЯ" Ў ПЕРЫЯД ПОЗНЯГА АДРАДЖЭННЯ

**6.1.** Віленская акадэмічная друкарня. Пётр Скарга.

**6.2.** Нясвіжская друкарня.

**6.3.** Друкарня віленскага Свята-Духава брацтва. М. Сматрыцкі.

**6.4.** Заблудаўская друкарня. Выдавецтва братоў Мамонічаў.



**Мал. 13.** Пётр Скарга (паводле малюнка XIX ст.)

**Віленская акадэмічная друкарня. Пётр Скарга.** У 1569 г. Жыгімонт II Аўгуст дае прывілей Брэсцкай друкарні на выданне новых кніг, праўда, з адной істотнай умовай: яны не павінны быць скіра-

ваны супраць каталіцкай рэлігіі. Пасля смерці пратэстанта Мікалая Радзівіла Чорнага брэсцкі друкарскі варштат патрапіў у рукі яго сына, фанатычнага католіка Мікалая Радзівіла Сіроткі, які перавёз усё абсталяванне з Брэста ў Вільню (1576) і запрасіў на працу Даніэля Ленчыцкага. Апошні, акрамя спраў друкарскіх, да 1586 г. выконваў функцыі рэдактара і карэктара.

Адна з першых кніг гэтай друкарні – палемічны твор Пятра Скаргі "Аб адзінстве касцёла Божага пад адзіным пастарам і аб Грэчаскім ад таго адзінства адступленні..."[21] (1577 г.). У прадмове, звернутай да апекуна праваслаўных кіеўскага ваяводы Канстанціна Астрожскага (у кнізе памылкова напісана – Астроўскага), ксёндз адзначае:

*"Цяжка глядзець на крыўднае раз'яднанне народу хрысціянскага. <...> Кожная секта не толькі сваё зацята бароніць, але і адна з адной апантана б'ецца. У тым толькі ўсе яны згодныя, што Святы Касцёл Рымскі звесці жадаюць, чым самі сябе выдаюць. Бо ніводная з іх перад Папам быць не можа, як снег не можа быць перад сонцам. <...> Касцёл Святы - маці ўсяго хрысціянства, ад якой дзеці непаслухмяныя і свавольныя адступіліся. Да таго часу будуць яны спрачацца, пакуль да маці не вернуцца"* [88, с. 267].




**Мал. 14.** Вокладка кнігі "Жыцііі святых" (перавыданне XIX ст.)

Далей Скарга звяртаецца да аналізу прадукцыі Віленскай брацкай друкарні ("кнігі рускія, супраць касцёла скіраваныя"). *"Пашкадаваўшы народ рускі,* – піша каталіцкі святар, – *дужа грэкамі падмануты, жадаючы, каб гэтыя зласлівыя рэчы* (кнігі. – В.Е.) *аб'яднанню касцёла не перашкаджалі, у кнізе ўсё ім* (праваслаўным русінам. – В.Е.) *тлумачу даходліва"* [88, с. 268]. Звернем увагу на тое, што ў сваёй антыправаслаўнай рыторыцы Пётр Скарга

[21] Заўвага – на тытуле кнігі – герб Радзівіла, далей – 4 вершы, прысвечаныя яму. Потым прадмова, адрасаваная К. Астрожскаму. Выданне – бібліяграфічная рэдкасць, бо амаль цалкам знішчана ворагамі П. Скаргі. Ксёндз згадваў, як, праязджаючы праз Літву ў 1589 г., здолеў знайсці толькі 1 кнігу. Другое – кракаўскае – выданне гэтага твора датуецца 1590-м г.

звяртаецца да вобразу маці (Св. Касцёл), якой выракліся яе дзеці (хрысціяне). Потым гэтакі ж вобраз з'явіцца ў “Фрынасе” Мялета Сматрыцкага, толькі замест касцёла да дзяцей сваіх будзе звяртацца праваслаўная царква. Гэта заўвага тым больш важная, што і Сматрыцкі, і Скарга будуць удзельнічаць у адной і той жа палеміцы (Скарга адкажа на “Фрынас” “Перасцярогай на трэны і лямант Тэафіла Арталога”).

У 1579 г. дзякуючы грошам Радзівіла з’явілася яшчэ адна кніга П. Скаргі “Żywoty świętych” / “Жыціі святых”. Гэта было сапраўды шыкоўнае выданне, якое шмат разоў перавыдавалася (1585, 1598, 1601 і інш.). Без перабольшвання можна казаць пра тое, што “Жыцці святых” – першы кніжны бестселер ВКЛ. Пры гэтым Скарга, працуючы над выданнем, выступіў у ролі кампілятара і рэдактара многіх кніг тэалагічнага характару. У прадмове ён пісаў: “<...> я выбраў жыціі тых святых, якія будуць мець карысць для выхавання грамадства. Пры гэтым не падаю іх так шырока, як іншыя, а скарачаю. Дзякуючы гэтаму кніга будзе меншай і таннейшай, так што нават бедныя здольны яе купіць. <...> скарачаючы, аднак, я імкнуўся захаваць сэнс арыгінала” [93, с. 5].

П. Скарга таксама называе крыніцы, якімі карыстаўся. Так, звесткі пра польскіх святых ён “браў у Длугаша”, а таксама ў сярэднявечных дакументах. Звяртаючыся да чытача, ксёндз заклікае не проста праглядаць тэкст, але і вучыцца красамоўству, бо ў кнізе ўсе стылі – ад вясковай пастаралі да “вышэйшага палёту думкі”.

**<u>У 1580 г.</u>** кароль Стэфан Баторы падпісвае загад друкарням Рэчы Паспалітай. Гэта адзін з першых афіцыйных дакументаў, які на дзяржаўным узроўні ўстанаўлівае на тэрыторыі краіны **<u>ЖОРСТКУЮ ЦЭНЗУРУ</u>**:

**Стэфан, з Божай ласкі кароль польскі і etc.**

*Усім наогул і кожнаму асобна, а менавіта магістратам гарадоў нашых Кракава, Познаня, Вільні і інш., у якіх друкарні знаходзяцца. <...> Да ведама нашага дайшло тое, што з друку выходзяць кнігі, у якіх не толькі даўнія падзеі, але і тое, што зараз адбываецца, недакладна, а, што яшчэ горш, няпраўдзіва апісана. Зважаючы на тое, што такія кнігі прыніжаюць годнасць нашага карлеўства, вырашылі мы за рэч патрэбную супрацьдзейнічаць таму і ўтаймаваць свавольствы аўтараў падобных кніг. У сувязі з гэтым пастанаўляем, калі б хто-небудзь без нашага ведама і без нашага дазволу наважыўся, ці то ў межах края, ці то за мяжой, загадаць друкаваць якія б там ні было кнігі, будуць яны датычыцца гісторыі гэтага народу ці сучаснасці, або калі б хто-небудзь закранаў прадметы, якія Рэчы Паспалітай датычацца, няхай нават у тым нічога паганага няма, такі павінен падпадаць пад пакаранне па закону магдэбургскаму і да судоў нашых мусіць быць прыцягнуты* [87, с. 97].

Наступствы каралеўскага загаду для кніжнай культуры Вялікага Княства Літоўскага былі надзвычай негатыўныя. Тэадор Нарбут падае копію з аўтографа канца XVI ст., аўтар якога распавядае пра спальванне некаталіцкіх кніг у Вільні (1581 г.). Прапануем некаторыя вытрымкі:

*<...> былі мы сведкамі спектакля, якога Літва не бачыла ад стварэння свету. З самага рання на рынак пачалі звозіць смаловыя дровы і аблітыя смалой снапы саломы; атачылі рынак узброеныя вартавыя і нікога не пускалі. Крыху пазней прывалакліся два вазы, запрэжаныя парай коней, набітыя кнігамі друкаванымі, манускрыптамі і Бог ведае толькі якімі яшчэ дакументамі. Замкавыя стражнікі старанна ахоўвалі тыя вазы. Было публічна абвешчана, што тыя кнігі варожыя, клятыя, асуджаныя святымі айцамі і тэолагамі рымскімі каталіцкімі на знішчэнне праз агонь, на што ёсць дазвол і святой памяці Яго Мосці Ксяндза Біскупа Валяр'яна. Праўда, пісьмовага дазволу ніхто не бачыў, бо не было яго ніколі. <...> Таксама выкапалі пасярод рынка яму, невядома якой глыбіні. Абступілі яе жаўнеры і пахолкі з ратушы, нікога блізка не падпускаючы. Пачаўшы з дна, у тую яму клалі стосы кніг, перакладаючы іх дровамі і саломай. <...>. Народ маўчаў, бо не ведаў, што рабіць, здзіўлены незвычайнасцю той падзеі. Не доўга ксёндз прамаўляў казанне, бо разумеў, што яшчэ якая хвіліна – і на яго град камянёў пасыплецца з боку прысутных разнаверцаў. <...>. Узяўшы паходню, без асаблівых ваганняў падпаліў ён той стос: агонь адразу ўзляцеў уверх, але потым суцішыўся, пайшоў густы чорны дым, пачаў адчувацца нязносны смурод. Людзі потым казалі: "Д'ябал з Лютэрам і Кальвінам паляцелі сабе разам з дымам"* [82, с. 251].

**Нясвіжская друкарня.** Яшчэ адна друкарня, якая перайшла ад Радзівіла Чорнага да Радзівіла Сіроткі, знаходзілася ў Нясвіжы. Распачынала яна сваю працу двойчы. Першы раз – у 1562 г. Дзякуючы намаганням выпускніка Вітэнбергскага ўніверсітэта Мацея Кавячынскага, у гэтым годзе выйшла кніга пад назваю "Катихисис то ест наука стародавная христианъская от светого писма для простых людей языка русского, в пытаниах и отказех събрана". Адзін з аўтараў згаданага беларускамоўнага выдання – **Сымон Будны.** Падтрымку нясвіжскай друкарні аказаў Астафій Валовіч, па загаду якога з Вільні былі перавезены шрыфты Ф. Скарыны [16, с. 70].

Рукапіс рыхтаваўся да друку больш за два гады. Тэкст праходзіў апрабацыю ў віленскай пратэстанцкай суполцы, дзе, пачынаючы з 1558 г., Будны выконваў абавязкі катэхізіста. За ўзор браўся так званы "Вялікі Катэхізіс" Марціна Лютэра (1529 г.). Па звычаях таго часу пачыналася нясвіжскае выданне з прысвячэння Радзівілам. Перад тэкстам Будны

змясціў прадмову, у якой, апроч іншага, гаворыцца: “**СІЮ КНИЖКУ ОТ БОЖЕСТВЕНЪНЫХ ПИСАННІЙ СЪБРАХ И НАПИСАХ, АБЫ ВСИ СЛОВА БОЖІЯ И ИСТИННЫ РАЗУМЕННЯ ЖАЖДУЩИИ МЕЛИ, ЧОГО БЫ СЯ И САМИ УЧИЛИ, И ДЕТОК СВОИХ НАУЧАЛИ**”.




**Мал. 15.** Тытул “Катэхізіса”

Уласна тэкст пабудаваны ў дыялагічнай форме пытанняў і адказаў, што, па словах І. Саверчанкі, “дазваляла паслядоўна, а галоўнае, даступна, без асаблівай абцяжаранасці лішнімі агаворкамі, данесці да чытача аўтарскую думку, часам у выглядзе гатовага рэцэпта, простай дыдактычнай сентэнцыі або звычайнай маральнай рэкамендацыі” [63].

Наступным выданнем Нясвіжскай друкарні была кірылічная кніга С.Буднага “Аб апраўданні грэшнага чалавека перад Богам”, якая не захавалася. Найбольш актыўна друкарскі станок працаваў у перыяд з 1563 па 1564 гг. – падрыхтавана 8 кніг, у тым ліку і польскамоўны “Катэхізіс” С.Буднага. Потым – 4 гады перапынку. Нясвіжскі варштат аднавіў дзейнасць толькі ў 1568 г. У 1572 г. пачалося друкаванне новага перакладу Старога Запавету. У прадмове Сымон Будны пісаў пра мову выдання: “Знойдзеш тут словы велікапольскія, знойдзеш кракаўскія, мазавецкія, падляшскія, сандамірскія, а за малым і рускія”. “Большасць кніг нясвіжскай друкарні аформлена проста, без ілюстрацый. Ужываліся наборны арнамент, разнастайныя шрыфты, ініцыялы з дэкаратыўна-раслінным фонам. У мастацкім аздабленні кірылаўскіх кніг выразна прасочваецца сувязь з друкарскімі традыцыямі Ф. Скарыны” [16, с. 370].

Далейшай працы С. Буднага перашкодзіў Мікалай Радзівіл Сіротка, які выгнаў пратэстантаў з Нясвіжа, а кнігі, якія выходзілі з друкарні, выкупіў[22] і спаліў. Сіротка дазволіў забраць шрыфты і абсталяванне

[22] Заўвага – “Мікалай Радзівіл Сіротка, які ў 1579 г. зрабіўся маршалкам Вялікага Княства Літоўскага, далей – кашталянам, а пазней ваяводам троцкім, нарэшце – ваяводам віленскім, скасаваў пратэстанцкія школы ў Нясвіжы, <...> выдаткаваў 5 000 тысяч дукатаў, вялізныя на тыя часы грошы, каб выкупіць кнігі пратэстанцкія на Літве, менавіта бацькаву Брэсцкую Біблію, і шмат іх <...> пасярод віленскага кірмашу гвалтам спаліць загадаў [94, с. 207].

магнату Яну Кішку, які запрасіў Сымона Буднага ў Лоск, дзе і быў надрукаваны Стары Запавет. У 1585 г. па загаду Сіроткі віленская друкарня была перададзена езуіцкай акадэміі. За 200 год свайго існавання акадэмічная друкарня выпусціла ў свет 3018 выданняў на розных мовах (польскай, лацінскай, літоўскай і інш.). Кантроль за яе дзейнасцю ажыццяўляўся надзвычай жорстка. Перадусім існавалі прэфекты, якія выконвалі ролю галоўных рэдактараў. Нягледзячы на каталіцкі дух акадэміі, рэпертуар яе выданняў быў розны, у тым ліку – свецкі. У 1596 г. з’явіўся нават першы ў Вялікім Княстве Літоўскім падручнік па гандлі прафесара акадэміі Марціна Сміглецкага (“O lichwie y trzech przednieyszych kontrakciech”). На пачатку XVII ст. друкаваліся зборнікі панегірыкаў, палемічная літаратура, выданні гістарычныга і тэалагічнага характару.

**Друкарня віленскага Свята-Духава брацтва. М. Сматрыцкі.** У 1589 г. друкарня віленскага Свята-Духава брацтва атрымала прывілей на выпуск “книг всякіх старого и нового закону так в науце школьной яко и церкви потребные”. Першай кнігай гэтай друкарні сталі “Малітвы ўсядзённыя” (1595 г.). Віленскае брацтва выступала супраць царкоўнай уніі, актыўна ўзаемадзейнічала з праваслаўнымі Масквы. Імкнучыся адстаяць права жыхароў Княства атрымоўваць адукацыю на “простай рускай” мове, братчыкі актыўна друкавалі кнігі для навучання – згаданая вышэй “Азбука” (1596) і “Грамматика словенска” Л. Зізанія.

Вялікі рэзананс і асаблівую раздражнёнасць сярод езуітаў выклікалі палемічныя выданні – “Катэхізіс” і “Казанне Св. Кірылы Іерусалімскага аб Антыхрысце” Ст.Зізанія (Антыхрыстам аўтар назваў Рымскага Папу). Апошняе выданне выходзіла таксама і ў Маскве (1644 г.), езуіты назвалі кнігу “баламутнай”, г.зн. вальнадумнай.

Яшчэ большы шал у езуітаў выклікалі творы Мялета Сматрыцкага: “Antigrafe abo odpowiedz na script uszczypliwy, ktoremu tytul Hereziae, Ignoranciae” (1608 г.), а таксама “Lament iedyney i Powszechnej Apostolickiej wschodniej Cerkwie” (1610 г.). Апошняя кніга распаліла ў езуітах сапраўдную нянавісць. Навукоўцы згадваюць выпадак, калі ў 1598 г. студэнты акадэміі на чале з ксяндзом Ільяшэвічам напалі на Свята-Духаў манастыр. Тады ўсё завершылася “патолчэніем” даху на друкарні. Аднак пасля выхаду кніг Сматрыцкага наступствы былі куды больш сур’ёзнымі. “7 мая 1610 г. у абозе пад Смаленскам, кароль Жыгімонт III забараніў чытаць і распаўсюджваць “różne pisma po rusku, w drukarni ruskiej wileńskiej wydrukowane, które ostatnie są pasquilluse i bunty przeciw zwierzchności duchownej i swieckiej”[23].

[23] Пераклад з пол. – “<...> розныя кнігі па-руску, у друкарні рускай віленскай надрукаваныя, якія змяшчаюць пасквілі і заклікаюць да бунту супраць улады духоўнай і свецкай”.

**Штраф за чытанне “рускіх” кніг – 5000 чырвоных злотых.**

Усе выданні Свята-Духава брацтва мелі надзвычай высокі паліграфічны ўзровень – у некаторых выкарыстоўваліся нават віленскія дошкі Ф. Скарыны. “Для аздобы кніг шырока ўжываліся арнаментальная гравюра і застаўкі, канцоўкі, рамкі з раслiннымі і геаметрычнымі матывамі, антрапаморфнымі сюжэтамі. <...> Літургічныя выданні мелі сюжэтныя ілюстрацыі з выявамі прарокаў, апосталаў, айцоў царквы”.

*Брацтва аб’ядноўвала праваслаўных інтэлектуалаў Княства, што дазваляла рабіць пераклады, кампіляцыі з многіх еўрапейскіх крыніц. Звернем увагу на тое, што “Фрынас” / “Lament” напісаны Сматрыцкім на выкшталцонай польскай мове (езуіты нездарма назвалі гэту мову “пекнай пальшчызнай”).* Тэафіл Арталог[24], а гэта псеўданім аўтара, адрасаваў свой твор прадстаўнікам тых 46 рускіх шляхецкіх сем’яў (Хадкевічы, Глябовічы, Кішкі і інш.), якія на пачатку XVII ст. думалі і чыталі ўжо па-польску. Паклапаціўся ён таксама і пра тое, каб брацкае выданне было не горшым за езуіцкія: надрукавана гатычным шрыфтам, пачынаецца з эпіграмы на герб Вішнявецкіх, а таксама з прысвячэння М.К. Вішнявецкаму. Ёсць прадмова да чытача, змешчаны праваслаўны Катэхізіс і раздзелы непасрэдна “Фрынаса”.

Менавіта гэта выданне віленскай брацкай друкарні, як люстра, адбівае акадэмічныя выданні Пятра Скаргі. Тая ж структура, нават змест прадмовы вельмі падобны... І гэта не выпадкова – М. Сматрыцкі правакаваў не надта маладога ўжо Скаргу, запрашаў яго на інтэлектуальны двубой. Так, у прадмове праваслаўны аўтар выказвае незадавальненне творамі “дзіўнымі і нечуванымі”. Перадусім маецца на ўвазе надрукаваная ў Вільні кніга П. Скаргі “Аб адзінстве касцёла Божага” (1577).

Скаргу аўтар называе “езуіцкай роты не апошнім камандзірам”. “Не абмінае і Пацея з уніятамі, звяртаючыся да іх, кажа: “У жыцці вы – карчмары і купцы, у абыходжанні – варвары, у размове – невукі, у стасунках – хітрыя лісы, <...>. Вы бацькі вашага, д’ябла, – праклятыя сыны” [89, с. 527].

М. Сматрыцкі літаральна следаваў тагачаснай кніжнай модзе: уключаў у тэкст урыўкі з Бібліі, часта звяртаўся да народнай лексікі. Мова “Фрынаса” – не мудрагелістая, а простая, лагічная (стыль Сматрыцкага набліжаецца да стылю Пятра Скаргі), у асобных выпадках аўтар звяртаецца да макаранічнай мовы, таксама ідучы ўслед за модай. Зрэшты сама па сабе жанравая форма “лямант” – надзвычай папулярная ў тагачаснай польскамоўнай культуры.

Адным словам, Сматрыцкі зрабіў усё дзеля таго, каб кніга дайшла да свайго адрасата. Спадзяванні аўтара цалкам апраўдаліся. Адразу ж на

[24] З грэч. мовы – Багалюб Праўдаслоў.

“Фрынас” адгукнуўся лідар католікаў Рэчы Паспалітай Пётр Скарга (“Перасцярога на трэны і лямант Тэафіла Арталога”, Кракаў, 1610 г.).

Як ні дзіўна, Пётр Скарга пачынае сваю “Перасцярогу...” з жарту. “Сматрыцкага ён называе не “Арталогам” (праўдасловам), а Крывалогам, лямантуючую царкву – “Пані Трэнаўскай” (ад слова трэн, што значыць плач – В.Е.), замест “Царградская патрыяршая” – Царградская патрыАРШАНская” і г.д. Скарга са смехам даводзіць, што “Усходняя царква” спасылаецца на такіх лацінамоўных аўтараў, пра якіх “ніколі ніхто не толькі ў Грэцыі, але нават і мы (каталікі. – В.Е.) не чулі” [89, с. 532]. Звяртае на сябе палемічны прыём, да якога звярнуўся П. Скарга, – ён, па сутнасці, адрэдагаваў тэкст Сматрыцкага, паказаўшы відавочныя факталагічныя памылкі. “Скарга пераканаўча давёў: усходняя царква наракае на рэчы справядлівыя, нават натуральныя, бо адпавядаюць яны веры, розуму і гісторыі” [89, с.531].

Выданне “Фрынасу” справакавала арышт рэдактара (у лістах Л.Сапегі – карэктара) і “галоўнага тыпографа” віленскай брацкай друкарні і рэктара брацкай школы Лявонція Карповіча (1580 – 1620). Апошні апынуўся ў турме, адседзеўшы там 2 гады. У канцы 1620 г. М.Сматрыцкім быў напісаны твор “Казанне на пахаванне Лявонція Карповіча”. Вось невялікая цытата з яго: “Был насмевань для веры православной, лжень, безчещень, шарпан от суду до суду, зь турмы до турмы през целыи два роки; як злочинца який”.

**Заблудаўская друкарня. Выдавецтва братоў Мамонічаў.** Не менш цікавая гісторыя яшчэ адной праваслаўнай друкарні – **Заблудаўскай.** Заснавана яна была на грошы гетмана Рыгора Хадкевіча, які ў 1568 г. запрасіў у свой маёнтак Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца. Там былі выдадзеныя “Евангелле вучыцельнае” і “Псалтыр з Часаслоўцам”. Найлепшы экзэмпляр “Псалтыра” захаваўся ў адной з англійскіх бібліятэк. Ён дазваляе казаць аб высокім узроўні заблудаўскіх майстроў. У пачатку кнігі – гравюра з гербам Хадкевіча. Ёсць яшчэ адна гравюра з выявай цара Давыда. Старонкі аздоблены шматлікімі ініцыяламі і застаўкамі. “Псалтыр” Івана Фёдарава меў вялізнае значэнне для захавання на тэрыторыі Вялікага Княства праваслаўнай культуры.

З гістрыяй Заблудаўскай друкарні звязана гісторыя самага буйнога кніжнага прадпрыемства канца XVI ст. – **выдавецкага дома братоў Мамонічаў** (з 1574 па 1624 гг.). Заснавалі друкарню сыны магілёўскага купца Івана Мамоніча – Лукаш і Кузьма. У 1568 г. Кузьма Мамоніч запрашае да сябе Пятра Мсціслаўца, які неўзабаве прыязджае ў Вільню з Заблудава. Першая кніга, выдадзеная Мсціслаўцам, – напрастольнае Евангелле (1575 г.). Наступнае – “Псалтыр” (1576 г.), затым былі яшчэ перавыданне маскоўскага “Апостала” і выданне “Часоўніка”. Затым Кузьма Мамоніч і Пётр Мсціславец пасварыліся (вядомая судовая справа, рас-

пачатая Мамонічамі супраць Мсціслаўца), і друкарня не працавала без малога 5 год.



ROZDZIAŁ

PIĄTY

ARTYKUŁ I.

**Мал. 16.** Старонка польскамоўнага Статута

У 1586 г. Мамонічы атрымалі ад Стэфана Баторыя прывілей на друкаванне “рускіх, словенскіх і грэцкіх кніг”. І ў 1595 г. браты выкарысталі гэту магчымасць, надрукаваўшы Евангелле вучыцельнае.

У 1591 г. Мамонічы друкуюць “Апостал” са змешчаным на пачатку кнігі дрэварытам евангеліста Лукі. Далей – прадмова, у якой браты тлумачаць прычыны, па якіх узяліся за гэта выданне: “Свяцейшы патрыярх і Яго Мосць айцец Мітрапаліт, з айцамі біскупамі і з усімі святарамі, а таксама з Яго Мосцю шляхетным і найславуцейшым ваяводаю Навагрудскім, Панам Тэадорам Скуміным, з іншымі Князямі і Панамі, праваслаўнымі хрысціянамі і жыхарамі месца Віленскага, размаўлялі і думалі пра друкаванне кніг для цэркваў Божых. З той прычыны і з благаслаўлення Яго Мосці айца патрыярха і айца мітрапаліта, скарбны Вялікага Княства Літоўскага пан Лукаш Іванавіч Мамоніч з братамі Мамонічамі, уласным коштам, надрукаваць загадаў гэту апостальскую кнігу”.

Аднак усё ж самы галоўны выдавецкі праект Мамонічаў – Трэці Статут, прывілей на друкаванне якога браты атрымалі ад Жыгімонта III. Падрыхтоўка рукапісу была завершана 1 снежня 1588 г. Сёння ёсць падставы казаць аб тым, што кірылічны Статут выходзіў трыма перавыданнямі – у 1588 г., 1592/93, 1594/95 [16, с. 211]. (Падрабязна асаблівасці гэтага выдання разгледжаны намі ў падраздзеле “Кадыфікацыя права, або Тры рэдакцыі Статута”). Акрамя статута, Мамонічы выдавалі і іншыя дзяржаўныя дакументы – напрыклад, “Гаспадарскі ліст” Жыгімонта III, канстытуцыі вальных соймаў (з гэтай мэтай друкарня набыла лацінскі шрыфт).

Існуе гіпотэза, паводле якой галоўным рэдактарам у выдавецкім доме Мамонічаў быў канцлер **Леў Сапега**. Канешне, канцлер не займаўся справамі тэхнічнага характару, аднак ён апякаў друкарню, па сутнасці пераў-

тварыў яе ў дзяржаўную структуру, своеасаблівае падраздзяленне вялікакняжацкай канцылярыі. Самі Мамонічы некалькі разоў падкрэслівалі: менавіта Сапега – “звірхні пан друкарні” (прадмова да “Псалтыра”, 1593 г.). У “Евангеллі” (напрастольным) 1600 г. Мамонічы заўважалі адносна прычыны выдання кнігі: “<...> за волею и позволеньемъ ясневелможного пана, его милости пана Лва Сапеги, канцлера великого князства Литовского, Слонимского, Пернавского, Могилевского старосты” [50, с. 90].

Між іншым, у тым самым выданні “тыпографы Яго Каралеўскай Міласці Мамонічы” папярэджвалі людзей “будзь якога стану”: “Паводле каралеўскага прывілею, забаронена кнігу гэту ў дзяржаве Яго Міласці передрукоўваць або друкаваць за мяжой і прывозіць ў дзяржаву” [94, с. 475].

**“Псалтирь Слѣдованная”, Вільня (136 лістоў, 716 старон.). Урывак з пасляслоўя:** “Лѣта отъ созданіа міру 7101, а отъ нарожденіа Ис. Христа, сына Божьего, избавителя нашего, 1593, мѣсяца ноября 1, сіа книга, глаголемая Псалтыръ, выдрукована есть въ мѣстѣ Виленьскомъ, въ дому тгыпокграфовъ его кр. милости Мамоничовъ. За привильемъ его кр. мл., которимъ то естъ даровано, абы каждый, якогожъ кольвекъ стану человѣкъ, не важился тыхъ книгъ въ панствахъ его королевское милости друковать; або гдѣ индѣи друкованыхъ до панствъ его королевское милости, будь явне, або потаемне, привозить и продавать, подъ виною, въ прывилею менованою, до скарбу его кор. мил. и подъ утраченьемъ всихъ книгъ” [50, с. 70].

У 1606 г. памірае Лукаш Мамоніч, а ў 1607 – Кузьма. Апошняй кнігай, якая выйшла “з выдавецкім адрасам “В друкарні дому Мамонічаў”, стала кніга “Uniwersal poborowy i <...> Konstytucja sejmu walnego koronnego w Warszawie roku panskiego 1607”. Далейшыя выданні выходзілі пад імем Лявона Мамоніча” [16, с. 213].

**Вывады па 5 параграфе:**

1. Падрыхтоўка рукапісаў да друку ў 1560 – 70-я гг. адбываецца ва ўмовах жорсткай рэлігійнай і палітычнай барацьбы. Кірылічныя выданні наследуюць друкарскія традыцыі Ф. Скарыны (С. Будны, прадукцыя віленскай брацкай друкарні). Чым далей ад пачатку XVI ст., тым больш відавочная перавага польскамоўных выданняў. Лідарства тут належыць друкарні езуіцкай акадэміі, прадукцыя якой вылучалася нязменнай якасцю – вычытанасцю тэкстаў, мастацкай дасканаласцю ілюстрацый, навізной у змесце і афармленні.

2. Функцыі рэдактараў друкаваных выданняў выконвалі або кіраўнікі ўстаноў (віленская акадэмія), брацтваў (Л. Карповіч), або запрошаныя майстры (Д. Ленчыцкі, П. Мсціславец). Часам абмеркаванне выдання праходзіла калегіяльна ("Катэхізіс" С. Буднага).
3. Галоўным рэдактарам, ідэйным кіраўніком выдавецкага дома Мамонічаў быў канцлер ВКЛ Леў Сапега. Пры гэтым прыватнае па сутнасці прадпрыемства пераўтварылася ў афіцыйнае выдавецтва канцылярыі вялікага князя (даюцца прывілеі на друк Статутаў, Трыбунала і інш. дакументаў). Відавочна, што пры падрыхтоўцы такіх рукапісаў яны праходзілі некалькі этапаў вычыткі – спачатку чытаў пісар вялікі (выпускаючы рэдактар), затым – канцлер (галоўны рэдактар), які зацвярджаў рукапіс пячаткай (або не зацвярджаў).
4. Рэдактарская дзейнасць у 1580 – 90-я гг. ажыццяўлялася ва ўмовах жорсткай рэлігійнай і свецкай цэнзуры. Фіксуюцца першыя факты спалення кніг, прычым як праваслаўнымі (спаленне кніг Скаргі), так і католікамі (знішчэнне пратэстанцкіх выданняў Мікалаем Радзівілам (Сіротка)). Пасля 1580-га г. прадугледжваецца адказнасць рэдактара за падрыхтоўку выдання антыдзяржаўнага / антыкаталіцкага зместу: штраф або турэмнае зняволенне (каля 2-х гг.).

**Пытанні для самападрыхтоўкі:**

1. У якім годзе Жыгімонт II Аўгуст дае прывілей Брэсцкай друкарні на выданне новых кніг?
2. У якой кнізе П. Скарга выступіў як кампілятар і рэдактар шматлікіх тэалагічных і агіяграфічных крыніц?
3. Ці захавалася кірылічная кніга С. Буднага "Аб апраўданні грэшнага чалавека перад Богам"?
4. Па якой прычыне кароль Жыгімонт III забараніў чытаць і распаўсюджваць "рускія кнігі, надрукаваныя ў рускіх друкарнях"?
5. Наколькі плённым было супрацоўніцтва выдавецкага дома Мамонічаў з канцылярыяй вялікага князя?

**Пытанні для дыскусіі:**

1. У прадмове да кнігі П. Скаргі "Аб адзінстве касцёла Божага..." дапушчана недаравальная памылка: замест "Астрожскі" напісана "Астроўскі". Як вы лічыце, ці варта гэты недахоп лічыць вынікам толькі рэдактарскага недагляду?
2. Мікалай Радзівіл Сіротка загадаў спаліць кнігі, якія рыхтаваліся ў друкарні Мікалая Радзівіла Чорнага. Як вы лічыце, што падштурхнула сына знішчыць плён шматгадовай працы свайго бацькі?

3. Як вы думаеце, ці быў загад Стэфана Баторыя аб увядзенні цэнзуры на тэрыторыі Рэчы Паспалітай гістарычна апраўданым?

**Рэкамендаваныя тэмы для рэфератыўных паведамленняў:**

1. Друкарня віленскага Свята-Духава брацтва ў Вільні: этапы дзейнасці.
2. "Фрынас" М.Сматрыцкага ў кантэксце палемічнай літаратуры Вялікага Княства Літоўскага XVII ст.

**Літаратура:**


1. Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI – першая палова XVIII стагоддзя / НАН Беларусі, Ін-т літ. імя Я.Купалы; Падрыхт. А.І. Богдан і інш.; навук. рэд. В.А. Чамярыцкі. – Мінск: Бел. навука, 2003. – 1015 с.
2. Асветнікі зямлі Беларускай: X – пачатак XX ст.: энцыкл. даведнік / рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш.; маст. У.М. Жук. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2006. – 496 с.
3. Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 т. – Т. 1–2 / рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; маст. З.Э. Герасімовіч. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2007. – 688 с.
4. Документы объясняющіе исторію западно-русскаго края и его отношенія къ Россіи и къ Польшэ. – С.Петербургъ: въ типографіи Эдуарда Праца, 1865. – 658 с.
5. Кавалёў, С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу: манаграфія / Сяргей Кавалёў. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 376 с.
6. Кавалёў, С.В. Літаратура Беларусі позняга Рэнесансу: жанры, творы, асобы / С.В. Кавалёў. – Мінск: Права і эканоміка, 2005. – 200 с.
7. Катэхізіс: Помнік беларускай Рэфармацыі XVI ст. / Адаптаваны тэкст, пер. з старажыт. бел. мовы Н.Кабелка; рэд. кал.: Н. Кабелка (навуковы рэд.) [і інш.]. – 2-е выд. – Мінск: Юніпак, 2005. – 312 с.
8. Кніга Беларусі. 1517 – 1917: Зводны каталог / склад. Г.Я. Галенчанка і інш. – Мінск: Навука, 1986. – 615 с.
9. Левшун, Л.В. Леонтий Карпович. Жизнь и творчество / Л.В. Левшун. – Мінск: Экономпресс, 2001. – 288 с.
10. Нікалаеў, М. Палата кнігапісная: рукапісная кніга на Беларусі ў X – XVIII стагоддзях / М. Нікалаеў; рэд. М.М. Розаў, А.С. Мыльнікаў. – Мінск: Маст. літ. 1993. – 239 с.
11. Падокшын, С.А. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры / С.А. Падокшын. – Мінск: Бел. навука, 2003. – 316 с.
12. Саверчанка, І.В. Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI – XVII стст. / І.В. Саверчанка. – Мінск : Беларус. навука, 2012. – 463 с.

# §7. РЭДАГУЮЧЫ ЖЫЦЦЁ: МІФАЛАГІЗАЦЫЯ ГІСТАРЫЧНАГА ФАКТА

**7.1.** Пётр Раізій. Макаранічная мова.
**7.2.** Рыгор Осцік: антыгерой эпохі Стэфана Баторыя.
**7.3.** У гонар Крыштафа Радзівіла Перуна.
**7.4.** Польскія і беларуска-літоўскія летапісы: інтэрпрэтацыі “Шчаслівай бітвы з крыжакамі прускімі ў 1410 г.”.

У другой палове XVI ст. на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага не выходзілі газеты і часопісы. Аднак значных падзей у краіне адбывалася столькі, што інфармаванне насельніцтва было ледзь не дзяржаўнай справай: Люблінскі сойм, Лівонская вайна, зацвярджэнне трох рэдакцый Статутаў, выбары каралёў... Сучасныя СМІ замянялі мастацкія творы, пры гэтым адна і тая ж падзея нярэдка выклікала творчы імпэт адразу ў некалькіх аўтараў. Дастаткова аператыўна з друку выходзілі звесткі аб падзеях у жыцці Княства або магнацкай сям’і. Пры дварах “паноў вялікіх” (Хадкевічаў, Астрожскіх, Сапегаў, Радзівілаў і інш.) знаходзіліся паэты і пісьменнікі еўрапейскага маштабу. Яны выконвалі функцыі сучасных PR-менеджараў, пакідаючы ў стагоддзях пазітыўныя ацэнкі палітычнай і вайсковай дзейнасці сваіх хлебадаўцаў.

**Пётр Раізій. Макаранічная мова.** Аднам з такіх еўрапейцаў быў **Пётр Раізій** (сапраўднае імя Педра Руіс дэ Морас) – іспанец па паходжанні, ён прыехаў у Вільню ў 1551 г. Дзякуючы пратэкцыі Жыгімонта II Аўгуста, заняў месца ў гаспадарчым судзе Княства і прыняў удзел у падрыхтоўцы другой рэдакцыі Статута 1566 г. На аснове багатай юрыдычнай практыкі напісаў трактат “Заключэнні аб справах, што слухаліся на судовых пасяджэннях у Літве” (1563 г.). У згаданай кнізе Раізій прапагандаваў рымскае права. У прадмове, прысвечанай Жыгімонту II Аўгусту, іспанец абгрунтаваў важнасць выканання законаў, асудзіў палітычнае бязладдзе і шляхецкую сваволю. Аднак літвінам ён запомніўся не так юрыдычнай практыкай, як удалымі панегірыкамі. Спрытны іспанец здолеў пасябраваць з многімі магнацкімі сем’ямі, пакінуўшы пасля сябе больш за 15 300 паэтычных радкоў, якія часта ўслаўлялі мудрасць і багацце ўплывовых літвінаў. Некаторыя з іх інфармавалі насельніцтва Рэчы Паспалітай аб народзінах дзіцяці, аб шлюбе або смерці – адным словам, аб усіх тых падзеях (часта празаічных), якія здараліся ў сям’і мецэната.

**Распаўсюджваліся такія тэксты або ў зборніках, або выходзілі асобнымі выданнямі** – *часцей за ўсё, гэта былі невялікія брашуры, аздобле-*

*ныя “кляйнотам” (шляхецкім гербам). На тытулах панегірыкаў мог адлюстроўвацца як сам мецэнат, так і яго блізкія – дзеці, жонка. Часта на гравюрах з’яўляліся алегарычныя малюнкі, сюжэты для якіх браліся або з Бібліі, або з антычнай міфалогіі.*

Ствараючы пазітыўны імідж магнатам, тым не менш, у адлюстраванні Рэчы Паспалітай Пётр Раізій не абыходзіўся без сарказму. Краіну палякаў і літвінаў еўрапеец папракаў у залішнім п’янстве, нават варварстве і цемрашальстве. С.Кавалёў прыводзіць у сувязі з гэтым некалькі красамоўных цытат з яго эпіграм-прысвячэнняў Кракаву, Гародні і Вільні. Вось прыклад ўражанняў Раізія ад польскага Кракава: “Ад’язджаю. З дакучлівым развітаюся Кракавам, // Дзе жыццё ёсць нічым як піццём”. Меркаванне адносна Гродна: “Бывай, Гародня, і няхай цябе паглынуць тваe рэкі, // Калі святым вешчунам не даеш ты прытулку, ані апекі” [27, с. 12].

У гісторыю культуры Вялікага Княства Літоўскага Пётр Раізій увайшоў як заснавальнік моды на так званую макаранічную мову.

**Макаранічная мова** (з лац. poesia maccheronika, maccheroni) – *беспарадкавая, неабгрунтаваная да абсурду перанасычанасць словамі іншаземнага паходжання (варварызмамі). У XVII ст. макаранічная мова – істотная прыкмета шляхецкай культуры Рэчы Паспалітай; найчасцей адлюстроўвала “сумесь” польскай і лацінскай, пазней (з другой паловы XVIII ст.) ... і французскай моў, утварала каставы / саслоўны жаргон. “Сведчыла пра ўпадак густу да культурных каштоўнасцей і ўяўляла сабой адыход пануючых саслоўяў ад пошукаў шляху ўдасканальвання літаратурнай мовы”. Супраць засілля макаранізмаў выступалі Ю.У. Нямцэвіч, І.Красіцкі, А.Нарушэвіч, Ф.Багамолец. Апошні “ў 1752 г. сачыніў на лацінскай мове “Размову аб польскай мове”. Падзеі адбываюцца на Елісейскіх палях (на тым свеце). “Бацька” польскай літаратурнай мовы, Ян Каханоўскі, вітае паэта Макаронскага “і чуе ў адказ такую тыраду: “Для мяне гэта саляцыум нескамперaванае (нечаканае аблягчэнне), што пасля крытычных эвентаў (здарэнняў) майго жыцця, тэрыс яктатус эт альто (блукаючы па краінах і марах) я прыстаў тандэм (нарэшце) алікванда (аднойчы) да жадаемай гавані”. Я.І.Парэцкі параўноўвае макаранічную мову з французскай Бастыліяй, г.зн. “з крэпасцю рэакцыі”, сімвалам адсталых поглядаў. “Узяць Бастылію” – пазбавіцца ад макаранізмаў – азначала аднaчасова і вызваліцца ад шляхецкай анархіі, дзяржаўнага бязладдзя.*

Пётр Раізій, запісваючы свае “ўражанні” ад Рэчы Паспалітай, шырока ўжываў у лацінамоўным тэксце польскія і беларускія словы. У выніку атрымоўвалася лексічная “цераспалосіца”. Тое, **<u>чаго б ніколі не дапусціў</u>**

**сучасны рэдактар, іспанец зрабіў модай, якая праіснавала ледзь не два стагоддзі** (XVII – XVIII стст.). Вось як выглядае ўрывак з яго верша "Падарожнікам у Літву" (пераклад з лац. мовы Ганны Карповіч):

> Калі хто Літвою *jaždžaje* праз *miasty gošcinne*
> Ці ў Вільню далей, ці выпадкам з'язджае адтуль,
> *Niech* возьме з сабою *ržanego i białego chleba*,
> І возік паўнюткі, і *błąd jest* без брычкі цягнуцца паўсюль[25]
>
> [27, с. 161].

**Рыгор Осцік: антыгерой эпохі Стэфана Баторыя.** Вось яшчэ адзін прыклад таго, як пісьменнікі XVI ст. не толькі аператыўна рэагавалі на грамадска значныя падзеі ў Княстве, але і рэдагавалі іх (выконваючы пэўны палітычны заказ). Гутарка пра справу Рыгора Осціка. Гэты беларускі магнат 15 чэрвеня 1580 г. быў абвінавачаны ў здрадзе і асуджаны на пакаранне смерцю. У тым жа самым годзе ў Вільні выйшаў з друку "Лямант няшчаснага Рыгора Осціка".

**Рыгор Осцік** – *апошні з некалі славутага і заможнага літвінскага роду, падчас вайны з Масковіяй нібыта змовіўся з ворагам і нават абяцаў за шчодрую ўзнагароду забіць караля.* М.Стрыйкоўскі, апавядаючы пра гэту падзею ў 1582 г., абмежаваўся канстатацыяй факта: маскоўскі шпег Нашчокін часта сустракаўся і аб нечым размаўляў з прадстаўніком "зацнай фаміліі", але, як аказалася, вырадкам і прайдзісветам Рыгорам Осцікам. "Осцікава здрада супраць караля і Айчыны зрабілася відавочнай", паведамляе Стрыйкоўскі, магнат быў справядліва пакараны смерцю. Аднак аўтару не гістарычнай хронікі (М.Стрыйкоўскі), а мастацкага твора "Лямант няшчаснага Рыгора Осціка..." (наратар хаваецца за псеўданімам Станіслаў Лаўрэнцій) простай канстатацыі Осцікавай здрады было недастаткова.

У "Лямaнце...", напісаным па гарачых слядах падзеі, адлюстраваны зварот Осціка да каралеўскага суда. Здраднік каецца ў грахах і перасце-

---

[25] Заўвага – ужыванне лексікі розных моў для шматнацыянальнай кніжнай культуры Княства – справа звычайная. Так, ужо ў XIII ст. у асобных рукапісах да царкоўнаславянскай мовы дамешваюцца старабеларускія словы і выразы, захоўваецца грэчаская тэрміналогія. У грэка-славянскай моўнай прасторы гэта "трасянка" выглядала досыць натуральна. У перыяд позняга Адраджэння ў культуру Княства ўварваўся магутны струмень польскай мовы. Мясцовыя аўтары часта пісалі па-польску (як, напрыклад, адзін з аўтараў "Магілёўскай хронікі" Т. Сурта), аднак прыточвалі да мовы Каралеўства беларусізмы. У кнігах гэта "беларуская пальшчызна" захоўваецца амаль да XIX ст. Праўда, у асобных друкаваных выданнях XVI ст. друкары (Д. Ленчыцкі) выпраўлялі беларусізмы, выступаючы ў ролі **літаратурных рэдактараў** польскамоўных або лацінамоўных тэкстаў. Так было з "Дзесяцігадовай вайной" А. Рымшы.

рагае ад зла ўсіх тых, хто стаў “на склізкі шлях злачынства”. Пры гэтым маналог падаецца як рэальны. Тут важна звярнуць увагу на тое, што магнат сапраўды прамаўляў перад каралеўскім судом. “Лямант...” нібыта складаецца з гэтай пакаяльнай, магчыма, моцна адрэдагаванай прамовы. Станіслаў Лаўрэнцій выступае ў ролі своеасаблівага рэпарцёра, які транслюе плач Осціка, аздабляючы яго аўтарскімі каментарамі. Так, у прадмове да “Лямантa...” падаецца экскурс у гісторыю некалі славутай сям’і, распавядаецца пра братоў злачынцы – заслужаных перад краем і людзьмі двух паноў Осцікаў. Акцэнтуецца ўвага на тым, што сам Осцік – гэта выключэнне з агульнага правіла, вырадак, які крочыў да здрады праз нечуваныя ў Княстве шаленствы. Іншымі словамі, С. Лаўрэнцій наўмысна дэманізуе Осціка, ператварае дзяржаўнага здрадніка яшчэ і ў крымінальнага злачынцу. Аздабляе “ворага народа” ўсімі прыкметамі кунтушовага д’ябла XVIII ст.:

Шавялянцы са мной доўга не змагліся,
І маёмасць, і хаты мне іх дасталіся.
Плачуць бедныя дзеці, па бацьках рыдаюць,
І сыны іх пакутна слёзы праліваюць.
З тых бацькоў, хто забіты, хто пачвартаваны,
На варотах ля дома іншы ўскрыжаваны.
А саміх бедных жонак за сваіх малойцаў,
Канюхоў, выдаў тут жа, іх мужоў забойцаў [27, с. 176].

У гэтым эпізодзе гутарка пра нібыта здзейснены Осцікам напад (“заезд”) на шляхецкі засценак Шавялянцы, што на Жмудзі. Ці быў ён сапраўды – невядома, аднак аўтар наўмысна адхіляецца ад асноўнай тэмы, не забываецца да аднаго злачынства дадаць шэраг іншых: прапіў бацькаўшчыну, здрадзіў жонцы, пусціў па свеце дзяцей, падрабляў грошы і інш.

Осцік – надта відавочны антыгерой эпохі Стэфана Баторыя. Аднак, каючыся, ён наўрад ці наважыўся б распавесці суду пра падобныя “прыгоды свайго жыцця”. Хутчэй за ўсё аўтару “Лямантy...” давялося некаторыя дэталі з жыцця Осціка дадумаць, судовую прамову адрэдагаваць, каб пераканаўча давесці шырокаму колу чытачоў тое, што не варта сумнявацца ў справядлівасці прысуду. А сумненняў хапала, бо надта спяшаліся асудзіць Осціка (не чакаючы сойма), зрабілі з яго справы паказальнае пакаранне перад чарговым эпізодам у вайне з Масквой.

**У гонар Крыштафа Радзівіла Перуна.** Вайна з “масквіцінам, што зброяй убярэцца, ды з намі за жыццё і за дзяржаву б’ецца” (цытата з паэмы “Пратэй, або Пераверцень” Пятра Статорыуса) зрабілася падставай для напісання цэлага шэрагу мастацкіх твораў. Найбольшы розгалас набыў эпізод, звязаны з дзёрзкім рэйдам князя Крыштафа Радзівіла Перуна па маскоўскіх тылах у 1581 г. Тады 35-гадовы Радзівіл з невялікім атрадам

дайшоў да Волгі, узяў палонных і нагнаў незвычайнага жаху на царскую сям'ю. Розныя версіі гэтага паходу падалі беларускія і польскія аўтары. Пры гэтым кожны з іх меў перад вачамі "Дыярыуш" – дзённік, у якім фіксавалася гісторыя выправы. Згаданыя тут паэтычныя тэксты можна лічыць рознымі рэдакцыямі гэтай дакументальнай крыніцы.

Першым, хто адгукнуўся на ўчынак Крыштафа Радзівіла, быў каралеўскі сакратар Францішак Градоўскі (відавочца падзей). Усяго праз год пасля паходу ў віленскай друкарні Даніэля Ленчыцкага ён выдаў лацінамоўную паэму **"Апісанне маскоўскага паходу князя Крыштафа Радзівіла"**. Паэма мае 790 радкоў, складзеных дактылічным гекзаметрам. Радзівілаўскі рэйд адлюстраваны як справядлівае пакаранне Маскве, Боская помста цару-тырану: "Не цешце сябе надзеяй, маскавіты, не думайце, // Што беспакарана будзеце парушаць нашыя межы, // Што магутныя ліцвіны нічога не зробяць у адказ // І будуць цярпець ваш гвалт". Ф.Градоўскі падае назвы рускіх гарадоў, рэк, вёсак, праз якія праходзяць літвінскія харугвы. Ён выступае ў якасці дакументаліста, гісторыка, які імкнецца не абмінуць ніводнай значнай падзеі. Пры гэтым аддае належнае мужнасці не толькі літвінаў, але і маскавітаў. Яго "Апісанне..." – гэта рыцарская аповесць пра людзей эпохі Рэнесансу, для якіх няма нічога немагчымага. Паэма Градоўскага мае агульнаеўрапейскага адрасата. Яна прызвана пазнаёміць з веліччу Княства і давесці справядлівасць вайны з Масквой (мае выразны ідэалагічны падтэкст).

**Францішак Градоўскі** (каля 1545 – 1595). *Дзяржаўны дзеяч ВКЛ, паэт-лацініст, кальвініст. Вучыўся ў Вітэнбергскім універсітэце. Сакратар і даверaная асоба Ст. Баторыя.*

У 1583 г. подзвіг Радзівіла Перуна ўславіў Г.Пільгрымоўскі ў паэме "Panegyrika Apostrophe... ad Christophorum Radivilum" (г.Кракаў). У тым жа годзе была надрукавана паэма "Jezda do Moskwy" знакамітага польскага паэта Яна Каханоўскага (Радзівіл замовіў напісанне гэтай паэмы). У 1585 г. (г. Вільня) выйшла самая падрабязная гісторыя рэйду Перуна пад назваю "Deketeros akroama, to jest Dziesięćroczna powieść wojennych... Krysztofa Radziwiła" (1585). Аўтар – Андрэй Рымша.

Паляк **Ян Каханоўскі** таленавіта, але дужа па-мастацку адлюстраваў падзеі 1581 г. Ён выступіў менавіта як паэт, без асаблівага энтузіязму выканаў замову свайго мецэната. Аналізуючы паэму, У.Сыракомля назваў яе вершаваным дыярыушам гетманскай выправы. "Каханоўскі аддае належнае Радзівілу, які спачатку пад кіраўніцтвам бацькі (Мікалая) пад Улой прыняў удзел у бітве, а зараз пад Псковам аднавіў зарослыя шляхі Вітаўта".

Беларус А.Рымша, спаборнічаючы з Я. Каханоўскім, узяў на сябе функцыі і паэта, і дакладнага летапісца радзівілаўскага рэйду. Такім

чынам, мы маем 4 версіі аднаго і таго ж гістарычнага факта. Пры гэтым трэба мець на ўвазе тое, што ўсе аўтары − сучаснікі адлюстраваных падзей, а некаторыя (Градоўскі і Рымша) − непасрэдныя ўдзельнікі.

"Дзесяцігадовая аповесць..." Андрэя Рымшы, па словах С.Кавалёва, "з'яўляецца найбольш значным творам радзівілаўскага цыкла" [27, с. 51]. Прычыны тут дзве − дасканаласць стылю аўтара і гістарычнасць аповеду (нездарма даследчыкі называюць гэты твор паэмай-хронікай). Выйшла "Дзесяцігадовая аповесць" у віленскай друкарні Даніэля Ленчыцкага (1585 г.). "Акрамя асноўнага тэксту − панегірычнай паэмы − Рымша змясціў 40-радковы лацінамоўны акраверш, пачатковыя літары якога чытаюцца зверху ўніз: "Хрыстафор Радзівіл, ваявода Віленскі" [27, с. 146]. Гэтае ж выданне змяшчае ў сабе панегірычныя вершы Яна Радвана і двух паэтаў, якія схаваліся за крыптонімамі M.J. і J.K.

Не закранаючы мастацкіх вартасцей згаданых паэм, адкажам на пытанне, чым адрозніваюцца чатыры рэдакцыі аднаго і таго ж аповеду пра паход Перуна па маскоўскіх тылах.

Галоўнае адрозненне − прадмет аўтарскай зацікаўленасці. Маючы на ўвазе адзін аб'ект − ваенны паход, − кожны з аўтараў рабіў акцэнт на тых рэчах, якія ўяўляліся яму важнымі. Ф.Градоўскі пісаў сваю паэму ў папулярным на той час жанры hodoeporikon, "які аб'ядноўваў рознага роду апісанні падарожжаў, у тым ліку − і ваенных выпраў" [27, с. 56]. Іншымі словамі, Градоўскага ў большай ступені цікавілі экзатычныя для еўрапейца гарады, землі Масковіі. Паэма Г.Пільгрымоўскага − гэта панегірык роду Радзівілаў, дзе рэйд Перуна − усяго адзін з эпізодаў гэтай слаўнай сямейнай гісторыі. Я.Каханоўскі стварае гімн непераможнаму войску Рэчы Паспалітай. Андрэй Рымша падае хроніку падзей (для яго паэмы характэрны рэпартажны стыль: ствараецца эфект прысутнасці, падзеі хутка змяняюцца, пасля чаго з'яўляецца каментар відавочца ці ўдзельніка пэўнага эпізоду). Рымша выступае ў ролі своеасаблівага "рэнесанснага Нестара". Нездарма першы раздзел паэмы пачынаецца з летапіснага паведамлення аб смерці караля Жыгімонта II Аўгуста.

Аднак у дадзеным выпадку найбольш важная не форма аповеду, а яго змест. Рымша ўслаўляе не так Крыштафа Радзівіла (хоць асобе гэтага палкаводца адведзена ў апавяданні вялікае месца), колькі простага жаўнера. Паэт стварае панегірык не магнату, не дзяржаве або яе зброі, а народу, які ўзгадаваў гэтакіх герояў, як Крыштаф Радзівіл Пярун. Народнасць "Дзесяцігадовай аповесці..." праяўляецца нават у мове твора, якая зведала вялікі **уплыў з боку жывой беларускай гаворкі**.

Мовазнаўцы выказваюць меркаванне, што ў рукапісе паэмы было значна больш фанетычных і граматычных "дыялектызмаў", але іх выправіў перад публікацыяй твора друкар Д.Ленчыцкі (лексіку выправіць

было цяжэй, бо парушаўся рытм верша). Прамова цара Івана IV і мірных рускіх жыхароў пададзены ў паэме ў "арыгінале", а фактычна – на мяшанай руска-беларускай мове.

А маскаль – следам спешна мчыцца да гетмана,
І да ног прыпадае – прызнае ў ім пана.
З крыкам плача: "***Смілуйся, солнышко ясное,***
***Дай свет відеть, не губі головы нашое***".

**Польскія і беларуска-літоўскія летапісы: розныя інтэрпрэтацыі "Шчаслівай бітвы з крыжакамі прускімі ў 1410 г."**. Як вядома, 15 ліпеня 1410 г. каля населеных пунктаў Грунвальд і Таненберг адбылася бітва паміж супольным літоўска-руска-польскім войскам і Тэўтонскім Ордэнам. Перамога ў бітве спыніла працяглую барацьбу з нямецкімі рыцарамі, але распачала другую – барацьбу паміж беларускімі (літоўскімі) і польскімі летапісцамі, пісьменнікамі. Першай і, па словах Ю. Бохана, класічнай крыніцай па грунвальдскай тэматыцы лічыцца аповед Яна Длугаша (1415 – 1480 гг.), змешчаны ў 12-томнай "Гісторыі Польшчы". Апісваючы Грунвальд, Я. Длугаш прапанаваў такую версію падзей, якая зрабілася кананічнай у пазнейшай польскай гістарыяграфіі і культуры ("Конрад Валенрод" А. Міцкевіча, "Кунігас" Ю. Крашэўскага, "Крыжакі" Г. Сянкевіча і інш.). Галоўны тэзіс Длугаша гучыць дастаткова проста: гонар перамогі над крыжакамі належыць палякам. Літвіны (апроч смаленскіх харугваў) паўцякалі з поля бою:

**Калі крыжакі зразумелі, што на левым крыле польскага войска бітва была** *заўзятая і для іх небяспечная – пасечаныя былі ўжо значныя іх атрады, – на правае крыло атакі свае скіравалі, дзе літоўскае войска знаходзілася, якое радзейшыя мела шэрагі, коней было ў іх меней ды ўзбраенне слабейшае; лягчэй, здавалася ім, яго можна перамагчы, каб потым, пасля знішчэння літвінаў, усімі сіламі на палкі палякаў ударыць. <...> Калі з літвінамі, русінамі і татарамі бітва разгарэлася, пачалі паддавацца аддзелы літоўскія, не могучы вытрымаць напору ворага, і праз некаторы час саступілі поле. Крыжакі мацней напіралі, і тыя раз за разам адступаць мусілі – аж пакуль нарэшце не пабеглі хто куды. Дарэмна біццём і гучным крыкам вялікі князь літоўскі Аляксандр уцекачоў намагаўся затрымаць – шмат ужо і палякаў пацягнулі яны ўслед за сабой, бо тыя біліся ў літоўскіх шэрагах. Шмат міль гнаў іх вораг, а ўцякаючых або забіваў, або браў у палон, і быў пэўны ўжо, што перамог"* (пераклад. – В.Е.).

Далей Я. Длугаш распавядае пра тры смаленскія харугвы, якія не паддаліся агульнай паніцы і засталіся на полі бою. Адну рускую харугву, піша гісторык, выцялі ў пень і нават штандар у зямлю ўтапталі, а дзве другія – атрымалі перамогу. "Яны адны толькі ў той дзень ў войску

Аляксандра-Вітаўта славу непахісных і мужных сабе здабылі”. Нягледзячы на гэту кампліментарную заўвагу, агульная выснова Я.Длугаша: літвіны дужа мала, у параўнанні з палякамі, зрабілі дзеля перамогі над крыжакамі.

Услед за Я. Длугашам гэты непрыемны для вялікага князя Вітаўта момант адлюстраваў Мацей Стрыйкоўскі (1547 – каля 1590 гг.). У яго “Хронiцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі” падаецца наступная версія згаданага эпізоду Грунвальдскай бітвы:

| | |
|---|---|
| Sieką się już wręcz, Niemcy zbroją przemagają, | Твар да твару сякуцца, немцы нас змагаюць, |
| Tatarowie zaś z Litwą z łuków ich wspierają, | Іх літва і татары з лукаў накрываюць |
| Frezy pod nimi psując, a który w co zmierzy, | Ды нявечаць ім коней; хто ў што пацаляе, |
| Lub w bok, lub w czoło darmo | Надарма з іх ніводны |
| jednak nie uderzy. | стрэлаў не пускае. |
| Straszny się zewsząd niesie | Страшны хруст, звон і |
| chrzęst i grzmot od zbroje, | грукат паўстае ад зброі |
| Żołnierze też rozdarwszy | Горлы ў крыку няспынным |
| wszyscy gardła swoje, | пазрывалі воі; |
| Krzyczą, huczą, a ranni pod końmi stękają, | Той, паранены, стогне, пад канём якоча, |
| Drudzy się na bałuku już bez sił czołgają, | Гэты, ракачам стаўшы, з болю жыць не хоча |
| Bitwa z obu stron równa pół godziny trwała, | Бітва мо з паўгадзіны роўныя трывала, |
| A fortuna watpliwa tam i sam latała. | Ды нікога фартуна пакуль не абрала. |
| Kurzy się pył do nieba z prochów poruszonych | *Пыл пад неба з зямлі ўзлятае* |
| Końmi, a Mars wznieca chęć | *Коньмі ўзняты, а Марс раздзьмухае* |
| w mężach zajuszonych, | *У рыцарах шал заўзяты.* |
| Aż Litwa ustąpila placu, jak na staje, | *Ажно Літва поле саступае і хутка ўцякае,* |
| Witołd sam na nich woła prosząc, drugim łaje. | *Вітаўт крычыць, адных просіць, іншых лае.* |
| Lecz zbrojnym Niemcom | *Ды немцаў збройных* |
| ręcznej bitwy nie wytrwali, | *У бітве, што твар да твару, не стрымалі*[26] |
| [79, с. 133] | [2, с. 434] |

Як можна пераканацца, гэты ключавы момант у Грунвальдскай бітве і Длугаш, і Стрыйкоўскі ацэньваюць аднолькава. Нават можна казаць аб перадачы пэўнай ідэалагічнай эстафеты ад Длугаша да Стрыйкоўскага. Наколькі іх бачанне сітуацыі адпавядала рэальнасці?

Адназначнага адказу на гэта пытанне няма. Аднак заўважым, што Длугаш грунтаваўся на комплексе вартых даверу дакументаў. Выступаў у ролі кампілятара і рэдактара вялікага наратыўнага матэрыялу. Паводле Мечыслава Ючаса, Длугаш працаваў не менш, чым з 4 досыць аўтарытэтнымі крыніцамі: 1) пашыраная рэдакцыя “Хронікі канфлікту”

[26] Заўвага – выдзелены курсівам тэкст падаецца ў перакладзе аўтара гэтай работы.

(“Cronica conflictus”), “напісаная яшчэ ўвосень 1410 г. у лагеры Ягайлы” [68, с. 37]; 2) дакументы каралеўскага архіва; 3) дасланыя ў Еўропу палемічныя лісты; 4) інтэнерарый З. Алясніцкага. Нарэшце, Я.Длугаш мог размаўляць з жывымі яшчэ ўдзельнікамі той бітвы (бацька самога аўтара на Грунвальдскім полі трапіў у няволю да брандэнбургскага комтура [68, с. 39]). Такім чынам, на першы погляд падаецца, што Длугашава рэдакцыя падзей 1410 г. самая аб’ектыўная. Разам з тым існуе адно важнае пярэчанне.

Куратарам і настаўнікам Яна Длугаша быў, па словах Адама Кіркора, самы жорсткі вораг незалежнасці Княства [32, с. 31] кракаўскі біскуп Збігнеў Алясніцкі. Ён стаў на шляху каранавання Вітаўта і апантана адстойваў ідэю падначальвання Княства польскай Кароне. Менавіта Алясніцкі запавёў свайму выхаванцу апісаць у тым ліку і гісторыю Грунвальда. Не дзіва, што выконваючы жаданне свайго апекуна, Ян Длугаш “прадставіў літоўцаў з адмоўнага боку, як дзікіх рабаўнікоў і варвараў”, а самога Алясніцкага − як героя, які выратаваў караля. Акрамя таго, у той час, калі Длугаш ствараў сваю гісторыю Грунвальда, паміж Літвой і Польшчай разгараўся канфлікт з-за Падолля і Валыні. Будучы на баку Польшчы, Длугаш мог перабольшыць яе заслугі ў лёсавырашальнай бітве з крыжакамі.

Такім чынам, погляды Яна Длугаша і арыентаванага на яго Мацея Стрыйкоўскага наўрад ці могуць лічыцца абсалютна даставернымі. Тым больш, што існуе беларускі варыянт прачытання эпізоду з “уцёкамі Вітаўта”. Гутарка пра адпаведны ўрывак з **“Хронікі Быхаўца”:**

*“<...> гетманы, войска (літоўскае. − В.Е.) пашыхтаваўшы, пайшлі на бітву, а немцы таксама, гледзячы на тое, давай з імі змагацца, і пачалася бітва з самай раніцы паміж немцамі і войскам літоўскім, і вялікае мноства з абодвух бакоў − войска літоўскага і нямецкага − загінула. Потым вялікі князь Вітаўт, бачачы, што вояў яго дужа шмат палягло, а ляхі нічым дапамагаць не жадаюць, прыбыў да брата свайго караля Ягайлы, а ён імшу слухае. І Вітаўт так сказаў: “Ты імшы слухаеш, а князі і панове, браты мае, за малым не ўсе пабітыя ляжаць, а твае людзі ніякае дапамогі ім аказаць не жадаюць”. І ён яму сказаў: “Мілы брат, інакш зрабіць не магу, мушу даслухаць імшу”, і казаў атрад на ратунак даслаць, калі ўжо атрад той да войска літоўскага прыцягнуўся, разам з войскам літоўскім пайшоў і немца на галаву разбіў. І самога магістра і комтураў яго на смерць забілі, і незлічоную колькасць немцаў злавілі і забілі, а іншыя войскі ляшскія нічым не дапамагалі, толькі на тое глядзелі”* (пераклад − В.Е.).

Як бачым, паводле “Хронікі Быхаўца”[27], не палякі, а літвіны перамаглі крыжакаў. Пры гэтым уцёкі войскаў Княства нават не згадваюцца. Невядомы аўтар прыкметна непрыязна ставіцца да “ляхаў”, адначасова высока ставіць талент палкаводца Вітаўта. “Хроніка Быхаўца” інфармуе таксама пра загадкавыя “воўчыя ямы”, нібыта выкапаныя крыжакамі. У іх пападала шмат літвінаў падчас шыхтавання войска Вітаўта” (Длугаш пра гэтыя ямы не паведамляе):

*“І бачылі тое немцы, што ляхі і літва з такім вялікім войскам не маглі нідзе пашыхтавацца, як на тым полі, а таму капалі ямы і прыкрывалі зямлёю, каб у іх коні і людзі падалі; і калі ўжо кароль Ягайла і князь вялікі Вітаўт з войскам сваім пераадолелі тыя лясы і прыйшлі на тыя Дубровенскія палі, тады гетман быў найвышэйшы у войску Ягайлавым пан Сокал Чэх, а дворны гетман быў пан Спытак Спыткавіч, а ў Вітаўтавым войску старшы гетман быў князь Іван Жэдэвід, брат Ягайлы і Вітаўта, а дворны гетман быў пан Ян Гаштольд. І як пачалі тыя згаданыя гетманы людзей шыхтаваць, а пра тыя ямы нічога не ведалі, што іх немцы выкапалі, князь Іван Жэдэвід і пан Сокал у ямы ўваліліся і ногі сабе зламалі, <...>; і не толькі адны гетманы, але і многім людзям ад тых ям шкода была”* (пераклад – В.Е.).

Супастаўляючы розныя крыніцы, беларускі даследчык Ю.Бохан даводзіць тое, што “<...> факт уцёкаў часткі войска Вітаўта ўскосна пацвярджаецца і такім салідным, вартым даверу дакументам, як данясенне ордэнскага ўрадніка з Тапева комтуру Свенца ад 21 кастрычніка 1410 г. Там гаворыцца, што Вітаўт вярнуўся ў межы Вялікага Княства ледзьве з паловай свайго войска” [9, с. 190]. Як бы там ні было, усё ж варта звярнуць увагу на абсалютна розныя прачытанні гэтай сітуацыі ў польскім і беларуска-літоўскім гістарычным наратыве. Хутчэй за ўсё, гэта звязана з сур’ёзнымі палітычнымі супярэчнасцямі, якія ўзнікалі раз-пораз паміж Княствам і Каралеўствам. Не менш важная і яшчэ адна рэч: Грунвальдская бітва значна аслабіла Княства і ўзмацніла Каралеўства. Гэта адна з прычын, па якой амаль што **ва ўсіх рэдакцыях беларуска-літоўскіх летапісаў Грунвальду адводзіцца да крыўднага мала месца. Тое ж самае можна сказаць і пра літаратуру**. За выключэннем падрыхтаванай у кракаўскай друкарні Яна Галера лацінамоў-

[27] Заўвага – “Хроніка Быхаўца” – трэці, найбольш поўны агульнадзяржаўны летапісны звод ВКЛ. Знойдзены ў бібліятэцы шляхціца А. Быхаўца. Адсюль – назва. Пачатак і канец хронікі не зберагліся. Вядома ў адзіным спісе канца XVII ст., перапісаным лацінкай з больш даўняга кірылічнага тэксту. Крыніцамі для Х.Б. паслужылі “Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага”, Галіцка-Валынскі летапіс, Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г. Адлюстроўвае гісторыю ВКЛ ад легендарных часоў да пачатку XVI ст. Мова хронікі – старабеларуская.

най паэмы Яна Вісліцкага “Пруская вайна”, у літаратуры Княства няма твораў, вартых маштабу падзеі.

Аднак і Ян Вісліцкі (беларус, народжаны, хутчэй за ўсё, каля Клецка) пайшоў у адлюстраванні Грунвальдскай бітвы ўслед за Длугашам. Вось момант уцёкаў Вітаўта ў інтэрпрэтацыі паэта:

Вось трыумфуе Тэўтон і крыжа старажытнага слава,
Цешацца воіны ў панцырах – хто на кані, а хто пешы.
Роспач і сполах у тварах тваіх ваяроў, княжа Вітаўт,
Лёс недастойны ў вайне засмучае, гняце і няславіць
Коннікаў ды пехацінцаў тваіх, што ва ўцёках ганебных
Мусяць шукаць паратунку ад гэтай суровай навалы

[2, с. 344].

**Вывады па 7 параграфе:**

1. Напрыканцы эпохі Адраджэння кніга становіцца сродкам перадачы як актуальнай палітычнай інфармацыі, так і сямейна-побытавай. Час ад напісання рукапісу да яго выдання значна зменшыўся. Калі ў першай палове XVI ст. кнігі рыхтаваліся цягам некалькіх год, то ў другой палове выдаўцы абмяжоўваліся некалькімі месяцамі. Дадзеная акалічнасць патрабавала ад рэдактара, мастака, наборшчыка надзвычайнай аператыўнасці і высокага прафесіяналізму. Актуальная палітычная інфармацыя праходзіла праз сіта рэдактарскіх правак непасрэдна ў друкарні. Звесткі з нагоды значнай падзеі ў жыцці пэўнай сям’і ўзгадняліся з тым мецэнатам, які непасрэдна замаўляў панегірычны тэкст.
2. Фактарам, які значна ўскладняў працу літаратурнага рэдактара над тэкстам, была так званая макаранічная мова. З’явілася яна ў атачэнні караля Стэфана Баторыя і паступова ўвайшла ў моду. Лексічная цераспалосіца пераўтварала літаратурную мову ў саслоўнае арго, што ў значнай ступені звужала кола патэнцыяльных чытачоў. Прынцыпы даступнасці і народнасці (калі незразумелыя словы іншамоўнага паходжання замяняліся адпаведнікамі з жывой народнай гаворкі – Ф. Скарына, В. Цяпинскі) не толькі пачалі ігнаравацца, але і сталі лічыцца адзнакамі, якія прыніжаюць шляхецкую годнасць аўтара.
3. Палітычнае суперніцтва, якое назіраліся ва ўзаемаадносінах Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага ўжо пасля заключэння дынастыйнай уніі 1385 г., вызначыла два розныя (часта вельмі супрацьлеглыя) падыходы да адлюстравання значных гістарычных падзей у нацыянальных летапісах і хроніках. Працуючы з аднымі і тымі ж дакументамі, палякі і літвіны рэдагавалі іх паразнаму, выбудоўваючы ўласныя канцэпцыі мінулага.

**Пытанні для самападрыхтоўкі:**

1. Што такое макаранічная мова? Як вы лічыце, чаму яе шырокае ўжыванне негатыўна паўплывала на развіццё культуры Рэчы Паспалітай у XVII – XVIII стст.?
2. Па якой прычыне Крыштаф Радзівіл Пярун зрабіўся цэнтральным персанажам 4-х кніг, надрукаваных ў 80-х гг. XV ст.?
3. Чым адрозніваюцца 4 аўтарскія версіі ваеннага паходу князя Радзівіла па маскоўскіх тылах?
4. Які кракаўскі біскуп натхніў Длугаша на напісанне 12-томнай "Гісторыі Польшчы"? Якое ён мае дачыненне да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага?

**Пытанні для дыскусіі:**

1. Наколькі, на ваш погляд, мастацкая версія жыцця Рыгора Осціка адпавядае рэчаіснасці?
2. Чаму Крыштаф Радзівіл з просьбай аб напісанні панегірычнай паэмы звярнуўся не да літвіна Рымшы, а да паляка Каханоўскага?
3. Як вы лічыце, у чым прычына міфалагізацыі падзей Грунвальдскай бітвы ў польскім і ў беларускім летапісанні?

**Рэкамендаваныя тэмы для рэфератыўных паведамленняў:**

1. Рэдагуючы гісторыю: Грунвальдская бітва ў адлюстраванні Генрыка Сянкевіча (раман "Крыжакі");
2. "Дзесяцігадовая аповесць..." Андрэя Рымшы: асаблівасці выдання.

**Літаратура:**


1. Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI – першая палова XVIII стагоддзя / НАН Беларусі, Ін-т літ. імя Я.Купалы; Падрыхт. А.І. Богдан і інш. Навук. рэд. В.А. Чамярыцкі. – Мінск: Бел. навука, 2003. – 1015 с.
2. Асветнікі зямлі Беларускай: X – пачатак XX ст.: энцыкл. даведнік / рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш.; маст. У.М. Жук. 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2006. – 496 с.
3. Гісторыя беларускай кнігі: у 2 т. – Т. 1: Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага / М.В. Нікалаеў; навук. рэд.: В.В. Антонаў, А.І. Мальдзіс. – Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. – 424 с.
4. Гісторыя беларускай літаратуры XI – XIX стагоддзяў: у 2 т. – Т. 1: Даўняя літаратура: XI – першая палова XVIII стагоддзя / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; навук. рэд. В.А. Чамярыцкі. – 3-е выд., выпр. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 910 с.
5. Кавалёў, С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу: манаграфія / Сяргей Кавалёў. Мінск: Кнігазбор, 2010. – 376 с.
6. Кавалёў, С.В. Літаратура Беларусі позняга Рэнесансу: жанры, творы, асобы / С.В. Кавалёў. – Мінск: Права і эканоміка, 2005. – 200 с.

7. Падокшын, С.А. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры / С.А. Падокшын. – Мінск: Бел. навука, 2003. – 316 с.
8. Саверчанка, І.В. Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI – XVII стст. / І.В. Саверчанка. – Мінск: Беларус. навука, 2012. – 463 с.

## §8. ПАДРЫХТОЎКА ДЗЯРЖАЎНЫХ І ЮРЫДЫЧНЫХ ДАКУМЕНТАЎ У XVI ст.

**8.1.** Акт аб уніі Літвы з Польшчай: дзве рэдакцыі аднаго дакумента.
**8.2.** Кадыфікацыя права, або Тры рэдакцыі Статута.

**Акт аб уніі Літвы з Польшчай: дзве рэдакцыі аднаго дакумента.** Згадваючы "самазабойчы" Люблінскі сойм 1569 г., вядомы расійскі гісторык М.Каяловіч адзначаў: "Нам давядзецца адлюстраваць малюнак жорсткага гвалту з аднаго боку і ганебнага прыніжэння – з другога. Не цяжка здагадацца, што прыніжэнне тут выпала на долю літвінаў, а гвалт – гэта справа палякаў" [35, с. 22]. М. Каяловіч сцвярджае перадусім тое, што "Люблінскі сойм збіраўся пры абставінах самых неспрыяльных для Літвы. Вайна павінна была разгарэцца па ўсёй усходняй мяжы Княства" [35, с. 23]. Іншае бачанне вытокаў Люблінскага сойма ў польскіх гісторыкаў і пісьменнікаў. Так, Ю. Клячко ("Aneksja w dawnej Polsce") адзначае, што па сутнасці Літва ўжо была аб'яднана з Польшчай дзякуючы дынастайнай уніі. Жыгімонт ІІ Аўгуст толькі завяршыў справу Ягайлы. Сакратар караля Ян Салікоўскі ў вядомай "Размове Бацькі з сынам" таксама на пытанне, "што будзе пасля Уніі", адказаў: "Ja̗ko dawno, iedno chytrzé" / "Як і раней, толькі хітрэй". Насуперак М. Каяловічу, палякі перакананы ў тым, што унія Літвы з Польшчай – гэта заканамерны, натуральны працэс, вітаны абодвума народамі:

| | |
|---|---|
| Sercem jest zacne Księstwo,<br>Głową ona Korona,<br>Związek piękny, gdy głowa<br>z sercem zjednoczona. | Сэрца – гэта слаўнае Княства,<br>Галава – наша Карона,<br>Добрае сяброўства, калі галава<br>з сэрцам злучона. |

**(Якуб Тэадор Трэмбіцкі, "На унію Кароны з Літвой")**

Працэс падрыхтоўкі (рэдагавання) юрыдычнага дакумента – акта аб злучэнні Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага – праходзіў у напружанай барацьбе. Кіраўнікамі літвінаў на Люблінскім сойме былі віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Руды і канцлер Астафій Ва-

ловіч. “На досвітку” сойма, які распачаўся 10 студзеня 1569 г., Жыгімонт II Аўгуст абяцаў захоўваць цэласнасць Літвы і не аддаваць “загранічнікам” пасады ў Княстве. Аднак у працэсе дыскусій вытлумачылася пазіцыя палякаў, агучыў якую кракаўскі біскуп Паднеўскі. Ён заўважыў, што “Літву Кароне падараваў Ягайла, і што яна была асобным краем толькі з ласкі польскіх каралёў”. На што прысутны на сойме Ян Хадкевіч адказаў: “Калі мы вам падараваныя, чаму ж з намі раіцеся наконт уніі?”.

Пасля такіх перапалак з абодвух бакоў літвіны атрымалі ад палякаў іх рукапісны варыянт уніі (першай рэдакцыя Акта). Па словах М. Каяловіча, у гэтым дакуменце палякі патрабавалі:

1. Безумоўнага аб’яднання Вялікага Княства з Каралеўствам у адну дзяржаву і адзін народ.

2. Скасавання асобнага выбрання караля і вялікага князя, скасавання асобных соймаў, асобных пячатак і грошай.

3. Да Каралеўства павінны былі адысці Падляшша і Валынь [35, с. 32].

“Літвіны былі незвычайна разгневаныя гэтым польскім праектам уніі. Дарма мы згубілі грошы на тое, каб прыехаць сюды, казалі яны, нам прапануюць рабства” [35, с. 32]. Прадстаўнікі Вялікага Княства запатрабавалі ад караля дазволіць ім прадставіць уласны праект уніі. Жыгімонт II Аўгуст пайшоў літвінам насустрач.

Праз тры дні прадстаўнікі Княства падалі праект акта Люблінскай уніі 1569 г. Яны не выказвалі пярэчанняў адносна “брацкага саюзу” з Польшчай, аднак польскі варыянт добра адрэдагавалі:

1. Выбранне караля павінна быць аднолькава свабодным як у Польшчы, так і на Літве. Караля, выбранага ў Польшчы, Літва выбірае вялікім князем. Пакуль гэтага не адбудзецца, улады на Літве ён мець не павінен.

2. Супольнымі маюць быць: абарона ад знешняга ворага і надзвычайныя соймы. Апошнія павінны быць сумеснымі толькі ў тым выпадку, калі гутарка вядзецца пра справы абедзвюх дзяржаў.

3. За скарбам Літвы павінен сачыць літвін, а не паляк.

4. Чыноўнікамі ў Княстве павінны быць толькі людзі мясцовага паходжання.

5. Польшча павінна гарантаваць цэласнасць Вялікага Княства Літоўскага.

Такім чынам, **літвіны ў сваёй рэдакцыі акта Люблінскай уніі намагаліся захаваць палітычны і фінансавы суверэнітэт Княства**. Вось што пасля прачытання гэтага літоўскага праекта сказалі палякі:

*“Паны літоўскія, парушыўшы ўсе без выключэння прысягі сваіх продкаў і ўсе прывілеі сваіх гаспадароў, прадставілі дзеля смеху народу*

*польскаму нейкую новую грамату аб уніі, якая супярэчыць усім старажытным актам і самому прынцыпу братэрскай любасці. Такую унію мы можам мець не толькі з любым далёкім народам, але і з самымі што ні на ёсць нехрысцямі".*

Зразумела, што "караняжы" прымаць такую рэдакцыю акта адмовіліся і пачалі ціснуць на караля. Той некалькі разоў запрашаў літвінаў да сябе і пераконваў іх не пярэчыць. Аднак літвіны катэгарычна адмаўляліся засядаць разам з палякамі на пасяджэнні сойма. "Літвіны ўжо добра ўсвядомілі тое, што нічога зрабіць нельга, што прыехалі яны ў Люблін дарма, а да ўсяго яшчэ пашырыліся паміж імі чуткі, − нібыта заставацца ім тут небяспечна. Яны яскрава бачылі, што іх падводзяць не тое што да асабістай смерці, але да народнага гістарычнага самазабойства" [35, с. 36].

Жыгімонт ІІ Аўгуст мусіў 28 лютага 1569 г. загадаць літвінам вярнуцца на пасяджэнне. Аднак у згаданы дзень палякі так і не здолелі дачакацца літвінаў: уночы амаль усе яны пакінулі Люблін, а прыехаўшы дадому, даводзіць М. Каяловіч, пачалі спешна рыхтавацца да вайны з Польшчай. На што раззлаваныя палякі адказалі "анексіяй літоўскіх правінцый". Пры гэтым па адной з версій прадстаўнікі гэтых правінцый мусілі прысягнуць Кароне, па другой − самі таго жадалі. Вось як гэтыя падзеі апісаў прысутны на сойме беларускі шляхціц Фёдар Еўлашоўскі ("Дыярыуш"):

*"Року 68 по сойме Кгороденском и по зезде воинском ехал Король Его Милость до Люблина для сконченя унеи. Откуль року 69 на друкгей недели Посту Великого панове сэнаторове литэвсцы, бачечи веле речей собе противных, отехали были з Люблина. (Пасля чаго. − В.Е.) <...> земля Киевская, Волынская и Подляшская до Коруны присужоны и списами прилучоны были не за раз, але зособна, по еднэй земи от Литвы урываючи, яко святча привилия им даные. В подляшском − найперворша дата, албо снадней одэрване, марца пятого. Затым у Волынскей земе − двадцать шостого дня мая. А Киевска земя трохе се далей затримала была, аж ей привилей выдано шостого дня чирвца"* [2, с. 487].

Пасля ўсіх "далучэнняў" Вялікае Княства зменшылася да этнічных тэрыторый беларусаў і літоўцаў. 6 чэрвеня 1569 г. літвіны вярнуліся на сойм, каб пратэставаць, але зрабіць штосьці ўжо было дужа складана. "Пасля страты буйных, заселеных вялікай колькасцю людзей земляў дэпутаты з Літвы адчувалі сябе куды слабей і не маглі адважыцца на адкрытую бойку з палякамі". Усё, што здолелі, − прасіць караля не крыўдзіць Літву ды, як пісаў М.Каяловіч, "саступілі брацкай любасці". Параіўшыся, яны згадзіліся з польскай рэдакцыяй уніі (з невялікімі папраўкамі).

30 чэрвеня палякі аб'явілі аб тым, што літвіны на ўсё далі згоду. У люблінскіх касцёлах адбылася ўрачыстая імша. 1 ліпеня на сойме быў зацверджаны акт у сваёй канчатковай рэдакцыі. Пасля прысягі літвіны ціха з'ехалі, пакінуўшы двух пісараў з канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага – паноў Гарабурду і Войну. Потым у Каралеўстве Польскім са смехам паўтаралі прыкры для Літвы жарт, запісаны Янам Каханоўскім:

| | |
|---|---|
| Litwa z name uniją uczyniła strojną, | Літва з намі унію ўчыніла стройную |
| Uciekli, zostawiwszy | Самі паўцяклі, пакінулі толькі |
| Haraburdę z Wojną. | Гарабурду з Войнаю. |

Палякі чыталі апошні радок наступным чынам: <...> літвіны пакінулі па сабе толькі **бурду і вайну** (замест Гарабурду і Войну). У гісторыі Рэчы Паспалітай гэты жарт быў прарочым. Ні Жыгімонт ІІ Аўгуст, ні яго наступнікі так і не адважыліся літаральна выконваць патрабаванні уніі. Трэці Статут 1588 г. яе многія палажэнні скасоўваў, а грамадзянская вайна паміж літвінамі і русінамі з аднаго боку і палякамі з другога па сутнасці справакавала "вайну дамовую" ў XVII ст. і палітычную смерць Рэчы Паспалітай у XVIII ст. Аднак гэта была перспектыва. Пакуль жа пісары вялікакняжацкай канцылярыі "Гарабурда з Войнаю" мусілі капіраваць польскую рэдакцыю Акта 1569 г., у якім між іншым было сказана:

| | |
|---|---|
| Już Korona Polska i | Ужо Каралеўства Польскае і |
| Wielkie Xięstwo Litewskie | Вялікае Княства Літоўскае |
| jest jedno nierozdzielne i | ёсць адно нераздзельнае і |
| nierożne ciało, a także nierożna, | неад'емнае цела, а таксама неад'емная, |
| ale jedna spolna Rzeczpospolita, | але адна цэлая Рэч Паспалітая, |
| która się ze dwu Panstw y | якая з дзвюх Дзяржаў і |
| Narodow w jeden lud zniosła | Народаў адзін народ стварыла. |

**Кадыфікацыя права, або Тры рэдакцыі Статута Вялікага Княства Літоўскага.** Меркаванні навукоўцаў разыходзяцца: адны лічаць, што тры рэдакцыі Статута – гэта эвалюцыя аднаго і таго ж тэксту, другія даводзяць, што тры рэдакцыі – гэта тры розныя помнікі права.

**Першая рэдакцыя.** На сойме 1514 г. было ўпершыню ўзнята пытанне аб выданні Статута Вялікага Княства Літоўскага. Адпаведны прывілей падпісаў Жыгімонт І Стары 6 снежня 1522 г. Распрацоўвала рукапіс Першага Статута камісія на чале з канцлерам Княства **А. Гаштольдам**. Існуе думка, што ў працы гэтай камісіі прымаў удзел Ф. Скарына. Аснова для першай рэдакцыі:

1 Нормы мясцовага звычаёвага права.

2 Пастановы судовых і дзяржаўных устаноў ВКЛ.

3 Судзебнік 1468 г.

Пры падрыхтоўцы Статута ўпершыню выпрацаваны сістэма і структура размяшчэння прававых норм у залежнасці ад іх зместу, уключаны тыповыя і абагульненыя нормы, дадзена дакладная рэдакцыя кожнага артыкула.

Можна меркаваць, што кароль меў ужо падрыхтаваны варыянт рукапісу, аднак Статут так і не быў надрукаваны. Адна з магчымых прычын – закрыццё віленскай друкарні Ф. Скарыны. Пасля другой праўкі і канчатковага рэдагавання Віленскі сойм у 1529 г. канчаткова зацвердзіў статут і зрабіў яго абавязковым кодэксам пісанага права для ўсяго Вялікага Княства Літоўскага. Рэдакцыя Статута 1529 г. – гэта XIII раздзелаў і 264 артыкулы: 1 – 3 раздзелы ўключалі дзяржаўнае права, 4 – 5 – шлюбна-сямейнае і апякунскае права, 6 – судова-працэсуальнае, 7 – крымінальнае, 8 – зямельнае, 9 – лясное і паляўнічае, 10 – цывільнае, 11 – 13 – крымінальнае і крымінальна-працэсуальнае права.

Складзены Першы Статут на старабеларускай мове, існуюць пераклады на лацінскую (1530) і польскую (1532) мовы.

Ужо на Брэсцкім сойме 1544 г. было абвешчана пра неабходнасць выправіць і надрукаваць добра адрэдагаваны Статут. На Віленскім сойме 1551 г. дэпутаты зноў звярнуліся з просьбай аб выпраўленні Статута, на што Жыгімонт II Аўгуст адказаў:

Ён *“будет рачыл росказати оный Статут выдруковати и битым писмом выбити, абы вси вжо одностайное и неотъменъное право свое посполитое ведали и вунътъпенья никаторого в ним не мели”* [16, с. 154].

Праблема была найперш у тым, што рэдакцыя 1529 г. не адпавядала гістарычным рэаліям. Перадусім літвінская шляхта набыла цэлы шэраг новых правоў, замацаваных за ёю прывілеямі. Так, напрыклад, соймам 1559 г. было зацверджана права вывазу за мяжу тавараў, якія былі выраблены ва ўласных маёнтках шляхты. На соймах 1564, 1565 і 1566 гг. шляхта дабіваецца роўнасці ў правах судовых з панамі (магнатамі. – В.Е.) і права збірацца на соймікі па паветах для абрання сваіх паслоў на Вялікі вальны сойм і для вырашэння іншых спраў. Вынікам гэтых змен з’явіўся Статут 1566 г., зацверджаны на Вялікім вальным сойме ў Вільні.

**Другая рэдакцыя.** Статут 1566 г. рыхтавала камісія на чале з канцлерам М. Радзівілам Чорным і пры ўдзеле будучага канцлера Астафія Валовіча. Дакумент мае XIV раздзелаў, якія падзелены на 366 артыкулаў. У асноўным структура Другога Статута мала адрозніваецца ад яго першай рэдакцыі. Аднак былі ўнесены змены ў судова-працэсуальнае і цывільнае права. Былі сцверджаны:

1. Дзяржаўны суверэнітэт Вялікага Княства Літоўскага.
2. Абмежавана ўлада вялікага князя (гаспадара).

3. Прыярытэт пісанага права.

4. Намячалася аддзяленне суда ад органаў улады і кіравання.

Другая рэдакцыя мае аднастайную юрыдычную тэрміналогію на беларускай мове.

Другі Статут разышоўся па ўсім Вялікім Княстве, аднак надрукаваны ў межах Беларуска-Літоўскай дзяржавы так і не быў. Зноў дзве прычыны: з аднаго боку, шляхта была не задаволена новай рэдакцыяй Статута, патрабавала дапрацоўкі, з другога боку – не было дзе друкаваць. Адзіныя друкарні (Брэсцкая і Нясвіжская), якія маглі задаволіць попыт на Статут, належалі пратэстанту Радзівілу. Аддаваць важнейшы дакумент у рукі "недаверка" ніхто не жадаў. Статут капіравалі пісары канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага.

**Трэцяя рэдакцыя.** Для складання Трэцяга Статута на Люблінскім сойме 1569 г. была створана рэдакцыйная камісія ў складзе 14 асоб, якія прадстаўлялі Княства ў яго новых межах (за выключэннем адарваных Каралеўствам земляў). Членамі камісіі былі:

1. Віленскі біскуп Валяр'ян Пратасевіч;
2. Жамойцкі кашталян Мільхіёр Шэмет;
3. Стольнік Вялікага Княства Літоўскага Мікола Дарагастайскі;
4. Князь Лукаш Свірскі;
5. Шляхціц Ян Стэцкевіч;
6. Шляхціц Бенедыкт Юрага;
7. Князь Павел Сакалінскі;
8. Юрыст, віленскі войт Аўгусцін Ратондус[28] і інш.

Кіравалі камісіяй канцлер Вялікага Княства Літоўскага **А. Валовіч**, падканцлер **Л. Сапега**. Праца над трэцяй рэдакцыяй праходзіла ў надзвычай неспрыяльных умовах. Перадусім супрацьдзейнічалі прыняццю гэтага зводу законаў палякі. Толькі ў часы бескаралеўя 1586 – 1587 гг. Княству ўдалося вырваць з рук польскіх паноў згоду на зацвярджэнне Статута каралём 28 студзеня 1588 г. Такое "польскае пярэчанне" выклікана было найперш тым, што рэдакцыя 1588 г. папраўляла пастановы Люблінскай уніі, а некаторыя з артыкулаў і зусім скасоўвала. Перадусім **раздзел III, арт.12 даводзіў:**

*Мы, господар, обецуем и шлюбуем под присегою нашою, которую учинили есмо Великому Князству Литовскому, и всим станом обывателем его... штож в том паньстве Великом Князстве Литовском и во всих землях ему прислухаючих достойностей духовных и светских, городов,*

[28] Заўвага – Аўгусцін Ратондус (1520 – 1582 гг.) – спачатку пісар каронная канцылярыі, затым – вялікакняжацкай. Сойм ВКЛ 1565 – 66 гг. даручыў Р. працу над падрыхтоўкай Статута 1566, за паспяховае выкананне якой у 1568 г. Р. быў набілітаваны. Пераклаў на лацінскую мову Другі Статут для караля Стэфана Баторыя.

*дворов, кгрунтов, старостов, держав, врядов земских и дворных, посесый або в держанье и поживанье и вечностей жадных чужоземцом и заграничником, а ни суседом того паньства давати не маем, але то все мы и потомки наши великие князи Литовские давати будем повинни только литве, руси, жомойти, родичом старожытным и уроженцом Великого Князства Литовского и иных земль тому великому князству належачих.*

Статут у чарговы раз забараняў палякам набываць землі і валодаць імі ў межах Княства. Таксама ў якасці афіцыйнай мовы (канцылярскай) зацвярджалася мова "руская": "А писар земский маеть по руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншым языком словы" **(раздзел IV, арт. 1).** Аднак самае галоўнае − Трэці Статут дэклараваў вяртанне Княству ваяводстваў, якія адышлі Каралеўству Польскаму па выніках Люблінскай уніі: "Мы, гаспадар, абяцаем павялічваць Вялікае Княства Літоўскае і, што было забрана і адышло, зноў да яго далучыць (III, арт. IV, [64, с. 44]).

Трэці Статут − гэта...

1. Нормы дзяржаўнага (канстытуцыйнага) права, "чаго на той час не было ў заканадаўчай практыцы іншых еўрапейскіх дзяржаў" [64, с. 11].

2. Тэорыя падзелу ўлады на заканадаўчую (сойм), выканаўчую (вялікі князь, адміністрацыя) і судовую (Трыбунал ВКЛ, земскія і падкаморскія суды).

3. XIV раздзелаў і 488 артыкулаў.

4. Дэкларaваныя талерантнасць і верацярпімасць.

5. Сцверджаныя заканадаўча: уласныя дзяржаўныя ўстановы, уласная армія, эканоміка і фінансы.

6. Улада вялікага князя, абмежаваная соймам.

Пра тое, што Статуты 1529, 1566 і 1588 гг., − гэта ўсё ж не розныя помнікі права, а розныя рэдакцыі аднаго і таго ж дакумента, сведчаць артыкулы, прысвечаныя землеўладанню. Статут 1529 г. сцвярджаў, што дзеці не могуць быць пазбаўлены спадчыны пасля сваіх бацькоў, калі толькі апошнія не зрабілі злачынстваў дзяржаўнага характару. Праўда, ёсць і выключэнні... Напрыклад, дзяўчына, якая выйшла замуж за чужаземца, траціць сваё права валодання "атчызнымі і мацярыстымі" землямі. Не мае яна права і на пасаг. Тое ж сама датычыцца і той дзяўчыны, якая выйшла замуж без ведама бацькоў. Статут 1566 г. у прынцыпе зацвярджае гэтыя ж самыя палажэнні, аднак ужо не адмаўляе дзяўчыне, якая выйшла замуж за "заграпічніка", права на ўладанне нерухомасцю.

Статут патрабуе толькі, "иж бы которыи колвек, оселый и неоселый оженился в Литве и побрал по жене именья", у выпадку "войны і каждое

потребності Велікого Князства Літовского”, быў абавязаны адбываць з тых маёмасцяў вайсковую службу, не адмаўляючыся тым, што яму жонка тае маёмасці не запісала. У выпадку, калі запатрабаванне гэтае ім будзе парушана, то тады ён і яго жонка “тратят тые именья”.

Пункт погляду рэдактараў Першага Статута адносна таго, што дзяўчына, якая пажадае выйсці замуж без ведама бацькоў, траціць права на наследаванне, падзяляецца і ў другой рэдакцыі. Варта яшчэ дадаць тое, што калі Першы Статут абмяжоўваўся агульнымі правіламі, то ўжо на змест другой рэдакцыі ўплывалі рознага кшталту казусы з судовай практыкі. Так, было прапісана, што ў тым выпадку, калі шляхцянка выходзіць замуж за простага чалавека, яна аддаляецца ад усёй маёмасці, якая пераходзіць да сваякоў. Таксама паводле Статута 1566 г. бацька мог пазбавіць сваіх дзяцей маёмасці ў выпадках: калі сын “кгвалтовне руку поднесёт на родичов”, калі сын учыніць “значную кривду” свайму бацьку, калі дзяўчына, не выйшаўшы замуж, нягледзячы на тое, што кроўныя не чынілі ёй у гэтым ніякіх перашкод, вядзе непачцівым спосабам жыццё, а хаця дасягнула 25 гадоў і інш.

Трэці Статут не менш катэгарычны ў дачыненні да “дзевак, якія без згоды бацькоў замуж пайшлі” (V, 8):

*“Дзе б якая дзеўка без волі бацькавай і матчынай ішла замуж, тая траціць пасаг і маёнтак вотчынны і мацярынскі, таксама і спадчынны. А калі б адна ў бацькі была, тады вотчына і мацярызна да блізкіх пераходзіць міма такой дзеўкі самой і таксама дзяцей, нашчадкаў яе*”[64, с. 112].

**Асаблівасці выдання Трэцяга Статута.** Калі Першы і Другі Статуты так і не былі надрукаваны ў межах Княства, лёс Трэцяга Статута куды лепшы. Адразу ж пасля зацвярджэння ён быў надрукаваны кірыліцай на “рускай” мове. На выпуск першага друкаванага выдання былі дадзеныя два прывілеі – дзяржаўнаму канцлеру Льву Сапегу і друкарні Мамонічаў. З’яўлял-



**Мал. 17.** Ілюстрацыя да выдання Мамонічаў (Статут, 1588 г.)

іся асобнікі Статута 1588 г., перапісаныя ад рукі. Самы ранні такі асобнік датаваны 1589 г. У 1614 г. Мамонічы зноў надрукавалі Статут, але ўжо на польскай мове. “Выдаўцы надалі кнізе прыгожы і ўрачысты выгляд. Акрамя гатычнага шрыфту гэтай мэце служылі гравюры-ілюстрацыі: партрэт Жыгімонта I, дзяржаўны герб “Пагоня” і малюнак, на якім паказана пасяджэнне сойма” [64, с. 156].

Адказным за выданне Трэцяга Статута Жыгімонт Ваза прызначыў Льва Сапегу. Менавіта гэты магнат і ўплывовы палітык ахвяраваў на выданне ўласныя сродкі. 12 ліпеня 1588 г. у лісце да К.М. Радзівіла Сапега паведамляў:

*“Статут новы загадаў ужо друкаваць па-руску, хацеў бы яго выдаць і па-польску, аднак, калі б давялося яго перакладаць літаральна, паводле рускіх словаў і сентэнцыяў, то атрымалася б вельмі блага”.*

Адкрывае Статут “Прывілей на выключнае права Льва Сапегі выдаваць Статут”. Жыгімонт III адзначае: “<...> яму ж, шляхетнейшаму Льву Сапегу, мы вырашылі даручыць клопаты друкавання і выдання законаў і статутаў Вялікага Княства Літоўскага. Пасля гэтага дакумента друкуецца другі прывілей – “Аб зацвярджэнні Статута, падпісаны 28 студзеня 1588 года”. Кароль Рэчы Паспалітай абяцае не толькі захоўваць правы, вольнасці і свабоды палякаў і літвінаў, але і “як можна больш прымнажаць, справядлівасць і абарону ажыццяўляць” [64, с. 14]. Услед двум прывілеям выдаўцы змясцілі “Прысвячэнне Жыгімонту III”, падпісанае “найніжэйшым слугою і верным падданым Львом Сапегам” і датаванае 1 снежня 1588 г. Звяртаючыся да манарха, падканцлер Вялікага Княства Літоўскага даводзіў: там дзікі звер уладарыць, “дзе чалавек па свайму меркаванню ўладу сваю ажыццяўляе, а дзе зноў права або Статут верх мае, там сам Бог усім валодае” [64, с. 14]. Уступную частку выдання рэдакцыі 1588 г. завяршаюць “Панегірык гербу Льва Сапегі” (Андрэй Рымша) і “Зварот да ўсіх саслоўяў Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі”. Калі першы твор належыць выключна мастацкай літаратуры, другі з’яўляецца ўзорам палітычнага красамоўства:

*“Як адзін сенатар рымскі іншага штрафаваў, што правоў айчыны сваёй не ведаў, так кожны жыхар заслугоўвае ганьбавання, каторы свабодай выхваляецца, а правоў умець і разумець не хоча, каторым правам усю свабоду сваю абароненую мае. А калі якому народу сорамна права свайго не ведаць, асабліва нам, якія не чужой якой мовай, але сваёй уласнай правы запісаныя маем”* **(падканцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега)** [64, с. 16].

**Вывады па 8 параграфе:**

1. Пры заключэнні Люблінскай уніі 1569 г. былі прадстаўлены літвінская і польская рэдакцыі аднаго і таго ж юрыдычнага дакумента, які ўстанаўліваў прынцыпы аб'яднання дзвюх дзяржаў. Рэдакцыя, распрацаваная пад кіраўніцтвам Мікалая Радзівіла Рудога і Астафія Валовіча, захоўвала палітычную і эканамічную незалежнасць Княства ва ўмовах саюзнай дзяржавы Рэчы Паспалітай абодвух народаў.
2. Нягледзячы на пярэчанні з боку літвінаў, Жыгімонт II Аўгуст амаль без змяненняў зацвердзіў польскую рэдакцыю, якая, аднак, не ўспрымалася ў ВКЛ як канчатковая. Многія палажэнні Люблінскай уніі скасоўваў ужо Трэці Статут 1588 г.
3. Тры рэдакцыі Статута адлюстроўваюць тры этапы фарміравання прававой культуры Вялікага Княства Літоўскага ў перыяд Адраджэння. На першым этапе (рэдакцыя А.Гаштольда) важна было выпрацаваць сістэму і структуру заканадаўства, стварыць абагульненыя нормы, якія ў наступных рэдакцыях мусілі канкрэтызавацца і ўдакладняцца.
4. Другая рэдакцыя (Радзівілаўская) − гэта ўдакладненне і канкрэтызацыя заканадаўчых норм, прапісаных у Першым Статуце. Дапрацоўка адбывалася з улікам судовай практыкі тых юрыстаў, якія ўваходзілі ў камісію пры Мікалаю Радзівіле Чорным (Аўгусцін Ратондус).
5. Трэцяя рэдакцыя Статута (Сапегаўская) − гэта не толькі ўдасканаленае, дапрацаванае шлюбна-сямейнае, апякунскае, судова-працэсуальнае, крымінальнае, зямельнае і інш. права, але і адно з першых у Еўропе дзяржаўнае права, якое замацоўвала суверэнітэт Княства, яго цэласнасць, прынцыпы функцыянавання ўсіх галін улады і інш.

**Пытанні для самападрыхтоўкі:**

1. У якіх умовах адбывалася абмеркаванне праекта Люблінскай уніі 1569 г. У чым прынцыповая розніца паміж польскай і літоўскай рэдакцыямі акта Люблінскай уніі?
2. У чым спецыфіка першай рэдакцыі Статута Вялікага Княства Літоўскага? Дзе і калі яна была зацверджана?
3. Чым адрозніваюцца першая і другая рэдакцыі Статута Вялікага Княства Літоўскага?
4. У чым асаблівасці шлюбна-сямейнага і спадчыннага права паводле трох рэдакцый Статута ВКЛ?

**Пытанні для дыскусіі:**

1. Як вы лічыце, ці былі ў Вялікага Княства Літоўскага шанцы зацвердзіць сваю рэдакцыю акта аб аб'яднанні з Каралеўствам Польскім на Люблінскім сойме 1569 г.
2. Чаму, на вашу думку, ні Першы, ні Другі Статуты так і не былі надрукаваны ў межах Вялікага Княства Літоўскага?
3. Ці можна лічыць трэцюю рэдакцыю Статута скасаваннем акта Люблінскай уніі 1569 г.?

**Рэкамендаваныя тэмы для рэфератыўных паведамленняў:**

1. Люблінская унія 1569 г.: магчымыя варыянты тэксту акта аб заключэнні уніі.
2. Першая рэдакцыя Статута Вялікага Княства Літоўскага як помнік старажытнага права.
3. Другая рэдакцыя Статута Вялікага Княства Літоўскага: крымінальнае права.
4. Трэцяя рэдакцыя Статута Вялікага Княства Літоўскага: аб гвалтах, пабоях, галоўшчынах шляхецкіх.

**Літаратура:**


1. Бардах, Ю. Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага / Ю. Бардах; пер. М.Раманоўскага і А.Істоміна; прадм. Г. Сагановіча. – Мінск, 2002. – 459 с.
2. Булыка, А.М. Красамоўства ў Беларусі: хрэстэматыя / А.М. Булыка, Л.М. Мінакова, А.А. Станкевіч. – Мінск: Універсітэцкае, 2002. – 181 с.
3. Вялікае княства Літоўскае : энцыклапедыя: у 2 т. – Т. 1–2 / рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; маст. З.Э. Герасімовіч. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2007. – 688 с.
4. Камінскі, А.С. Рэспубліка супраць Аўтакратыі: Рэч Паспалітая і Расія ў 1686 – 1697 гадах / Анджэй Суліма Камінскі; пер. з англ. А. Мартынаў. – Мінск: Логвінаў, 2009. – 350 с.
5. Коялович, М. Люблинская унія, или Последнее соединеніе Литовскаго княжества съ Польскимъ королевствомъ на Люблинскомъ сейме въ 1569 году / М. Коялович. – Санктпетербургъ: Изданіе рудакціи газеты – Русскій Инвалидъ, 1863. – 87 с.
6. Коялович, М. Литовская церковная унія / М.Коялович. – Санктпетербургъ: въ типографіи духовнаго журнала «Странникъ», 1861. – 442 с.
7. Латышонак, А. Нацыянальнасць – Беларус / А. Латышонак. – Мінск: Інстытут беларусістыкі, Беларускае гістарычнае таварыства, 2009. –558 с.
8. Пічэта, У. Зямельнае права ў Статутах / У. Пічэта // Гістарыяграфія 1920-х: Сярэднявечча і раньнемадэрны час. – Мінск: ARCHE 7 (82), 2009. – С. 907–920.
9. Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI – XVIII стст. / НАН Беларусі. Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; уклад., прадм. і камент. А.У. Бразгунова. – Мінск: Беларус. навука, 2011. – 901 с.

10. Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 / пер. на бел. мову А.С. Шагун. – Мінск: Беларусь, 2005. – 207 с.
11. Ючас, М. Грунвальдская бітва / М. Ючас. – Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2010. – 243 с.

# §9. РЭДАГАВАННЕ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVII ст.

**9.1.** Навіны сеймавыя, рэляцыі: тэматычная разнастайнасць.
**9.2.** “W Drukarni Akademiey Societatis Jesu”.
**9.3.** Віленскае праваслаўнае брацтва і друкарня пры манастыры Св. Троіцы.
**9.4.** Выданні віленскіх базыльян.

**Навіны сеймавыя, рэляцыі: тэматычная разнастайнасць.** Да гістарычных крыніц мяжы XVI – XVII стст. навукоўцы адносяць выданні інфармацыйнага зместу (навіны, апісанні, рэляцыі). Польскі даследчык Міхал Вішнеўскі ў сувязі з гэтым адзначае: “Праз сто год пасля вынаходніцтва друку бягучыя падзеі, выпадкі і навіны пачалі занатоўвацца і выдавацца. <...>. Падчас надзвычайных здарэнняў, а менавіта войнаў, выпускаліся рознага роду апісанні. У Італіі і Германіі XVI ст. падобныя выданні называліся “газета”. <...> Адна з такіх газет, маючы 4 старонкі, датуецца 1515 г. і паведамляе пра сустрэчу ў Венецыі цэзара Максіміліяна з Жыгімонтам I, каралём польскім, а таксама з каралямі Уладзіславам Венгерскім і Людвікам Чэшскім” [94, с. 44].

Гэта першая згадка пра гаспадара Каралеўства і Княства ў выданні, якое выконвала выключна інфармацыйную функцыю (з’яўлялася правобразам сучасных друкаваных СМІ). Цікава, што нямецкія “газетчыкі” паведамлялі не толькі пра з’езд манархаў, але і пра балі, турніры, падарункі, якія каралі адзін другому прэзентавалі.

Аналізуючы эпоху “жыгімонтаў”, М. Вішнеўскі згадвае, па-першае, пра ананімныя лісткі, якія “хадзілі па краі” і называліся “навінкі” або “сеймавыя навінкі” (“nowinki”, “a drudzy to zowią sejmowemi nowinkami”): “Калі бяда якая здарыцца, то найхутчэй пра яе паведамяць “навінкі”, хоць, часам, і схлусяць”. Па-другое, М. Вішнеўскі падае звесткі пра “перасоўныя друкарні”, якія ў канцы XVI ст. знаходзіліся або ў Кракаве (пры двары), або ў абозе гетманскага ці каралеўскага войска. Друкавалі яны “на ляту схопленыя звесткі пра актуальныя падзеі”. Называліся гэтыя выданні “навіны”, “рэляцыі” або “апісанні”. Некаторыя з іх мелі непасрэднае дачыненне да Беларусі.

**Першая надрукаваная рэляцыя датуецца 1557 г.** Невядомы аўтар паведамляе аб дамоўленасцях паміж Рымскім Папам і цэзарам, а такса-

ма аб “новым і вартым здзіўлення паражэнні турак”. У “Люблінскіх навінах” ад 1567 г., пажадаўшы застацца невядомым, “грамадзянін Каралеўства” даводзіць тое, што “аб’яднанне з Польшчаю Літва павінна лічыць вялікім для сябе шчасцем”. “Узялі мы мужыка простага Ягайлу і зрабілі з яго караля, далі яму высакародную каралеву. <...> Падаравалі продкі нашы Літве свабоду, бо касілі літвіны сена і былі рабамі ў паноў сваіх”. У “навінах праўдзівых” ад 1579 г. (Прага, друкарня Міхала Петрла / Michała Petrle) паведамляецца пра тое, што “ўжо ўзяты знакаміты замак Полацк, які знаходзіцца на літоўскім памежжы”.

Крыху раней, у 1563 г. (Прага, Стары горад, у друкара Себасцьяна Окса / “w starem Meste Prazskem u Sebestyana Oksa” ), з’явіліся “навіны грозныя, жахлівыя і жалобныя” / “nowiny hrozne strasliwe y zalostliwe”. У іх распавядалася пра тое, як “Вялікі Князь Маскоўскі са зброяй на зямлю літоўскую падступна ўварваўся; палячы ўсё на сваім шляху і забіваючы людзей, бессаромна і не зважаючы на хрысціянскую міласэрнасць гарады і замкі здабыў і вялікую шкоду ўчыніў” [94, с. 46]. У пражскім Старым горадзе друкуюцца навіны і ў наступным, 1564 г., называюцца яны “важныя навіны з зямлі Літоўскай”.

Кароль Стэфан Баторы, будучы ў маскоўскім паходзе, кіраваў дзяржавай на адлегласці. Часта выкарыстоўваў з гэтай мэтай магчымасці друкарні. Вядомыя яго эдыкты: лацінамоўны, падрыхтаваны кіраўніком паходнай друкарні В.Лапчынскім у полацкім замку (жнівень 1579 г.), а таксама польскамоўны – выдадзены ў абозе пад Вялікімі Лукамі (1580). Іх манарх загадваў, акрамя ўсяго іншага, чытаць у касцёлах. Сярод папер, эпісталярыя Стэфана Баторыя, а таксама яго загадаў, апублікаваных Эдвардам Рачыньскім (Варшава, 1830 г.), ёсць некалькі дакументаў, якія былі падрыхтаваны менавіта ў паходзе[29]. Адзін з іх называецца “Артыкулы вайсковыя па загаду Яго Каралеўскай Мосці агалошаныя”. Гэты дакумент рэгламентуе парадак службы салдат, якія знаходзяцца ў вайсковым абозе [87, с. 85]. Працытуем найбольш красамоўны, на наш погляд, артыкул пад № 5:

*Калі б хто ў абозе або падчас паходу сварку распачаў, пакараны судом Яго Каралеўскай Мосці будзе; калі б хто іншага забіў, на горла* (на смерць. – В.Е.) *будзе асуджаны; калі б хто меч на іншага ўзняў – руку той страціць”.*

[29] Заўвага – сярод дакументаў, апублікаваных Э. Рачыньскім, знаходзіцца інструкцыя аб арганізацыі пошты. Кароль даручае ўпарадкаваць гэту службу такім чынам, каб “ганцы паштовыя з Кракава да Венецыі і з Венецыі да Кракава, туды і назад едучы, 15 дзён у падарожжы знаходзіліся [87, с. 101].

Не забываліся каралеўскія друкары паведамляць палітычныя і ваенныя навіны з Францыі, Германіі, Турцыі і Італіі. Даволі часта ў рэляцыях размяшчаліся навіны з "новага свету" і, у прыватнасці, з Японіі. Напрыклад, у 1608 г. грамадзянам Рэчы Паспалітай паведамлялася аб "слаўнай смерці шасці японскіх шляхціцаў, якую яны прынялі ў імя Ісуса Хрыста". Гэта ж навіна ў тым самым годзе была накіравана ў Рым. У 1602 і 1605 гг. у "навінах" змяшчалася інфармацыя аб перамогах спачатку Караля Хадкевіча, а потым і Яна Хадкевіча ў Інфлянтах. Гэтыя "справаздачы" таксама тыражавалі каралеўскія друкары, разаслаўшы іх ва ўсе касцёлы Польшчы і Літвы.

Нягледзячы на агульную інфармацыйную разнастайнасць, геаграфічную шматвектарнасць "рэляцый", усё ж на мяжы XVI – XVII стагоддзяў асноўнай тэмай была Масква. У 1608 г. пэўны шляхціц з Літвы праінтэрв'юіраваў пасланца маскоўскага князя, распытаўшы ў яго пра тое, "што з Дзмітрыем, а таксама з палякамі ў маскоўскай сталіцы адбылося". У тым самым годзе апублікаваны "навіны з Масквы аб уступленні цара Дзмітрыя на царства, дасланыя ім пані ваяводзіне сандамірскай Мнішкавай" [94, с. 48]. Праз год "маскоўская тэма" зноў асвятляецца надзвычай актыўна. У асноўным распавядаецца аб ваенных перамогах. Часам паміж радкоў спрактыкаваны літвін мог прачытаць не вельмі прыемныя для сябе звесткі. Працытуем паведамленне, якое датуецца 1609 г.:

*Навіны з Масквы, а менавіта пра тое, як найяснейшы і непераможаны Яго Мосць Кароль Польскі, будучы з войскам у Маскве, не жадаючы, каб кроў хрысціянская па-тыранску лілася, маючы намеры выключна добрыя і нават ласкавыя, паслоў сваіх дасылае. Найперш да верных падданых абодвух народаў – як польскага, так і літоўскага, – якія спыніліся ў абозе пад Масквой. Па-другое, да масквічоў, абяцаючы захаваць ім усе іх правы, свабоды і рэлігійныя абрады, калі яны яго добраахвотна панам і абаронцам прызнаюць* [94, с. 49].

Відавочна, паслоў да пераможанага народа не дасылаюць. Чытаючы гэткія навіны, і ў Кракаве, і ў Вільні рабілі аднолькавую выснову аб тым, што вайна ўсё яшчэ працягваецца і не вядома, хто ў ёй пераможа. Праз некалькі месяцаў пасля гэтага паведамлення ў віленскай друкарні Яна Карцана рыхтуецца іншая рэляцыя "аб ваеннай выправе Караля Яго Мосці ў Маскву". Сімптаматычна тут тое, што да дзяржаўна значнай інфармацыі друкаром дадавалася: "Каб толькі тая выправа з Боскай дапамогай была шчаслівая і для Рэчы Паспалітай нашай карысная".

У 1610 г. навіны на нейкі час пераключаюцца на іншыя тэмы – у тым ліку, міжнародныя. Так, паведамляецца аб "цырымоніі каранавання Марыі Медзічы, Каралевы Французскай і Наварскай". Аднак подых вайны

ўсё ж быў дужа адчувальны, таму далейшыя матэрыялы засяроджваюцца на падзеях смаленскіх. Паходная друкарня падае “апісанне пасольства цара Дзмітрыя да Яго Мосці Гетмана і да Іх Мосцяў паноў Сенатараў, а таксама да ўсяго рыцарства, пад Смаленскам ў абозе знаходзячагася”. У 1611 г. спачатку віленская (Ян Карцан), а потым і кракаўская друкарні паведамляюць аб узяцці Смаленска войскам Жыгімонта III **(“Трыумф радасны з прычыны ўзяцця Смаленска Жыгімонтам III”)**.

Тэматыка далейшых “рэляцый” непасрэдна звязана са справамі рэлігійнымі. Адчуваецца ўдзел езуітаў як у выбары тэм, так і ў рэдагаванні друкаваных матэрыялаў. Так, у 1616 г. з’яўляюцца “навіны або двухгадовыя падзеі (1606 – 1607), што мелі адбыцца ў Японіі і Кітаі, краінах язычніцкіх, новага свету”. Адрасавана гэта рэляцыя аднаму з кіраўнікоў езуіцкага ордэна. Матэрыял ўяўляе сабой справаздачу аб місіянерскай дзейнасці двух езуіцкіх прапаведнікаў. Яшчэ адна навіна з Японіі датуецца 1625 г.: “118 пакутнікаў жахліва закатаваныя ў імя Ісуса Хрыста; забітыя мячом, агнём і вадой. Хвалы вечнай праз пакуты свае яны дасягнулі” [94, с. 52].

У 1614 г. навіны прыйшлі з Торуні, паведамлялася аб “гвалтоўным спыненні ерэтыкамі каталіцкага набажэнства”. У 1619 г. нехта Ян Зрэнчыцкі (Jan Zrenczycki) выступіў у ролі ўласнага карэспандэнта каралеўскай канцылярыі ў Чэхіі. Ён падрыхтаваў шэраг інфармацыйных паведамленняў. Так, жыхар Рэчы Паспалітай інфармуе землякоў аб каталіцка-пратэстанцкай вайне і аб тым, што “кракаўскія жыды таемна чэшскім пратэстантам даслалі 1800 злотых”. У 1620 г. з’яўляюцца “праўдзівыя навіны” аб спробе забойства караля і аб шчаслівым выратаванні апошняга.

Чым далей ад XVI ст., тым больш матэрыялаў, надрукаваных у рэляцыях, маюць аўтарства. Пры гэтым нярэдка навіны (па сутнасці карэспандэнцыі з месцаў) змяшчаюць інфармацыю сенсацыйнага характару. Так, у 1632 г. украінскі шляхціц Станіслаў Рашыньскі (Stanisław Roszyński) дасылае не зусім звычайнае паведамленне, якое друкуе каралеўскі тыпограф Ю. Расоўскі (J. Rossowski):

*Запарожскія казакі, едучы недалёка ад Белай Цэркві, пачулі на адной гары крыкі і поклічы, чым былі вельмі занепакоены, і наблізіцца да таго месца не адважваліся. Ажно некаторыя з іх насмеліліся, пад’ехалі пад гару, якая зараз жа расступілася, і струмень крыві з вадой выплыў з яе і куль нямала вывалілася. У якасці доказу гэтага здарэння ёсць у Варшаве адна куля, вылітая з нейкага клейкаватага матэрыялу, да смалы падобнага, з пахам серы. Калі па кулі ўдарыць жалезам – іскры сыпяцца”* [94, с. 53].

У 1633 г. побач з навінамі з Масквы тэкст рэляцыі змяшчае верш, які сёння варта было б залічыць у разрад рэкламных [94, с. 54]:

| | |
|---|---|
| Pytasz się o nowiny, którebyś rad słyszał | Пытаешся пра навіны, якія рад быў бы чытаць, |
| Z pod Smoleńska, proszący, aby ie kto spisał. | З-пад Смаленска, просіш, хоць што-небудзь напісаць. |
| Obiecuiąc ochotnie y drogo zapłacić, | Абяцаеш ахвотна і шмат заплаціць, |
| Nie chciey tak wiele przeto mily gosciu tracic, | Не спяшайся, мой мілы, тут многа згубіць. |
| Day za drukowe groszy 10, mile sobie czytaj. | Дай за друк 10 грошаў усяго і чытай. |
| Jeśli chcesz potym więcej w drukarni się pytay. | А захочаш – яшчэ пра навіны ў друкарні спытай. |

Навіны 1634 г. маюць міжнародны характар. Напрыклад, паведамляецца пра тое, што султан турэцкі Амурат з войскам пакінуў Канстанцінопаль і пайшоў у бок Рэчы Паспалітай. Нехта Старавольскі не забываецца заўважыць пра прычыны гэтай выправы: “<...> усё адбываецца з намовы, парады і нацкавання як лютэран, так і Цара Вялікага Маскоўскага, а таксама іншых ворагаў каталікаў”. Яшчэ адна рэляцыя, датаваная 1634 г., уяўляе сабой “навіны з Масквы” / “nowiny z Moskwy”, “альбо ўрыўкі з допісаў паноў радных зямлі Маскоўскай, у месцы сталічным, якія цару падаваліся (у допісах тых раілася заключыць мір з каралём Яго Мосцю Гаспадаром нашым міласлівым)”.

Аўтар распавядае пра тое, што маскавіты дужа напалоханы, бо Шэін, “гетман іх генеральны”, з усім абозам сваім і войскам дужа ад голаду, марозу і хвароб церпіць”. Яшчэ адна рэляцыя, якая датычыцца падзей 1634 г., называецца “аб перамозе цэзара Яго Мосці etc., караля Яго Мосці etc. над войскам турэцкім, якое на Карону (Каралеўства Польскае. – В.Е.) наступала” (17 верасня, года Божага 1634). Ёсць звесткі аб еўрапейскіх войнах, прыродных катаклізмах. Цікава, што апошняя рэляцыя, якая датуецца 1643 г., паведамляе пра “жахлівую паводку ў Італіі”.

Яшчэ адзін від рэляцый – справаздачы замежных паслоў аб падзеях у Вялікім Княстве Літоўскім. Як правіла, падобныя дакументы мелі важную інфармацыйную нагоду – узыходжанне на пасад князя, смерць манарха, пачатак або канец вайны і г.д. Ёсць у такіх дакументах апісанні звычаяў, нораваў літвінаў. Здзіўляе найперш тое, што замежныя амбасадары былі выдатна інфармаваныя аб усіх падзеях пры віленскім і кракаўскім дварах, а таму разам з палітычнымі ці ваеннымі навінамі дасылалі ў канцылярыі сваіх дзяржаў нарысы характараў вялікіх князёў і каралёў, пікантныя падрабязнасці з іх асабістага жыцця. Навіны гэтыя, хоць і прызначаліся для нешматлікіх чытачоў, тым не менш хутка разыходзіліся па Еўропе, перадаючыся з вуснаў у вусны.

З XVI ст. найбольш засталося рэляцый, складзеных папскімі легатамі і пасламі Венецыі. Апошнія цікавіліся ў асноўным эканамічнымі навінамі. Карэспандэнты ж Папы, наадварот, падавалі падрабязныя справаздачы аб палітычнай і рэлігійнай сітуацыі ў краіне. Так, нунцый Грацыяні, сакратар пасла Ватыкана пры двары Жыгімонта II Аўгуста, паведамляе аб тым, што кароль спрыяе пратэстантам і нават спачувае ім. Малюе Грацыяні партрэты караля і яго жонкі Барбары Радзівіл. Жыгімонт, на яго думку, – чалавек распусны і непрадказальны. Барбара – жанчына лёгкадумная, "якая дзеля цяжарнасці прымала без разбору ўсялякія лекі, чым смерць сабе прыспешыла" [94, с. 17].

Яшчэ адзін італьянец Спанокі, сакратар папскага кардынала, паведамляе аб "бедах", якія Княства церпіць ад пратэстантаў. "Няма ніводнага горада, ніводнага замка, вольнага ад ерэтыкоў. Людзі нават выказваюць сумненні ў несмяротнасці душы і марыць толькі аб тым, каб з-пад апекі Папы ўцекчы" [94, с. 20]. Іншая па змесце рэляцыя кардынала Валенці, які наведаў Княства ў 1604 г. Ён падае апісанне звычаяў народа, пералічвае гарады і мястэчкі. Падае нават нарыс прыроды, палітычнага і рэлігійнага жыцця краю.

Вачамі Грацыяні, Спанокі, Валенці і да іх падобных еўрапейцы глядзелі на падзеі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Часта ўражанні паслоў не былі камплiментарнымі для нашых продкаў. Нярэдка еўрапейцы апісвалі Літву як краіну варварскую. Аднак амаль усе "госці" падкрэслівалі надзвычайную важнасць Рэчы Паспалітай у барацьбе з туркамі, раілі сваім манархам актыўна ўзаемадзейнічаць з польскімі і літоўскімі каталікамі "дзеля аб'яднання народу пад адзінай харугвай Хрыстовай".

**"W Drukarni Akademiey Societatis Jesu".** Каля 1611 г. у сталіцы Вялікага Княства Літоўскага адбыўся пажар, наступствы якога былі жахлівыя: на нейкі час спынілі дзейнасць друкарні езуіцкай акадэміі, выдавецкага дома Мамонічаў і віленскага праваслаўнага брацтва.

1 Друкарні на тэрыторыі **Вялікага княства ў першай палове XVII ст.:**
2 **Друкарня ў Еўі** Гаўрыіла Іаанавіча (1611 – 1645);
3 **Друкарня ў Вільні** Пятра Бластуса Кміты (1611 – 1612);
4 **Друкарня ў Любчы** Пятра Бластуса Кміты (1612 – 1656);
5 **Троіцкая друкарня** ў Вільні (1628 – 1800);
6 **Брацкая друкарня** ў м. Куцейна (1631 – 1632);
7 **Магілёўская друкарня** Спірыдона Собаля (1636 – 1638), (1693 – 1771);
8 **Друкарня ў Буйнічах** Спірыдона Собаля (1636 – 1654);
9 **Друкарня ў Кейданах** (1651 – 1655).

У 1616 г. у езуіцкай друкарні з’яўляецца зборнік панегірычных вершаў выкладчыкаў і студэнтаў акадэміі (усяго 28 аўтараў). Як можна меркаваць, рыхтаваў рукапісы да выдання адзін з прафесараў, бо, па словах М. Нікалаева, “кніга надрукавана вельмі прафесійна: акуратны набор рознымі кеглямі і шрыфтамі (лацінскім і грэцкім), фігурны набор, гравюра-дрэварыт з датай (1616) і гербам віленскага епіскапа Астафея Валовіча” [16, с. 186]. Усе тэксты амаль бездакорныя − бачная рука спрактыкаванага рэдактара (магчыма, рэдактараў).

У 1619 г. Жыгімонт ІІІ (кароль, узгадаваны езуітамі) падараваў друкарні прывілей на выпуск кніг і, па сутнасці, узяў яе пад сваю апеку. З “хатняй” друкарні акадэмічны варштат пераўтварыўся ў адно з буйнейшых выдавецтваў Вялікага Княства першай паловы XVII ст. З 1619 г. сярод выходных дадзеных на езуіцкіх кнігах было пазначана: “W Wilnie. W Drukarni Akademiey Societatis Jesu”. Штогод рыхтавалася да друку больш за 15 рукапісаў. Бадай што нідзе ў Княстве гэтак старанна не працавалі над афармленнем. Запрашаліся толькі лепшыя мастакі.

Так, сёння шырока вядомыя работы гравёра Конрада Гётке, які “ўводзіў у практыку ілюстрацыі выяву герба сярод побытавай атрыбутыкі” [16, с. 188]. Гётке выкарыстоўваў не дрэварыт (як, напрыклад, Ф. Скарына), а медзярыт, што дазваляла вымалёўваць найдрабнейшыя дэталі ў вопратцы людзей, жывёл, па-мастацку спалучаць тэкст і выяву. На тытуле кнігі Пятра Ляцкага **“Сем герояў Хадкевічаў”** (1642 г.) К.Гётке здолеў не толькі адлюстраваць аблічча, дэталі вопраткі прадстаўнікоў знакамітага роду, але і перадаць чалавечыя характары, указаць на род дзейнасці Хадкевічаў і іх палітычную вагу ў дзяржаве. Разам з людзьмі на тытуле прысутнічаюць і міфічныя жывёлы. Не забыўся майстар намаляваць радавы герб Хадкевічаў. Што характэрна, ён размешчаны побач з гербам Рэчы Паспалітай.

Да рэдагавання тэкставых матэрыялаў езуіты далучалі выбітных інтэлектуалаў XVII ст. У 1620 г. друкарня выдае кнігі дэкана факультэта тэалогіі і філасофіі акадэміі, “хрысціянскага Гарацыя” Мацея Казіміра Сарбеўскага. Адзін за другім выходзяць падручнікі па матэматыцы, тэалогіі, правазнаўстве. Кіраўнікамі (прэфектамі) віленскай друкарні становяцца людзі аўтарытэтныя, прызнаныя ў навуковым свеце: прафесар маральнай філасофіі Ян Хадзінскі, прафесар граматыкі Мікалай Дамброўскі, прафесар логікі Мікалай Цяльшэўскі і інш.

Дзейнасць прэфектаў была скіравана найперш на задавальненне патрэб ордэна і акадэміі. Прафесары сачылі за тым, каб вучні мелі дасканалыя навучальныя і практычныя дапаможнікі. Прычым не толькі на лацінскай мове, але і на жывых мовах Вялікага Княства (напрыклад, выдавалася граматыка на літоўскай мове).

Аналізуючы арганізацыю дзейнасці друкарні, важна падкрэсліць асаблівасць, характэрную для ўсёй акадэміі: віленскія езуіты, апроч задавальнення патрэб мясцовага характару (напрыклад, барацьба з пратэстантамі), працавалі ў агульным еўрапейскім рэчышчы. Юзаф Белінські ў сувязі з гэтым адзначае: "Акадэмія ў Мадрыдзе, Парыжы ці Вільні была ў істоце сваёй адной і той жа навуковай установай. Падручнікі, мова навучання (лацінская. – В.Е.), праграмы – усё адно і тое ж... Таму прафесар або вучань з Вільні, прыехаўшы ў Францыю, адчуваў сябе там як дома" [73, с.54].

Адпаведнасць еўрапейскім стандартам – фактар, які моцна ўплываў на выдавецкі рэпертуар. З еўрапейскіх узораў перадрукоўваліся Арыстоцель, І.Лаёла, грэчаскія і лацінскія граматыкі. Не забываліся езуіты і пра працы Пятра Скаргі, неаднаразова друкавалі яго палемічныя творы (напрыклад, "Абарона езуітаў" / "Obrona ezuitow", 1607).

Яшчэ адным прыкладам палемічных выданняў "брацтва Іісуса" можа служыць кніга Ф. Скуміновіча "Przyczyny porzucenia dizuniey przeslawnemu narodowi ruskiemu podane...". Тэкст гэты напісаны ў ідэалагічным рэчышчы казанняў П. Скаргі і звернуты да народа рускага (праваслаўнага насельніцтва Княства). Праўда (цытата паводле М.Нікалаева), не да тых людзей "Русі", што ідуць за прыдумкамі сучаснай "Туркагрэцыі", а да тых, "у якіх розум у галаве, а ў руках кніга" [16, с. 189].

У адказ ворагі Ордэна падрыхтавалі **action secunda contra Jesuitas**. У гэтым ананімным рукапісе-звароце да сенатараў Рэчы Паспалітай між іншым сцвярджалася, што езуіты – праваднікі палітыкі іспанскага двара, што яны больш Мадрыду, чым Рыму, вераць. *"Не давядзі Божа, каб мы маглі ўбачыць тое, што ў нашай мілай краіне звычаі іспанскай падступнасці, італьянскай хітрасці, французскага зухвальства перамаглі і да заняпаду нас нахілілі"* [70, с. 236].

У друкаванай палеміцы паміж езуітамі і іх ворагамі[30] перамога, як правіла, заставалася на баку Ордэна. Адна з галоўных прычын – высокі інтэлектуальны ўзровень аўтараў, іх адукаванасць і, што не менш важна, дасканалая, шматэтапная падрыхтоўка тэкстаў двума-трыма рэдактарамі. Спачатку рукапіс вычытваўся прэфектам друкарні, рабілася абмеркаванне ў межах Ордэна, потым, пасля неабходных правак, канчатковы варыянт накіроўваўся віленскаму біскупу (апошні выступаў і ў ролі рэдактара, і ў ролі цэнзара). Ёсць усе падставы сцвярджаць, што ў падрыхтоўцы мясцовых рукапісаў удзельнічалі папскія легаты, якія пільна сачылі за кожным крокам літоўскіх езуітаў, бо, па-сутнасці, вілен-

[30] Заўвага – у 1606 г. на Сандамірскай канферэнцыі было вырашана выгнаць езуітаў з некалькіх гарадоў. У пастанове канферэнцыі было напісана: "У справы свецкія пры двары Жыгімонта III не хаваючыся лезуць, у пропаведзях вольнасці і парадкі Рэчы Паспалітай ганяць".

скую акадэмію разглядалі як “фарпост каталіцкай экспансіі ва ўсходнюю Еўропу”.

Звяртае ўвагу таксама і тое, што ў барацьбе з праваслаўем езуіты часта карысталіся старабеларускай мовай (у той час, як праваслаўныя ўсё часцей звярталіся да мовы польскай). Пры гэтым, рыхтуючы рукапісы да друку, браты Ордэна максімальна ўлічвалі мясцовыя рэаліі – менталітэт жыхароў, іх занятак і г.д. Пётр Скарга, напрыклад, звяртаючыся да літоўскіх шляхціцаў, якія ў пераважнай большасці атрымлівалі прыбытак з зямлі, мэты Ордэна тлумачыць на зразумелай ім мове. Езуіты ў яго “трымаюць плуг, якім абрабляюць поле хрысціянскае, засяваючы яго “боскай дасканаласцю” (П. Скарга, прадмова да кнігі “Абарона езуітаў”).

**Віленскае праваслаўнае брацтва і друкарня пры манастыры Св. Троіцы.** Адно з самых вядомых праваслаўных брацтваў знаходзілася ў Вільні (пры царкве Святога Духа). Аб’ядноўвала яно людзей рознай маёмасці і сацыяльнага статусу. Братчыкі спавядалі “рускую веру” (праваслаўе) і адстойвалі права пісаць і друкаваць кірылічныя кнігі. “Брацтвы былі для уніі больш небяспечныя, чым уплывовыя апекуны праваслаўя” [36, с. 83], – адзначаў М. Каяловіч у вядомай працы “Літоўская унія”.

Небяспечныя таму, што не баяліся гучна заяўляць аб сваіх крыўдах, выступаць на соймах. Так, у 1620 г. на Варшаўскім сойме адзін з нешматлікіх праваслаўных дэпутатаў, валынскі чашнік Лаўрэнці Дрэвінскі, паведамляў каралю: *“У Магілёве і Оршы цэрквы праваслаўныя закрытыя стаяць, святары разагнаныя <...>. У Вільні нечуванае адбываецца. Ці чуў хто раней пра такое? Цела памёршага праваслаўнага, калі пажадаюць за горад вывезці, то тыя самыя брамы, праз якія ўсе ходзяць, нават жыды і татары, зараз жа зачыняюцца. Ды так, што вымушаны праваслаўныя нябожчыка свайго выносіць праз другія брамы, з якіх смурод ды бруд з горада вывозяць”* [36, с. 71].

Нягледзячы на такія неспрыяльныя ўмовы, аднавілася праваслаўнае кнігадрукаванне ў Вільні прыблізна ў 1617 г. “Літарамі бітымі” выдадзены “Малітоўнік” і “Трэбнік”. Падрыхтоўка кніг адбывалася ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі з прадукцыяй езуіцкай акадэмічнай друкарні. Дзеля таго, каб яе вытрымаць, братчыкам даводзілася пільна сачыць за тым, каб іх кнігі былі, як мінімум, не горшыя за езуіцкія. І гэта мэта была дасягнута...

Напрыканцы першай чвэрці XVII ст. выданні праваслаўнай брацкай друкарні ў Вільні “адрозніваліся добрым выкананнем і асаблівым густам у падрыхтоўцы макета” [16, с. 195]. Напрыклад, “Службоўнік” 1624 г. з пункту погляду афармлення не толькі не саступаў акадэмічным выданням, але і пераўзыходзіў іх. Па-першае, выкарыстоўваліся два памеры кегля: вялікі – для выдзялення слоў, якія належыць казаць

святару падчас службы; малы – для апісання абрадаў падчас службы. Па-другое, "пачатак чыну кожнай іншай літургіі адзначаўся загалоўкам і застаўкай". Акрамя таго, "кожная з трох заставак мела ў цэнтры акруглы медальён з выявамі Ісуса Хрыста, Св. Троіцы і Укрыжавання" [16, с. 195].

Не абмяжоўваліся віленскія братчыкі выключна кірылічным друкаваннем. У 1632 г. яны падрыхтавалі невялікую брашуру антыкаталіцкай скіраванасці ("Rzym albo stolica rzymska..."), якую планавалі раздаваць на каранацыйным сойме 1633 г. У гэтым "праваслаўным плачы" паміж іншым было пазначана:

*"<...> жывучы ў свабоднай дзяржаве, ні ў чым мы не маем свабоды. Многія грамадзяне з жальбай у сэрцы кажуць пра рабаванне і руйнаванне цэркваў, пра асабісты прыгнёт; дзеці нашы паміраюць неахрышчаныя і без прабачэння грахоў, дарослыя жывуць па-за законным шлюбам, а што яшчэ горш, жывуць без споведзі і прычашчэння, пазбаўляючыся нават надзеі на жыццё вечнае"* [36, с. 90].

Выбраны на сойме кароль Рэчы Паспалітай Уладзіслаў IV пацвердзіў брацтву прывілей на кнігадрукаванне. А вось праваслаўная грамадскасць віленцаў не падтрымала. **У 1640 г. мітрапаліт Пётр Магіла ўсе царкоўныя выданні падпарадкаваў сваёй цэнзуры.** "Без загаду Яго Мосці Айца Мітрапаліта друкуюць яны (жыхары Вільні і Львова. – В.Е.) Евангеллі, служэбнікі і г.д., што ім рабіць не належыць, таму пад пагрозаю пракляцця набываць тыя кнігі забараняецца".

Дадавалася яшчэ і тое, што свае пазіцыі ўмацоўвала ўніяцкая царква, а гэта змяншала попыт на праваслаўныя кнігі. Тым не менш, брацтва выдавала шыкоўна аформленыя, добра адрэдагаваныя кнігі да сярэдзіны XVII ст. Сярод іх былі:

1. Вертоград душевный, сиречь собрание и сочинение молитв исповедальных и благодарственных, блаженной памяти инока Фикария Святогорца (Вильно, из типографии Монастыря сошествия Святого Духа, 1620);

2. Новый завет с Псалтырём, вновь переведённый братцвом Виленскаго общежительнаго Монастыря при храме сошествия Св. и животворящего Духа православия греческаго. (В Вильне 1623);

3. «Беседы духовныя преподобнаго отца нашего Макария египетскаго...» (В Вильне 1627).

4. Служебник (Вильня 1639);

5. Новый Завет господа нашего Иисуса Христа в нём же Псалтырь. (В Вильне 1641 г.).

Своеасаблівым спадарожнікам віленскіх братчыкаў быў манастыр Успення Багародзіцы ў Еўі. «Тут пад высокай абаронай Багдана Агінскага была арганізавана друкарня. Называлася яна “Друкарня Віленскага брацтва”. У выходных дадзеных, напрыклад, **“Евангелля вучыцельнага” (1616 г.)** пазначалася: *“Коштам вяльможнага Пана М. князя Багдана Агінскага Падкаморыя Троцкага і жонкі яго пані Райны Валавічоўны, а таксама працаю і плёнам інакаў “общого житіа Монастыря” брацкага Віленскага “Съшествія Святого Духа”, выдрукавана ў Еўі, года 1616”.*

**Тытул Псалтыра і Новага Запавету. Еўе, 1611, фармат: 4ка, 605 лістоў (1210 старон.):**

Книга Нового Завѣта, въ ней же напреди Псалтырь блаженнаго пророка и царя Давыда. Выдана естъ коштомъ и накладомъ вельможного пана, его милости пана Богдана, князя Окгинского, подкоморого Троцкого и прочая; працею и пильнымъ стараньемъ иноковъ церкви братское св. Духа, общелюбного жытія, въ маетности его милости, въ Евю, року 1611, мѣсяца августа дня 1 [50, с. 129].

На думку М.Нікалаева, згадванне ў выходных дадзеных еўеўскага выдання Віленскай брацкай друкарні звязана з тым, што “манахі не мелі спецыяльнага каралеўскага прывілея на кнігавыдавецкую дзейнасць” [16, с. 218]. Як і віленскія братчыкі, “інакі” манастыра Успення Багародзіцы працавалі дзеля праваслаўных грамадзян Княства, а гэта значыць − не канкурыравалі паміж сабой. Друкаваным словам змагаліся яны з уніяй і Рымскім Касцёлам. Выдавалі не толькі богаслужэбныя кнігі (напрыклад, згаданы “Новы Запавет з Псалтыром”, 1611 г.), але і публіцыстычныя − прычым на трох мовах: царкоўнаславянскай, старабеларускай (“простай рускай мове”) і польскай. Так, у 1615 г. у Еўі надрукаваны “Казанні” Лявонція Карповіча, прысвечаныя княгіні Ганне Хадкевіч. У тым жа самым годзе з’явілася кніга “Малітвы штодзённыя”, у якой былі раздзелы, скіраваныя супраць “лацініткаў”.

Для еўеўскіх выданняў характэрна надзвычайная рэдактарская пільнасць у падрыхтоўцы рукапісаў. Дэвіз “не горш, чым у езуітаў” патрабаваў ад праваслаўных манахаў пастаяннага самаўдасканальвання. Еўеўскія кнігі былі шыкоўна аформлены (выкарыстоўваліся, як правіла, два колеры − чырвоны і чорны, розныя шрыфты і кеглі, застаўкі-дрэварыты з раслінным арнаментам). Акрамя таго, выданні былі бездакорна вычытаны. Некаторыя з іх выходзілі адразу ў некалькіх рэдакцыях. Так, “Евангелле вучыцельнае” мела тры рэдакцыі: адну − з гербам Саламярэцкіх і прадмовай Мялета Сматрыцкага; другую − з гербам Хадкевічаў і прысвячэннем княгіні карэцкай Ганне Хадкевіч; трэцюю − з паведам-

леннем на тытульным аркушы, “што кніга надрукавана коштам вяльможнага пана, князя яго міласці Багдана Агінскага” [16, с. 218].

Нават пасля таго, як “Евангелле...” ўжо было надрукавана, **рэдактары, заўважыўшы памылкі ці хібы друку, не забываліся паведаміць пра іх чытачу. У канцы кнігі змешчаны зварот да чытача з просьбай прабачыць памылкі.** “До чительника. Помылки, которыи ся з трафунку стали, чительнику ласкавый так направиш: На листе 26, до посполитог, читай до посполитого. На листе 53, много, читай многого” [16, с. 220].

**Вядомыя зараз еўеўскія выданні:**

1. **Діоптра**, 1612 г., фармат: 4[ка], 182 лісты (374 старон.). Тытул (на другім баку аркуша – герб Агінскіх):
   Діоптра, альбо зерцало и выраженье живота людского на томъ свэтэ. Коштомъ и працею иноковъ церкви святого Духа, братское Виленское общого житія.
2. **Анфологіонъ**, 1613 г., фармат – 16[я] доля. Тытул:
   Анфологіонъ, альбо цвэты молитвъ избранныхъ; отъ многихъ св. отецъ събранны, працею и стараньемъ иноковъ общего житія. брат. церк. Вилен. прав. Греческого.
3. **Евангеліе Учительное**, 1616 г., 528 лістоў (1056 старон.), 3 рэдакцыя. На адвароце аркуша тытула – гербы Агінскіх і Валовічаў. Побач з клейнотамі – 14 вершаў. Дрэварыт з выяваю Канстанцінопальскага патрыярха. На тытуле:

*Евангеліе учительное, албо казаня на кождую недэлю и свята урочистыи, презъ святаго отца нашего Калиста, архіепископа Константинополского и вселенского патріарху, предъ двэма сты лэтъ, по Кгрецку написаныи; а теперъ ново, з Кгрецкого и Словенского языка, на Рускій переложеныі: коштомъ вельможного пана, его м. князя Богдана Окгинского, подкоморого Троцкого...(державцы і г.д.), еи м. панеи Раины Воловичовны”.*

Ёсць да “Евангелля” і прадмова. У ёй паміж іншым заўважаецца наконт прычын перакладу Евангелля на “простую рускую мову”:

“<...> (Канстанцінопальскі патрыярх. – В.Е.) Греческимъ языкомъ, Греческій народъ свой училъ; а потомъ, за преложеньемъ тыхъ его шкриптовъ на языкъ Словенскій, праве, якобы повторе народови нашему Словенскому оживши и до тыхъ нашихъ краевъ (подъ ученшій продковъ нашихъ вѣкъ) завитавши, велми потребенъ и пожиточенъ былъ. Теперъ, зась пренезнаемость и неумѣетность языка Словенского многихъ, многимъ мало потребенъ и непожиточенъ ставшися, знову, переложеньемъ его на языкъ нашъ **простый Рускій**, якобы з мертвыхъ вскрешонъ. <...> А за тымъ тотъ, который, тыхъ часовъ, хоть въ зацнѣйшомъ, пенкнѣй-

шомъ, звязнѣйшомъ, суптелнѣйшомъ и достаточнѣйшомъ языку Словенскомъ, пре неспособность слухачовъ, немногимъ пожиточенъ былъ: теперъ, хоть въ подлѣйшомъ и простѣйшомъ языку, многимъ, албо рачей и всѣмъ Руского языка, яко колвекъ умѣетнымъ, потребенъ и пожиточенъ бытии моглъ" [50, с. 134].



**Мал. 19.** Віленскі ваявода Ян Скумін Тышкевіч (ілюстрацыя да выдання базыльян)

**Выданні віленскіх базыльян.** Яны выдаюць як кірылічныя, так і "польскія" кнігі. Прывілей на друк яны атрымалі ад Уладзіслава IV у 1633 г. Каля 1642 г. выдалі "Служэбнік", рэдагаваны, як трэба думаць, святатроіцкім архімандрытам Аляксеем Дубовічам. Гэты таленавіты прапаведнік падрыхтаваў і выдаў таксама некалькі панегірычных кніг. Сярод іх: казанні на памінанне віленскага ваяводы Яна Скуміна Тышкевіча, а таксама "Herbowa lilia na nieśmiertelną ozdobę grobu P. Anny Pacowny Wołłowiczowey" (1649 г.). "Манастыр клапаціўся, каб папера ў кнігах была добрай. А набор якасны, выкананне ілюстрацый даручалі лепшым віленскім мастакам-гравёрам" [16, с. 199]. Адным з такіх мастакоў быў Конрад Гётке (вядомы таксама па езуіцкіх выданнях) – аўтар медзярыту з выявaю віленскага ваяводы Яна Скуміна Тышкевіча. Немец зрабіў тыповы "сармацкі партрэт": на ваяводзе, адлюстраваным у поўны рост, – кунтуш, рыцарскі плашч, ля ног – шаблі і харугвы. Стаіць ён каля намёта, за якім відны гарматы і шыхты конных вояў.

У другой палове XVII ст. базыльяне большую частку сваёй прадукцыі друкуюць на польскай мове. Прыкладам можа служыць "Ecphonemata liturgiey Greckiey" доктара тэалогіі ксяндза Пахоміуша Агілевіча (Pachomiusza Ohilewicza). Гэта збор тэкстаў, якія "падчас літургіі святар, дыякан і хор галосна спяваюць". Цікава, што ў прадмове да кнігі было пазначана: малітвы падаюцца "моваю славенскаю" (językiem Słowieńskim), але "характарам польскім", г.зн. у рымска-каталіцкай рэдакцыі.

"Характарам польскім" выдадзена і адна з найбольш вядомых, а таксама і неадназначных базыльянскіх кніг "Hierarchia Cerkiewna" (1644 г.)

Дубовіча. Гэты палемічны твор быў скіраваны супраць праваслаўных Вялікага Княства Літоўскага. Аўтар перадусім імкнуўся давесці тое, што "духоўнае апірышча схізмы" – Грэцыя – пераўтварылася ў ісламскі край, а грэкі нібыта сталі патурчэнцамі:

"*За часамі Іераміі, патрыярха Канстанцінопальскага, адзін толькі быў прапаведнік іераманах Матэуш (Matheusz), ды і той Слова Божае казаў, са страхам зважаючы на турак. Тое агалошванне Слова Божага, а таксама і само набажэнства мусіла адбывацца – па просьбе Патрыярха – пад ахovаю двух янычараў. Усё дзеля таго, каб туркі гвалт цэркві ненавіснай хрысціянскай не ўчынілі*" [94, с. 495].

Дубовіч папракаў праваслаўных у неадукаванасці, ігнараванні праграсу. На яго думку, дзеці праваслаўных "толькі "Часоўнікі" ды "Псалтыры" чытаюць, а пра вызваленыя мастацтвы, а таксама пра іншыя навукі ад педагогаў сваіх ніколі не чулі. Такое меркаванне наўрад ці можа падацца дзіўным, бо большасць уніятаў вучыліся ў езуіцкіх калегіумах, а таму стаялі на пазіцыях барацьбы з "верай рускай".

У 1671 г. базыльяне прымаюць рашэнне аб удасканальванні працы друкарні пры манастыры Святой Троіцы. Перадусім, яны прызначаюць галоўнага рэдактара і цэнзара друкарні. Ім становіцца згаданы вышэй ксёндз Агілевіч – доктар тэалогіі, протаархімандрыт ордэна. У 1690 г. на рэдактарскую пасаду заступіў уніяцкі мітапаліт Кіпрыян Жахоўскі, які распачаў падрыхтоўку вялікай богаслужэбнай кнігі "Леітоургікон". "Выданне было задумана раскошнае: памер – у вялікі аркуш, двухколерны друк, <...> Прадмову і прысвячэнне новаму падканцлеру (з 1690 г.) ВКЛ Каралю Станіславу Радзівілу напісаў сам мітрапаліт Кіпрыян" [16, с. 201]. Аднак па невядомых прычынах кніга так і не была надрукавана, а абсталяванне манастырскай друкарні перадалі Супрасльскаму манастыру.

**Вывады па 9 параграфе:**

**1.** Ужо ў першай палове XVI ст. у канцылярыях Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага пачынаюць выкарыстоўваць магчымасці друкарскага станка з мэтай інфармавання насельніцтва аб важных падзеях у Рэчы Паспалітай і за яе межамі. Так узніклі навінкі / "nowinki" (рэляцыі – у пер. "справаздачы") – інфармацыйныя бюлетэні, якія можна лічыць правобразам сучасных СМІ.

**2.** Інфармацыйная лесвіца ад крыніцы атрымання актуальных "навін" да іх спажыўца / чытача мела наступныя прыступкі:

**А.** Карэспандэнты, якія непасрэдна здабываюць інфармацыю (звычайна, шляхціцы і людзі "дворскія" з польскіх і літоўскіх правін-

цый, падарожныя, прадстаўнікі дыпламатычных службаў Рэчы Паспалітай у краінах Заходняй Еўропы, Азіі);

**Б.** Канцылярыі, якія выступаюць у ролі пасрэдніка паміж карэспандэнтам і чытачом (матэрыялы ў іх сартыруюцца і рэдагуюцца ў адпаведнасці з патрабаваннямі "бягучай павесткі дня": палітычнымі і вайсковымі рэаліямі, рэлігійнай і гуманітарнай сітуацыяй у Еўропе, Азіі і Рэчы Паспалітай);

**В.** З канцылярыі ўжо адрэдагаваныя матэрыялы трапляюць у друкарню, дзе адбываецца набор і вёрстка. Геаграфічна – гэта Прага, Кракаў, Вільня. У перыяд Стэфана Баторыя рэляцыі выходзяць дзякуючы перасоўнай друкарні, якая пераязджала з месца на месца разам з каралём.

**Г.** Надрукаваныя "навіны" чытаюцца з амбонаў касцёлаў Рэчы Паспалітай. Ксяндзы ў гэтым выпадку выступаюць у ролі транслятараў актуальнай інфармацыі.

**3.** У ролі рэдактараў часцей за ўсё выступалі службовыя асобы дзвюх канцылярый. Адзначаны выпадкі, калі ў адрэдагаваныя і зацверджаныя тэксты ўносілася праўка падчас набору (Ян Карцан). У пачатку XVII ст. у ролі своеасаблівых "інфармацыйных фільтраў" і літаратурных рэдактараў інфармацыі выступілі езуіты.

**4.** Адной з вядучых друкарняў Вялікага Княства Літоўскага мяжы XVI – XVII стст. варта лічыць Акадэмічную езуіцкую друкарню ў Вільні. Істотная асаблівасць яе функцыянавання – дасканалая, шматэтапная падрыхтоўка тэкстаў двума-трыма рэдактарамі. Спачатку рукапіс вычытваўся прэфектам друкарні, рабілася абмеркаванне ў межах Ордэна, потым, пасля неабходных правак, канчатковы варыянт накіроўваўся віленскаму біскупу (апошні выступаў і ў ролі рэдактара, і ў ролі цэнзара). Ёсць усе падставы сцвярджаць, што ў падрыхтоўцы мясцовых рукапісаў удзельнічалі папскія легаты.

**5.** Выданні Віленскага праваслаўнага брацтва рыхтаваліся ў надзвычай неспрыяльных умовах. Аднак менавіта ціск з боку палітычных элітаў Рэчы Паспалітай паспрыяў таму, што вакол выдавецтва віленскіх (еўеўскіх) братчыкаў згуртаваліся найбольш выбітныя праваслаўныя інтэлектуалы. Гэта паўплывала на тое, што працэс падрыхтоўкі рукапісаў да друку і ў Вільні, і ў Еўі быў не менш дасканалым, чым у езуітаў. Функцыі літаратурнага рэдактара выконвае або кіраўнік брацтва, або пэўны рэдактарскі калектыў.

**6.** Першая "афіцыйная" пасада рэдактара з'явілася ў асяроддзі віленскіх базыльян, якія "адваёўвалі" чытацкую аўдыторыю ў брацкіх праваслаўных выдавецтваў Вялікага Княства Літоўскага.

**Пытанні для самападрыхтоўкі:**

1. Што сабой уяўлялі ананімныя лісткі, якія “хадзілі па краі” і называліся “навінкі” або “сеймавыя навінкі”?
2. Якім годам датуецца першая і апошняя надрукаваная рэляцыя?
3. Якія тэмы (праблемы) закраналі карэспандэнты рэляцый?
4. У чым была спецыфіка падрыхтоўкі рукапісаў да друку ў Віленскай акадэмічнай друкарні езуітаў?
5. Якія кнігі выходзілі ў Віленскай і Еўеўскай брацкай друкарнях? Ці можна лічыць гэтыя друкарні канкурэнтамі?
6. У чым асаблівасць выданняў віленскіх базыльян?

**Пытанні для дыскусіі:**

1. Ці можна лічыць “сеймавыя навіны”, “навінкі” СМІ?
2. Як вы лічыце, ці з’яўляецца факт існавання ў межах ВКЛ праваслаўных выдавецтваў сведчаннем рэлігійнай талерантнасці палітычных элітаў Рэчы Паспалітай?
3. Ці можна лічыць віленскіх базыльян своеасаблівым “філіялам” літоўскіх езуітаў (растлумачце свой пункт погляду)?

**Рэкамендаваныя тэмы для рэфератыўных паведамленняў:**

1. “Евангелле вучыцельнае” ў кніжнай традыцыі Вялікага Княства Літоўскага.
2. Віленская езуіцкая акадэмія – Віленскі імператарскі ўніверсітэт: агульнае і адрознае.

**Рэкамендуемая літаратура:**


1. Wiszniewski, M. Historya literatury polskiej: W 8 t. / M. Wiszniewski. – Kraków: w drukarni uniwersyteckiéj, 1851. – T. 8 – 503 s.
2. Rychcicki, M.J.A. Piotr Skarga i jego wiek / M.J.A. Rychcicki. – Kraków: w zakładzie wydawnictwa dzieł katolickich, 1850. – 447 s.
3. Niemcewicz, J.U. Zbiór pamiętników historycznych o dawnej Polszcze: W 2 t. / J.U. Niemcewicz / Wydanie nowe Jana Nep. Bobrowicza. – Lipsk: nakładem i drukiem Breitkopfa i Haertela, 1839. – T. 1. – 355 s.
4. Pamietniki do history Stefana króla polskiego czyli korespondencya tego monarchy, oraz zbiór wydanych przez niego urządzeń / Zebrane i wydane przez Edwarda Hr. Raczyńskiego. – Warszawa: N. Glücksberg, 1830. – 165 s.
5. Bieliński, J. Uniwersytet Wileński (1579 – 1831): W 2 t. / J. Bieliński. – Kraków: druk W.L. Anczyca i spółki, 1899 – 1900. – T. 2. – 845 s.
6. Гісторыя беларускай кнігі: у 2 т. – Т. 1: Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага / М.В. Нікалаеў; навук. рэд.: В.В. Антонаў, А.І. Мальдзіс. – Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. – 424 с.
7. Гісторыя беларускай літаратуры XI – XIX стагоддзяў: у 2 т. – Т. 1: Даўняя літаратура: XI – першая палова XVIII стагоддзя / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; навук. рэд. В.А. Чамярыцкі. – 3-е выд., выпр. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 910 с.

# ТЭСТЫ ДЛЯ САМАКАНТРОЛЮ ВЕДАЎ

## Блок I. Рэдагаванне ў перыяд Сярэднявечча

**1. Прыблізна з X ст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі распаўсюджваецца літаратурная мова. Як яна называлася?**

А. Праваслаўная;
Б. Старажытнаруская або ўсходнеславянская;
В. Стараславянская;
Г. Царкоўная.

**2. Назавіце аўтара першай рэдакцыі "Аповесці мінулых гадоў":**

А. Ігумен Выдубецкага манастыра Сільвестр;
Б. Кірыла Тураўскі;
В. Скрыптар князя Мсціслава Уладзіміравіча;
Г. Манах Кіева-Пячэрскай лаўры Нестар.

**3. Фрагменты якой візантыйскай хронікі выкарыстаны ў першай рэдакцыі "Аповесці мінулых гадоў"?**

А. Хроніка Іаана Малалы;
Б. "Іудзейская вайна" Іосіфа Флавія;
В. Хроніка Георгія Амартала;
Г. Хроніка Сімеона Лагафета.

**4. Звесткі з якіх старажытных летапісаў выкарыстоўваюцца ў "Слове пра паход Ігара"?**

**А. "Хронікі Быхаўца";**
Б. Галіцка-Валынскі летапіс;
В. Іпацьеўскі і Лаўрэнцьеўскі летапісы;
Г. Радзівілаўскі летапіс.

**5. Тэкст "Жыція Еўфрасінні Полацкай" змешчаны больш як у 100 спісах XIV – XVIII стст. і вядомы ў некалькіх рэдакцыях. Колькі гэтых рэдакцый?**

А. 3; Б. 6; В. 2; **Г. 7.**

**6. У перыяд Кіеўскай Русі кнігі "пісаліся буйным разборлівым почыркам". Як ён называўся?**

А. Устаў; Б. Паўустаў;
В. Кірылічны; Г. Рускі.

**7. Першы арыгінальны ўсходнеславянскі агіяграфічны твор паўстаў у сярэдзіне XI ст. Як ён называўся?**

А. "Жыціе Андрэя Юродзівага";
Б. "Жыціе Кірылы Тураўскага";
В. "Жыціе Аўрамія Смаленскага";
Г. "Жыціе Барыса і Глеба".

**8. Рэдакцыя "Аповесці мінулых гадоў", якая захавалася ў складзе Лаўрэнцьеўскага летапіснага зводу, дапрацавана:**

А. Нестарам; Б. Кіпрыянам;
В. Сільвестрам; Г. Кірылам.

**9. Агіяграфія – гэта (....):**

А. Жанр старажытнай літаратуры, у якім адлюстраваны геаграфічныя адкрыцці, падарожжы;

Б. Апісанне жыцця і дзейнасці духоўнай асобы;

В. Занатаваныя ў храналагічнай паслядоўнасці звесткі з гісторыі пэўнага княства;

Г. Літаратурны твор на грэчаскай мове.

**10. Назавіце мяркуемага аўтара "Аповесці жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай":**

А. Кірыла Тураўскі; Б. Манах Сільвестр;
В. Давыд; Г. Клімент Смаляціч.

**11. Найбольш пашыраным фарматам кнігі ў XI – XV стст. быў:**

А. Аркуш; Б. Палова аркуша;
В. Аркуш і чвэрць; Г. Дзве трэція аркуша.

**12. Прынцып "літаратурнай кансервацыі" ў перыяд Вялікага Княства Літоўскага – гэта (...):**

А. Збіранне і захоўванне рукапісаў у манастырскіх бібліятэках;

Б. Адсутнасць новых выданняў;

В. Адсутнасць любой рэдактарскай праўкі. Захоўванне балгара-візантыйскіх кніжных традыцый пры капіраванні старых рукапісаў;

Г. Выкарыстанне старых сюжэтаў, жанраў, тэм.

**13. Прынцып "поновления" ў кніжнай культуры Вялікага Княства Літоўскага – гэта (...):**

А. Абнаўленне пераплёту або вокладкі старых кніг;

Б. Рэдактарская праўка старых манускрыптаў, для якой характэрна прывядзенне зместу і афармлення кнігі ў адпаведнасць з новымі палітычнымі і эканамічнымі рэаліямі;

В. "Поновление" кнігазбораў манускрыптамі перыяду Кіеўскай Русі;

Г. Аздабленне старых тэкстаў новымі ілюстрацыямі, больш рэалістычнымі, арыентаванымі на еўрапейскія ўзоры.

**14. Твор "Жыціе Аляксея, чалавека Божага" перакладзены на старабеларускую мову ў (...):**

А. XI ст.; Б. XIII ст.;
В. XV ст.; Г. Заўжды існаваў толькі ў царкоўнаславянскім варыянце.

**15. Так званы Кодэкс Гертруды – гэта (...):**

А. Скандынаўскі летапіс, адрэдагаваны рускімі кніжнікамі ў XII ст.

Б. Евангелле, перапісанае ў Францыі;

В. Псалтыр, замоўлены ў X ст. ірландскім архіепіскапам Трэві.

Г. Звод законаў Заходняй Еўропы IX – XI ст.

**16. У якім манускрыпце, што датуецца 1270 г., побач з малюнкамі апосталаў знаходзіцца выява св. Сімана – святога-апекуна заказчыка гэтай кнігі?**

А. Евангелле Латыша;
Б. Псалтыр Улляны і Глеба Смаленскіх;
В. Лаўрышанскае Евангелле;
Г. Кодэкс Гертруды;

**17. Першы бясспрэчны помнік кніжнай культуры Вялікага Княства Літоўскага, мініяцюры якога нагадваюць мініяцюры з Эльзаскай кнігі апошняй чвэрці XII ст., – гэта (...):**
А. “Летапісец вялікіх князёў літоўскіх”;
Б. Лаўрышанскае Евангелле;
В. Кодэкс Гертруды;
Г. Евангелле Латыша.

**18. У якой кнізе, датуемай 1397 г., маецца наступная прыпіска: “<...> спісана бысть кніга сія Давыда царя повеленьемь сміренаго владыкы Михаила, рукою грешнаго раба Спірідонья”?**
А. Кіеўскі Псалтыр; Б. Евангелле-апракас;
В. Евангелле Латыша; Г. Лаўрышанскае Евангелле.

**19. Назавіце імя Кіеўскага і ўсёй Русі мітрапаліта, які прывёз з Канстанцінопаля цэлую бібліятэку кніг, а таксама быў рэдактарам многіх манастырскіх рукапісаў:**
А. Кірыл; Б. Кіпрыян;
В. Фоцій; Г. Грыгорый Цамблак.

**20. У якой кнізе дзякуючы рэдактарскай няўважлівасці заглаўная літара “М” намалявана такім чынам, што ў ёй заўважаюцца два рыбакі, якія цягнуць сетку з рыбай, сварацца і пры гэтым адзін аднаму кажуць (падпісана рукой пісца): “Цягні, курвін сын!” – “Сам гэтакі”?**
А. Службоўнік Кіпрыяна; Б. Псалтыр Улляны і Глеба;
В. Кіеўскі Псалтыр; **Г. Лаўрышанскае Евангелле.**

**21. Назавіце святых, якіх рэдактары “не пусцілі” ў беларускія летапісы перыяду Вялікага Княства Літоўскага:**
А. Барыс і Глеб; Б. Рускія святыя;
В. Віленскія пакутнікі; Г. Кіеўскія манахі-пустэльнікі.

**22. Назавіце адзін з першых панегірычных твораў Беларусі, вядомы ў 4-х рэдакцыях:**
А. Прамова Мялешкі;
Б. Пахвала Вітаўту;
В. Жыціе Аляксея, чалавека Божага;
Г. Слова пахвальнае Яўфімію Тырнаўскаму.

**23. Назавіце тэкст, які лёг у аснову I Беларуска-літоўскага летапіснага зводу (рэдагаваны ён быў адразу двума Кіеўскімі і ўсёй Русі мітрапалітамі):**
А. Маскоўскі летапісны звод, дапоўнены ў Смаленску;
Б. Страчаны Полацкі летапіс;
В. Так званы Радзівілаўскі летапіс;
Г. “Аповесць мінулых гадоў”.

**24. У I Беларуска-літоўскім летапісным зводзе былі старанна адрэдагаваны запісы пра паход вялікага князя Альгерда на Маскву ў 1368, 1370 і 1372 гг.,**

**а ў звестцы пра яго смерць у 1377 г. быў выкінуты выраз "зловерный, безбожный и нечестивый". У якім горадзе праводзілася праўка летапісных звестак?**

А. Вільня; Б. Полацк;

В. Смаленск; Г. Навагрудак.

**25. Другая рэдакцыя І Беларуска-літоўскага летапіснага зводу 1446 г. сёння вядомая ў (...):**

А. Іпацьеўскім спісе;

Б. Галіцка-Валынскім летапісе;

В. Супрасльскім спісе;

Г. Радзівілаўскім летапісе.

**26. У другой рэдакцыі І Беларуска-Літоўскага летапіснага зводу была праведзена "храналагічная перагрупоўка пагадовых запісаў". У сувязі з чым гэта адбылося?**

А. Да 1492 г. на тэрыторыі былой Кіеўскай Русі Новы год пачынаўся з сакавіка, а ў Візантыі – з верасня. З канца XIV ст. вераснёўскі стыль пранікае на тэрыторыю Вялікага Княства;

Б. Да 1492 г. на тэрыторыі былой Кіеўскай Русі Новы год пачынаўся з перыяду сонцастаяння (свята Купалле), а ў Візантыі – з 1 студзеня. З канца XIV ст. "візантыйскі стыль" пранікае на тэрыторыю Вялікага княства;

В. Гэта адбылося па недагляду летапісца.

**27. Адзін з рэдактараў Беларуска-Літоўскага летапісу дазваляў сабе ўстаўкі з крытычнымі заўвагамі ў адрас вялікага князя Вітаўта. Паведамляў, напрыклад, што Вітаўт у 1404 г. нібыта "много зла сотвориша" Смаленскай зямлі. Якая рэдакцыя І летапіснага зводу маецца на ўвазе?**

А. Смаленская; Б. Супрасльская;

В. Радзівілаўская; Г. Віленская.

**28. Так званая пашыраная рэдакцыя Беларуска-Літоўскіх летапісаў пачынаецца:**

А. З "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага";

Б. З Пахвалы Вітаўту;

В. З "Аповесці мінулых гадоў";

Г. З Смаленскай праўды 1229 г.

**29. Гісторыя ў пашыранай рэдакцыі беларуска-літоўскіх летапісаў пачынаецца з легенды:**

А. Пра Ноя і сусветны патоп;

Б. Пра Славу і яго сыноў (продкаў сучасных славян);

В. Пра Палемона і рымскіх шляхціцаў;

Г. Аб стварэнні зямлі, вады, чалавека, птушак і г.д.

**30. Першапачатковая рэдакцыя "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага" не захавалася. Найбольш верагодным "рэдактарам" наступнага варыянту "Хронікі..." гісторык А.Латышонак лічыць канцлера ВКЛ (якога?):**

А. Астафія Валовіча;

Б. Льва Сапегу;

В. Альбрыхта Гаштаўта;

Г. Мікалая Радзівіла Чорнага.

## Блок II. Рэдагаванне ў перыяд ранняга Адраджэння

**1. Метрыкі – рукапісныя зборнікі дзяржаўнага архіва Вялікага Княства Літоўскага – складаліся і рэдагаваліся:**

А. У скрыпторыях пры манастырах;

Б. Летапісцамі і гісторыкамі ў прыватных маёнтках;

В. У скрыпторыі пры вялікакняжацкай канцылярыі;

Г. У судовых установах і пры трыбуналах ВКЛ.

**2. Чым займаліся "рускія" пісары ў канцылярыі Вітаўта?**

А. Будучы адукаванымі людзьмі, дапамагалі князю ліставацца з манархамі ўсёй Еўропы.

Б. Перапісвалі, капіравалі дзяржаўныя дакументы, адрасаваныя выключна жыхарам Вялікага Княства Літоўскага;

В. Здзяйснялі рэдактарскую праўку папер, якія выходзілі з канцылярыі;

Г. Вялі гістарычную хроніку Вялікага Княства, занатоўвалі падзеі на "простай рускай мове".

**3. У 1514 г. быў страчаны важны кніжна-летапісны цэнтр Вялікага Княства Літоўскага. Які?**

А. Полацк; Б. Смаленск;

В. Віцебск; Г. Магілёў.

**4. У 1520-я гг. праваслаўныя кнігі ствараюцца і рэдагуюцца ў асноўным або пры манастырах, або пры дварах багатых мецэнатаў. Назавіце адзін з буйнейшых такіх манастыроў.**

А. Віленскі Святадухаў манастыр;

Б. Манастыр пры Кіева-Пячэрскай лаўры;

В. Супрасльскі манастыр;

Г. Полацкі Богаяўленскі манастыр.

**5. На якой мове напісаны захаваныя лісты жонкі Вітаўта, вялікай княгіні Ганны?**

А. На рускай; Б. На нямецкай;

В. На лацінскай; Г. На польскай.

**6. На якіх мовах ліставалася польская каралева і вялікая княгіня літоўская Бона Сфорца?**

А. Лацінская, польская, італьянская, старабеларуская;

Б. Лацінская, італьянская;

В. Лацінская, польская, італьянская;

Г. Лацінская, польская.

**7. Як называлася пасада супрацоўніка вялікакняжацкай канцылярыі, які да 1566 г. выконваў функцыі рэдактара?**

А. Рэдактар;

Б. Галоўны скрыптар;

В. Пісар вялікі;

Г. Пісар-ураднік.

**8. Як называлася пасада супрацоўніка вялікакняжацкай канцылярыі, які пасля 1566 г. выконваў функцыі рэдактара?**

А. Пісар вялікі; Б. Пісар скарбовы;
В. Польны пісар; Г. Пісар двароў і маёнткаў гаспадарскіх;

**9. Хто цягам усяго XVI ст. (і пазней) выконваў абавязкі галоўнага рэдактара ў скрыпторыі пры вялікакняжацкай канцылярыі?**

А.Вялікі князь; Б. Кароль Рэчы Паспалітай;
В. Канцлер ВКЛ; Г. Віленскі біскуп.

**10. Кнігі з канцылярыі ВКЛ вылучаліся своеасаблівым, пазнавальным почыркам. Як ён называўся?**

А. Устаў; Б. Паўустаў;
В. Скорапіс; Г. Канцылярскі.

**11. У якім скрыпторыі на тэрыторыі ВКЛ упершыню пачынаюць капіравацца кнігі прыродазнаўчага характару?**

А. У скрыпторыі пры езуіцкай акадэміі;
Б. У скрыпторыі пры двары Солтанаў у прадмесці Вільні;
В. У скрыпторыі пры Супрасльскім манастыры;
Г. У скрыпторыі пры Кракаўскай акадэміі (дзе вучыліся Капернік і Скарына).

**12. Якая кніга ў перыяд Сярэднявечча і Адраджэння была асновай для навучання пісьменству (была своеасаблівым букваром)?**

А. Евангелле напрастольнае; Б. "Жыціі святых";
В. Псалтыр; Г. Апостал.

**13. Дзе ў 1491 г. друкуюцца першыя кірылічныя кнігі?**

А. У Кракаве; Б. У Празе;
В. У Маскве; Г. У Вільні.

**14. У Вялікім Княстве Літоўскім першая друкарня з'явілася ў:**

А. 1502 г.; Б. 1517 г.;
В. 1522 г.; Г. 1543 г.

**15. Суаднясіце назву друкарні (1 – 5) і гады яе дзейнасці (А – Д):**

1. Віленская друкарня Францыска Скарыны;
2. Нясвіжская друкарня Сымона Буднага і Мацея Кавячынскага;
3. Друкарня ў Заблудаве І. Фёдарава і П. Мсціслаўца;
4. Друкарня Васіля Цяпінскага;
5. Віленская друкарня Мікалая Радзівіла Сіроткі.

А. (1562 г.);
Б. (1576 – 1589 гг.);
В. (1522 – 1525 гг.);
Г. (1570-я гг.);
Д. (1568 – 1570).

**16. Які кароль польскі і вялікі князь літоўскі, атрымаўшы першую рэдакцыю Статута, у 1522 г. паабяцаў надрукаваць яго "бітымі літарамі і ў вялікай колькасці"?**

А. Жыгімонт І; Б. Жыгімонт ІІ;
В. Аляксандр; Г. Жыгімонт ІІІ.

**17. У 1563 г. Мікалай Радзівіл Чорны надрукаваў пратэстанцкую Біблію, якая атрымала назву:**

А. Кальвінісцкая; Б. Брэсцкая;
В. Лютэранская; Г. Нясвіжская.

**18. Назавіце найбольш верагоднага рэдактара Радзівілаўскай Біблії 1563 г.**
А. С.Будны; Б. Даніэль Ленчыцкі;
В. Францыск Скарына; Г. Павел з Бжэзін.

**19. Назавіце рэдактара Біблії Івана Фёдарава (так званая “Астрожская Біблія”):**
А. Герасім Сматрыцкі; Б. Пётр Мсціславец;
В. Канстанцін Астрожскі; Г. Васіль Цяпінскі.

**20. Надрукаваная І. Фёдаравым Біблія “<...> адразу ж пасля выдання стала прадметам працы кніжнікаў ВКЛ, “кніжнага спраўлення”. Што менавіта выпраўлялася?**
А. Фактычныя памылкі;
Б. Недакладнасці перакладу;
В. Славянскія архаізмы замяняліся словамі жывой “рускай” мовы;
Г. Праваслаўная Біблія прыстасоўвалася да патрэб каталікаў і пратэстантаў.

**21. Назавіце літоўскага (паводле мовы) перакладчыка і рэдактара Святога Пісання (працаваў з 1579 па 1590 гг.):**
А. Ёган Брэтке; Б. Георг Фрыдрых;
В. Францыск Скарына; Г. Станіслаў Хілінскі.

## Блок III. Рэдактарская дзейнасць Францыска Скарыны

**1. У 1522 г. (г. Вільня) выйшла кніга Ф.Скарыны, рэдакцыю якой даследчыкі лічаць найбольш арыентаванай на маскоўскага чытача. Як гэта кніга называлася?**
А. “Псалтыр”; Б. “Апостал”;
В. “Шасціднявец”; Г. “Малая падарожная кніжка”.

**2. “Вось такія кнігі ўваходзяць у склад першай часткі “Біблії”, − піша Ф.Скарына ў “Прадмове да ўсёй “Біблії”, пералічваючы гэтыя кнігі. Указвае ён і на іх колькасць у Старым Запавеце. Працягніце фразу: “Стары Запавет уключае...”.**
А. 24 кнігі; Б. 23 кнігі;
В. Больш за 90 кніг; Г. 41 кнігу.

**3. У анатацыях Ф. Скарына падаваў назвы біблейных кніг на розных мовах. Як правіла, на якіх?**
А. Лацінскай і грэчаскай;
Б. Грэчаскай, старажытнаяўрэйскай і рускай;
В. Лацінскай, вульгаце і рускай;
Г. Старажытнаяўрэйскай і рускай.

**4. *Працягніце:* “Песні цара Давыда” па-грэцку завуцца “Псалцірон”, паяўрэйску “Цілім”; “па-грэцку “Пентацеўхан”, а па-руску...**
А. Пяцікніжжа; Б. Апостал;
В. Псалтыр; Г.Левіт.

**5. Пра якую кнігу Скарына пісаў: "У ёй прадказваецца святое Евангелле, а таксама скарочана паўтараецца ўсё тое, аб чым падрабязна гаварылася ў ранейшых кнігах"?**

А. "Быццё" Майсея;

Б. "Песні цара Давыда";

В. "Малая падарожная кніжка";

Г. "Пятая кніга Майсеева".

**6. Працягніце Скарынаву фразу: "Усе творы Старога і Новага Запаветаў, разам сабраныя, называюцца "Біблія", што па-руску азначае...**

А. Зборнік; Б. Кніга;

В. Пасланне; Г. Запавет.

**7. Назавіце адрасата Скарынавых кніг:**

А.Святары;

Б. Людзі свецкія і "простыя";

В. Кніжнікі і навукоўцы ("доктарове");

Г. Атэісты.

**8. Суаднясіце паміж сабой назвы кніг Бібліі (А – Г) і тых навук (1 – 4), якія можна, на думку Ф.Скарыны, па іх вывучаць:**

А. Псалтыр;

Б. Кнігі Саламонавы;

В. Кнігі Майсеевы;

Г. Кніга св. Іова.

1. Арыфметыка;
2. Логіка;
3. Граматыка;
4. Рыторыка.

**9. Па якіх кнігах Бібліі, на думку Ф. Скарыны, варта вывучаць геаметрыю?**

А. Кнігі "Ісуса Навіна";

Б. "Кнігі Саламонавы";

В. "Суддзі";

Г. "Пасланні св. Апостала Паўла".

**10. Скарына лічыў, што ў біблейным выказванні існуе вонкавы, усім зразумелы змест, і ўнутраны – сімвалічны. Так, егіпецкае рабства – гэта наша духоўная няволя, пасланне Майсея фараону – "знаменавала" прышэсце Хрыста на зямлю, праход сыноў Ізраілевых праз Чырвонае мора – гэта...**

А. Будучае хрышчэнне;

Б. Узыходжанне Хрыста на Галгофу;

В. Выхад чалавецтва з цемрашальства і невуцтва Сярэднявечча;

Г. Крывавыя войны і катаклізмы.

**11. Скарынава Біблія пачынаецца з наступнага радка (працягніце яго): "Искони сотворил Бог небо и землю, земля же бе неплодна и не...".**

А. Не заселена; Б. Не украшена;

В. Не засеяна; Г. "Неустроенна".

**12. Назавіце Скарынаву кнігу, рэдакцыя якой менш за ўсё арознівалася ад старaславянскіх кананічных крыніц.**

А. "Апостал"; Б. "Псалтыр";
В. "Кніга св. Іова"; Г. "Юдзіф".

**13. Якая біблейная кніга ў Скарынавай рэдакцыі выйшла з трыма вершамі (13 псалом), якія адсутнічаюць у старых рускіх рукапісах, затое прысутнічаюць у Вульгаце і некаторых чэшскіх спісах?**

А. Пяцікніжжа Майсеева;
Б. "Малая падарожная кніжка";
В. Псалтыр;
Г. Апостал.

**14. У Скарынавых выданнях часта ўжываецца рэдактарскі графічны знак "Усюдыісная Троіца". Для чаго ён выкарыстоўваецца?**

А. Для аддзялення значных частак тэксту, раздзелаў, загалоўкаў;
Б. Для акцэнтацыі ўвагі чытача на важных фрагментах тэксту;
В. Для выдзялення ўрыўка тэксту, у якім утрымліваецца інфармацыя аб Св. Троіцы, Іісусе і г.д.
Г. Гэты знак – указанне на тлумачэнне пэўнага тэрміна ў прадмове або пасляслоўі.

**15. Рэдактарскі графічны знак "Усюдыісная Троіца" ў Скарынавых Бібліях складаецца з трох "бяспечных" крыжоў і аднаго "паўмесяца". Што азначае "паўмесяц", на думку сучасных навукоўцаў?**

А. Карабель Духу (каўчэг);
Б. Духа Святога;
В. Бога-Айца;
Г. Бога-Сына.

**16. Які рэдактарскі графічны знак выкарыстоўваецца Скарынам для ўнутрытэкставага выдзялення слоў (выразаў), якія патрабуюць тлумачэння?**

А. "Усюдыісная Троіца";
Б. Двукоссе;
В. Дыкерый;
Г. Дужкі з абодвух бакоў.

**17. Скарынавы тлумачэнні размяшчаюцца:**

А. Унізе старонкі;
Б. Збоку старонкі;
В. Непасрэдна ў тэксце (як рэдактарскі каментар);
Г. Па-за тэкстам (у пасляслоўі).

**18. Як Скарына перакладае стараславянскі выраз "тьмами темъ"?**

А. Дзесяццю тысячамі; Б. Мільёнамі;
В. Сотнямі; Г. Тысячамі.

**19. Ф. Скарына звяртаецца да выдзялення пэўных частак тэксту чырвоным колерам. Што гэта за часткі тэксту?**

А. Тэкставыя фрагменты, якія змяшчаюць фактычны матэрыял;
Б. Аўтарскія рэплікі;
В. Урыўкі тэксту, найбольш важныя для чытача;
Г. Чырванню выдзяляюцца чужародныя фрагменты тэксту;

**20. Чырвоны на белым колер у Скарынавых Бібліях, апроч функцый рэдактарскага выдзялення, выконвае сімвалічную функцыю. Што або каго ён сімвалізуе?**

А. Гэта колеры дзяржаўнага сцяга ВКЛ;

Б. Гэтыя колеры сімвалізуюць хрысціянства;

В. Гэта колер Георгія Пераможцы;

Г. Гэта колер Св. Казіміра, апекуна Літвы.

## Блок IV. Рэдагаванне ў перыяд позняга Адраджэння

**1. Назавіце месца друку першага на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага Евангелля вучыцельнага:**

А. Вільня; Б. Заблудаў;

В. Нясвіж; Г. Брэст.

**2. Хто рыхтаваў рукапіс Евангелля вучыцельнага (1569 г.) да друку?**

А. Рыгор Хадкевіч; Б. Сымон Будны;

В. Браты Мамонічы; Г. Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец.

**3. Хто ў 1616 г. пераклаў Евангелле вучыцельнае на старабеларускую мову?**

А. Л.Зізаній; Б. В.Руцкі;

В. М.Сматрыцкі; Г. Л.Карповіч.

**4. Як звалі кнігаперапісчыка, які, рыхтуючы Евангелле вучыцельнае для ваяводы В.Тышкевіча, правёў рэдактарскую праўку арыгінальнага тэксту (для не зразумелых чытачу старaславянізмаў знайшоў беларускія адпаведнікі)?**

А. Іван; Б. Пётр;

В. Кіпрыян; Г. Фоцій.

**5. Назавіце друкара, які ў 1575 г. выдаў найлепшую ў Вялікім Княстве Літоўскім – “віленскую” рэдакцыю Евангелля тэтр:**

А. Д.Ленчыцкі; Б. П.Мсціславец;

В. В.Цяпінскі; Г. С.Будны.

**6. На якой мове выходзіла Евангелле Васіля Цяпінскага?**

А. На старабеларускай;

Б. На царкоўнаславянскай;

В. На старабеларускай і царкоўнаславянскай;

Г. На польскай.

**7. Назавіце асноўны прынцып падрыхтоўкі Васілём Цяпінскім рукапісу Евангелля:**

А. Гарманічнае афармленне;

Б. Даступнасць зместу;

В. Кідкасць, стракатасць мастацкіх ілюстрацый;

Г. Таннасць выкарыстаных для выдання матэрыялаў, а г.зн дэмакратычнасць.

**8. Што робіць выданне Цяпінскага блізкім да Скарынавых рэдакцый Біблій:**

А. Месца выдання (Вільня);

Б. Выдзяленне чырвоным колерам аўтарскіх рэмарак;
В. Наяўнасць глосаў;
Г. Выкарыстанне чэшскіх і нямецкіх дрэварытаў.

**9. Кніга "Ірмалой", вядомая на тэрыторыі Княства ў XVI ст., гэта (...):**

А. Малітоўнік;
Б. Строфы песняў і канонаў;
В. Збор царкоўных казанняў;
Г. Збор звестак з гісторыі пэўнага беларускага горада.

**10. З 1540-х гг. у Княстве пачынаюць з'яўляцца панегірычныя выданні. Адно з іх – "Дзесяцігадовая аповесць пра ваенныя справы пана Крыштафа Радзівіла". Хто аўтар гэтай кнігі?**

А. Андрэй Рымша; Б. Ян Радван;
В. Мікола Гусоўскі; Г. Ян Вісліцкі.

**11. Хто падрыхтаваў адну з першых у славянскім свеце друкаваную "Азбуку" (Львоў, 1574 г.)?**

А. Васіль Цяпінскі; Б. М.Сматрыцкі;
В. І.Фёдараў; Г. Л.Зізаній.

**12. Фармат львоўскай "Азбукі" (1574 г.) складае:**

А. Восьмую частку ліста;
Б. Чацвёртую частку ліста;
В. Палову ліста;
Г. Ліст паперы фарматам "А 4".

**13. У львоўскай рэдакцыі "Азбукі" пераход ад граматыкі да тэкстаў адбываецца пры дапамозе (...):**

А. Ілюстрацый; Б. Аўтарскага каментарыя;
В. Акраверша; Г. Малітвы.

**14. Другая рэдакцыя львоўскай "Азбукі" была падрыхтавана ў 1578 г. У якім населеным пункце?**

А. У Вільні; Б. У Нясвіжы;
В. У Астрогу; Г. У Львове.

**15. Чым адрозніваюцца рэдакцыі "Азбукі" 1574 і 1578 гг.?**

А. У рэдакцыі 1578 г. няма грэчаскага алфавіта;
Б. У рэдакцыі 1574 г. змешчаны і грэчаскі, і славянскі алфавіты;
В. У рэдакцыі 1574 г. няма грэчаскага алфавіта;
Г. У рэдакцыі 1578 г. няма славянскага алфавіта.

**16. Якім тэкстам завяршаецца рэдакцыя "Азбукі" 1578 г.**

А. Псалмамі для чытання;
Б. Пасляслоўем;
В. Артыкулам "О писменах".
Г. Панегірыкам мецэнату, які выдаткаваў сродкі на выданне.

**17. У 1596 г. у віленскай брацкай друкарні былі выдадзены "Азбука" і "Граматыка славенска". Хто найбольш верагодна рыхтаваў рукапісы да друку?**

А. Л.Тустаноўскі (Зізаній); Б. П.Мсціславец;
В. І.Фёдараў; Г. М.Сматрыцкі.

**18. Што характэрна для віленскай рэдакцыі “Азбукі” 1596 г.?**

А. У якасці твораў для чытання выкарыстаны палемічныя тэксты антыкаталіцкага характару;

Б. Літары алфавіта знаходзяцца ў табліцы;

Г. Змешчаны грэчаскі алфавіт, а за ім – славянскі;

Д. Падаюцца прыклады часоў дзеяслова, у асобных словах адрозніваецца націск: мука – мука і г.д.

**19. Аўтар віленскай рэдакцыі “Азбукі” напрыканцы свайго выдання размясціў “Лексис сиречь речения...”. Што гэта такое?**

А. Збор афарызмаў;

Б. Слоўнік, які падае тлумачэнні стараславянскіх выразаў;

В. Імёны славянскіх святых;

Г. Бібліяграфічнае апісанне кніг, якія выйшлі ў XVI ст.

**20. У друкарні Святадухаўскага брацтва ў Еўі (1618 г.) друкуецца “Букварь языка славенска, писаний чтения учитися хотящим в полезное руковожение”. Хто аўтар гэтай кнігі?**

А. Л.Карповіч; Б. Ст.Зізаній;

В. М.Сматрыцкі; Г. І.Фёдараў.

## Блок V. Кнігі “бітыя” ў перыяд позняга Адраджэння

**1. Хто з Радзівілаў перавёз друкарскае абсталяванне з Брэста ў Вільню, а на працу запрасіў вядомага ў Княстве майстра Даніэля Ленчыцкага?**

А. Мікалай Радзівіл Чорны;

Б. Мікалай Руды;

В. Мікалай Сіротка;

Г. Крыштаф Мікалай Пярун.

**2. Назавіце аўтара кнігі “Аб адзінстве касцёла Божага...” (1577), падрыхтаванай у друкарні Даніэля Ленчыцкага.**

А. Ст. Зізаній; Б. Л. Зізаній;

В. М. Сматрыцкі; Г. П. Скарга.

**3. Якому апекуну праваслаўных у Вялікім Княстве Літоўскім адрасавана прадмова да кнігі “Аб адзінстве касцёла Божага...” (1577)?**

А. Р. Хадкевічу;

Б. Жыгімонту ІІ Аўгусту;

В. Мікалаю Радзівілу Сіротцы;

Г. Канстанціну Астрожскаму.

**4. Назавіце першы кніжны бестсэлер Вялікага Княтсва Літоўскага, падрыхтаваны ў друкарні Даніэля Ленчыцкага.**

А. “Жыцці Святых”;

Б. “Дзесяцігадовая вайна”;

В. “Трэнас”;

Г. “Азбука” Івана Фёдарава.

**5. Які беларускі магнат загадаў перавезці з Вільні ў Нясвіж шрыфты Ф. Скарыны?**

А. Леў Сапега; Б. Астафій Валовіч;

В. Рыгор Хадкевіч; Г. Канстанцін Астрожскі.

**6. У якім годзе выйшла кніга "Катихисис то ест наука стародавная християнъская..."**

А. 1562 г.; Б. 1577 г.;

В. 1569 г.; Г. 1564 г.

**7. На які тэкст арыентаваліся Сымон Будны і Мацей Кавячынскі, рыхтуючы да друку "Катихисис..."?**

А. "Катэхізіс" Зізанія;

Б. Астрожскую Біблію;

В. "Катэхізіс" Сматрыцкага;

Г. "Вялікі Катэхізіс" Марціна Лютэра.

**8. Хто з Радзівілаў выкупляў і паліў пратэстанцкія кнігі ў Вільні на рынкавай плошчы?**

А. Мікалай Радзівіл Чорны;

Б. Мікалай Руды;

В. Мікалай Сіротка;

Г. Крыштаф Мікалай Пярун.

**9. У 1585 г. па загаду Радзівіла Віленская друкарня была перададзена:**

А. Віленскаму праваслаўнаму брацтву;

Б. Віленскай езуіцкай акадэміі;

В. Канцылярыі вялікага князя;

Г. Прыватным уласнікам Мамонічам.

**10. Хто выконваў абавязкі выпускаючых рэдактараў у Віленскай езуіцкай акадэміі?**

А. Рэктар; Б. Прэфект;

В. Выдавец; Г. Такія абавязкі былі ўскладзены на аўтараў рукапісу.

**11. У 1596 г. з'явіўся першы ў Вялікім Княстве Літоўскім падручнік прафесара акадэміі Марціна Сміглецкага. Па якой дысцыпліне?**

А. Па матэматыцы; Б. Па будаўніцтве;

В. Па гандлі; Г. Па тэалогіі.

**12. У якім годзе прывілей на выпуск кніг атрымала друкарня віленскага Свята-Духава брацтва?**

А. 1589 г.; Б. 1595 г.;

В. 1601 г.; Г. 1597 г.

**13. Якую кнігу, падрыхтаваную ў Віленскай брацкай друкарні, езуіты назвалі "баламутнай"?**

А. "Катэхізіс" Ст.Зізанія;

Б. "Катэхізіс" С. Буднага;

В. Трэнас" М. Сматрыцкага;

Г. "Казанне Св. Кірылы Іерусалімскага" Ст.Зізанія.

**14. У якім годзе Віленская брацкая друкарня выдала кнігу пад назваю "Lament iedyney i Powszechnej Apostolickiej wschodniej Cerkwie"?**

А. 1617 г.; Б.1610 г.;
В. 1595 г; Г. 1597 г.

**15. Які кароль Рэчы Паспалітай забараніў чытаць і распаўсюджваць “розныя кнігі па-руску, у друкарні рускай выдрукаваныя”? Адбылося гэта ў 1610 г.**

А. Жыгімонт II Аўгуст; Б. Жыгімонт I Стары;
В. Жыгімонт III; Г. Стэфан Баторы.

**16. “Фрынас” або “Lament”, напісаны Сматрыцкім, пачынаўся з эпікграмы на герб вядомых магнатаў. Якіх?**

А. Хадкевічаў; Б. Валовічаў;
В. Вішнявецкіх; Г. Астрожскіх.

**17. У прадмове да “Фрынаса” Сматрыцкі называе “езуіцкай роты камандзіра”. Каго менавіта?**

А. Рымскага Папу; Б. П. Скаргу;
В. В. Руцкага; Г. І. Пацея.

**18. Які каталіцкі дзеяч “адрэдагаваў” “Фрынас” М. Сматрыцкага?**

А. Л. Карповіч; Б. П. Скарга;
В. І.Пацей; Г. Ст. Зізаній.

**19. Выданне “Фрынасу” справакавала арышт рэдактара Віленскай брацкай друкарні. Як яго імя?**

А. Л. Зізаній; Б. Ст. Зізаній;
В. Л.Карповіч; Г. Пётр Мсціславец.

**20. Назавіце прозвішча мецэната, які выдаткаваў грошы на друкарню ў Заблудаве?**

А. Астрожскі; Б. Сапега;
В. Хадкевіч; Г. Валовіч.

**21. Традыцыйнае Чатырох’евангелле або Евангелле “тэтр” выдадзена Пятром Мсціслаўцам 30 сакавіка 1575 г. На якой мове?**

А. Царкоўнаславянскай;
Б. Старабеларускай;
В. Польскай;
Г. Часткова на старабеларускай і часткова на царкоўнаславянскай.

**22. У 1586 г. Мамонічы атрымалі прывілей на друкаванне “рускіх, “словенскіх” і грэцкіх кніг”. Хто падпісаў гэты прывілей?**

А. Стэфан Баторы; Б. Жыгімонт III;
В. Леў Сапега; Г. Астафій Валовіч.

**23. Калі ў выдавецкім доме Мамонічаў была завершана падрыхтоўка да друку Трэцяга Статута?**

А. 30 чэрвеня 1589 г.; Б. 1 снежня 1588 г.;
В. 20 студзеня 1592 г.; Г. 2 ліпеня 1595 г.

**24. Назавіце імя найбольш верагоднага галоўнага рэдактара выдавецкага дома Мамонічаў?**

А. Лукаш Мамоніч; Б. Кузьма Мамоніч;
В. Леў Сапега; Г. Пётр Мсціславец.

25. Колькі кірылічных перавыданняў Статута было здзейснена Мамонічамі?

А. 1; Б. Кірылічны Статут наогул не выдаваўся;
В. 3; Г. 2.

